# Азбука экалогіі - *Краявід*

Што такое краявід?

Дзіўнае пытанне. Усе ведаюць, што гэта такое. Усе, ды не ўсе.

Заглянем у акадэмічны "Слоўнік беларускай мовы". Слова там ёсць, але гэты слоўнік значэнняў не тлумачыць.

Заглянем у "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: *"Краявід - агульны выгляд якой-небудзь мясцовасці"*.

Усё. На тым удача скончылася. Слова "краявід" няма ў 18-томнай "Беларускай энцыклапедыі", няма ў 6-томнай "Энцыклапедыі культуры Беларусі".

Апошняя надзея - інтэрнэт.

Там адсылаюць да блізкіх па значэнні словаў *ландшафт* і *пейзаж*. Абсалютна, як у колішнім расейскім слоўніку: *"Водомёт сиречь фонтан"*.

Ну, давайце паглядзім, як азначаюць *ландшафт* у нашых энцыклапедыях, а - ніяк. Ёсць азначэнне "геаграфічны ланшафт", "ландшафтная архітэктура" і г.д. Але азначэнне канкрэтна слова "ландшафт" няма.

Возьмем "Слоўнік іншамоўных слоў". Там *ландшафт* гэта: 1) агульны выгляд, а таксама сукупнасць тыповых прыкмет якой-небудзь мясцовасці (напр. горны лацуг, азёрны ланцуг), 2) тое што і *пейзаж*.

Глянем слова *пейзаж* у тым жа слоўніку. *Пейзаж* - 1) агульны выгляд якой-небудзь мясцовасці (напр. горны пейзаж, лясны пейзаж); 2) малюнак *краявіду* ў жывапісе, мастацкай літаратуры (напр. пейзаж Шышкіна, пейзаж у творах Чорнага). Бачыце, *краявід* знайшоўся.

На тым і ўся беларуская навука. Прынамсі - акадэмічная навука. Дык што рабіць не акадэміку, а простаму краязнаўцу, які хоча трошкі больш напісаць пра краявід?

Давядзецца згадаць выслоўе вядомага героя вядомага твора: "Заграніца нам паможа". Па-польску *краявід, ландшафт* і *пейзаж* абазначаюцца адным словам *krajobraz*. Возьмем 6-ты том Вялікай паўшэхнай энцыклапедыі і са старонак 137 і 138 спішам артыкул **KRAJOBRAZ** ("Краявід").

*"КРАЯВІД, фізіяномія (лік, твар) паверхні Зямлі або яе часткі, якая з'яўляецца сінтэзам усіх прыродных элементаў (гзн. рэльефу, вод, кліматычных умоў, расліннага і жывёльнага свету) і чалавечай дзейнасці, што знаходзяцца ва ўзаемных стасунках і ўзаемадзеяннях; некаторыя географы трактуюць краявід трохмерна (паводле іх краявід - частка паверхні зямнога шара, якая абдымае верхнія слаі паверхні, вады, а таксама ніжнія слаі атмасферы, прычым прымаецца розная таўшчыня паверхні, ад больш за дзесяць да звыш 100 км) або нават - чатырохмерна (змены ў часе).*

*Адрозніваюцца краявід натуральны (пяршасны), у якім не праглядваецца чалавечая дзейнасць, і краявід зменены (пераўтвораны) (культурны, антрапагенічны, гаспадарчы), у якім бачацца вынікі чалавечай дзейнасці. Краявід можна апісваць, фатаграфаваць, класіфікаваць і рэгіяналізаваць; браць пад увагу дэтальныя рысы, кіруючыся тыпалогіяй краявідаў і іх рэгіяналізацыяй. У геаграфіі існуе краявідны кірунак, прадметам даследаванняў якога з'яўляецца краявід, прыняты як сінтэз прасторавага дзіферэнцыравання (раздзялення) прыроды і чалавечай дзейнасці. Гэты кірунак вядзе да класіфікацыі і падзелу Зямлі на краявідныя тыпы, якія абапіраюцца на элементы, заўважныя на тэрыторыі, на аэраздымку або таксама ў абагульненай форме, на тапаграфічнай карце. Змены краявідаў могуць быць павольныя, эвалюцыйныя (напр. у сувязі з сельскагаспадарчай дзейнасцю) або гвалтоўныя, рэвалюцыйныя (напр. аднаразавае абязлесенне, штучнае затапленне). Антрапагенічны краявід можа быць гомагенічным, г. зн. паходзіць з адной эпохі грамадска-гаспадарчага развіцця, або гетэрагенічным, у якім можна адрозніць элементы, якія паходзяць з розных эпох. У вывучэнні краявіду велізарную ролю іграе апошняе аэрафатаграфія, а таксама звязаныя з ёй метады счытвання асобных элементаў, якія складваюцца на краявідзе. Гэта і прыродныя элементы і прадметы, што з'яўляюцца вынікам дзейнасці чалавека.*

*Штораз усё больш важным становіцца неабходнасць аховы краявідаў. Чалавек, выкарыстоўваючы прыроду, часткова яе знішчае. Знішчэнні гэтыя праходзілі рознымі спосабамі ў розныя эпохі. Найбольшыя знішчэнні пачаліся ў эпоху капіталізму. Паўсталі значныя абшары пасляпрамысловых няўдобіц, узраслі забруджанне вод і паветра, пайшла высечка лясоў, знішчэнне глебаў і г.д. Каб прыпыніць шкодныя працэсы, усё больш увагі надаецца ахове прыроды і яе багаццяў, а таксама ахове краявідаў. Фармаванне (архітэктура) краявідаў - адзін з кірункаў планавання прасторы."*

Вось такі тэкст. Прынамсі цяпер па-беларуску можна прачытаць, што такое ***краявід***.

У канцы 2019 года "Наша слова" праводзіла экалагічны конкурс. На ім 2-е месца заняў Валер Дранчук з Нясвіжа з серыяй паштовак з нясвіжскімі краявідамі. Камплект паштовак з 8 штук выдадзены, але наклад малы, мала да каго дойдзе, таму мы друкуем іх у нашым часопісе.

***Станіслаў Суднік.***




*Помнік прыроды - лесапарк Альба. Нясвіж, 2018*




*Бабровая плаціна на рэчцы Гавязнянцы. 2009. Стаўпецка-нясвіжскае паможжа, дзе вёскі Петухоўшчына і Новыя Навасёлкі. Нясвіжскі раён*




***Дарога і сонцабегі. Ваколіцы вёскі Квачы. 2017. Нясвіжскі раён***




***Дуб Якуб каля вёскі Казлы. Нясвіжскі раён***




***Відок на вёску Завушша. 2017. Злева - рэшткі двара Тэафіліі і Ігната Мараўскіх (сажалка, пейзажны парк, капліца, амбар), 18 ст. Нясвіжскі раён***




***Пейзажны парк (Стары) ля замка Радзівілаў у Нясвіжы. Усходні бок. 2016***




*Ланская дарога. 2018. Ваколіцы вёскі Карцэвічы. Нясвіжскі раён*




*Рака Уша ля вёскі Макашы. 2018. Нясвіжскі раён*

# Нясвіжскія каеты



*Гісторыя…*
*Яна шануе кожную асобу,*
*І кожны штрых, і летапіс, і дату...*
*Кастусь Жук, Затур'я.*

***Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс. Першы год выдання***

**№ 3 - 4 ЛІПЕНЬ - СНЕЖАНЬ 2019 г.**

## *У НУМАРЫ:*




*Стар. 8. Хроніка*



*Стар. 15. Нясвіжскі гістарычны каляндар*



*Стар 17. Нясвіжскія юбіляры*

*Стар. 23. Як кунаскі хлопец у святары прабіваўся*



*Стар. 29. Нясвіжскае паўстанне. 1919 год*

*Стар. 35. Святло Нясвіжскага фарнага*



*Стар. 40. У што апраналіся і абуваліся сейлаўцы ў ХХ стагоддзі*

*Стар. 43. Даніна памяці*



*Стар. 52. Запозненае прызнанне*

*Стар. 61. Пра Сымона Буднага*

*Стар. 63. 1794 год*


**Дызайн вокладкі Валерыя Дранчука.**



Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Нясвіжчыны дасылаць іх на E-mail: kajety@list.ru

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў


На правах электроннага рэсурса

**Заснавальнік:**
**Нясвіжская раённая арганізацыя Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**

**Рэдкалегія:**
**Дранчук Валер ,**
**Качановіч Леанід,**
**Плакса Наталля,**
**Суднік Станіслаў**

Тэхнічны рэдактар
**Суднік Станіслаў Вацлававіч**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**kajety@list.ru**

**АДРАС САЙТА:**
**http//nslowa.by**
**http//pawet.net**
**http//kamunikat.org**
**http//belkiosk.by**

**9,25 друк. аркушаў**

**Часопіс падпісаны да друку 27.12.2019 г.**

# На Нясвіжчыне знайшлі самае буйное паселішча суслікаў у Беларусі



Пра тое, што ў Менскай вобласці жыве калонія крапчатага сусліка, арнітолаг Сяргей Шакала даведаўся ў інтэрнэце. Рэдкія для Беларусі грызуны вельмі пераборлівыя да ландшафту, селяцца на шырокіх лугах з нізкай травой, піша БелТА.

Цікавая для беларускай фаўны знаходка выявілася ў Нясвіжскім раёне: каля 230 норак налічылі на ўчастку ў 250 кв. м. Гэта паселішча самае вялікае ў краіне і, магчыма, адно з самых буйных ва ўсёй Еўропе. У халодную пару года суслікі ўпадаюць у спячку, але з-за неверагодна цёплай восені грызуны прачнуліся і зараз не спяць.



Сяргей растлумачыў: раней суслікаў у краіне было настолькі шмат, што яны лічыліся праблемай для сельскай гаспадаркі. Грызуноў знішчалі, і ў выніку ў большасці раёнаў яны цалкам зніклі. Па папярэдніх падліках, сёння ў Беларусі жыве ўсяго некалькі тысяч асобін. Папуляцыя знаходзіцца на мяжы знікнення і занесена ў Чырвоную кнігу.

Дарэчы, не толькі наўмыснае знішчэнне звяркоў прывяло да скарачэння калоній. Была і застаецца яшчэ адна сур'ёзная праблема: жывёлы масава гінуць падчас ўзворвання невыкарыстаных палёў.

Цікава, што вялікае селішча грызуноў выявілі менавіта ў Нясвіжскім раёне, бо суслікі звязаны з Радзівіламі - былымі уладальнікамі Нясвіжскага замка.

- Іх падарылі Радзівілам ў XVIII стагоддзі. Нейкім чынам яны прабраліся на тэрыторыю і ацалелі. Цяпер распрацоўваем стратэгію для таго, каб арганізаваць экскурсіі і назіранне за гэтай папуляцыяй, - распавёў дырэктар нацыянальнага гістарычна-культурнага музея-запаведніка "Нясвіж" Сяргей Клімаў.

***NN.by.***

***Ад рэдакцыі.*** У публікацыі не ўказана, дзе знаходзіцца гэтая калонія, але эколаг Валер Дранчук сведчыць, што ў ранейшыя часы вялікая калонія суслікаў жыла на былым вайсковым аэрадроме каля Гарадзеі. То, можа, і не адна калонія на Нясвіжчыне? Тым больш, што нядаўна калонія суслікаў была выяўлена і ў суседнім Карэліцкім раёне.

# Пілігрымка нясвіжскага ТБМ у Сейлавічы

29 верасня сябры ТБМ, і не толькі, у асноўным з Нясвіжскага раёна (Нясвіж, Карцэвічы, Гарадзея, Навасёлкі), а і з Менска (старшыня ТБМ Алена Анісім) наведалі вёску Сейлавічы Нясвіжскага раёна, дзе ўзялі ўдзел у прэзентацыі кніжкі Станіслава Судніка “Пілігрымка дадому”. “Пілігрымка...” выйшла год назад, паспяхова ра-














зышлася, прайшла прэзентацыя ў Лідзе, а вось нясвіжскія ўлады неяк пра тое не парупіліся. Таму грамадскасць вырашыла зрабіць гэта сама і так, як гэта бывала ў Вялікім Княстве.

Уся дзея адбывалася ў сейлавіцкім касцёле, на радзіме аўтара. Спачатку ксёндз Пётр з Нясвіжа адслужыў імшу за здароўе аўтара і павіншаваў яго з 65-годдзем. А пасля старшыня Нясвіжскай раённай арганізацыі ТБМ Наталля Плакса распачала саму прэзентацыю, якая перамяжалася з віншаваннямі.

“Пілігрымка дадому” - кніжка пра гэтую вёску, гэты касцёл, гэтую каплічку, гэтую цудадзейную фігурку Езуса Хрыстуса, якая не пакідае Сейлавічы з часоў уніі, перажыла ўсе войны і ўсе ўлады і стаіць сабе ў каплічцы, пра гэтых людзей. На прэзентацыі прысутнічалі і фактычна галоўная гераіня кніжкі Гелена Міхайлаўна Кувалдзін, і Ян Мысліцкі - сын згаданага ў кніжцы самадзейнага мастака Юзафа Мысліцкага, і кіраўнік Польскага дома з Нясвіжа Часлава Суднік, і саслужывец С. Судніка





ў Казахстане Мікола Усовіч, і, галоўнае, тутэйшыя парафіяне з Сейлавіч, Затур'і і інш., для якіх гэтая кніжачка і пісалася.

Многія з гасцей былі ў Сейлавічах упершыню і адкрылі для сябе цэлы новы свет. Сейлавічы стаяць каля дрыговіцкіх кurganоў 11-13 стагоддзя, за тры кіламетры знаходзіцца вёска



Кунаса, якая носіць імя ўнука ці праўнука легендарнага Палямона, а алтарык Езуса Хрыстуса ў каплічцы аздоблены яцвяжскім арнаментам...

І навошта тыя ідэолагі з іхнімі дазволамі, бібліятэкамі і клубамі. Пішыце добрыя і справядлівыя кнігі, прэзентуйце іх у цэрквах і касцёлах, перад сваімі людзьмі, пішыце так, каб увесь касцёл на словы ксендза: "Молімся за такога і такога паэта", - адказваў: "Выслухай нас, Пане". І тады і літаратура будзе лепшай, і лепшым будзе народ.

Няхай будзе так.

Выслухай нас, Пане!

***Яраслаў Грынкевіч.***

*Фота Валерыя Дранчука і Марыны Секержыцкай.*

*"Наша слова" № 40 (1451) ад 2.10.2019 г.*

# "Кава ў арліным гнязьдзе" ад Валянціны Аксак

*У сталічным Літаратурным музеі Петруся Броўкі прайшла прэзентацыя новай паэтычнай кнігі Валянціны Аксак "Кава ў арліным гнязьдзе". Падтрымаць аўтарку прыйшлі старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч, філосаф Валянцін Акудовіч, тэатразнаўца Вячаслаў Ракіцкі і іншыя знакавыя творчыя асобы. Максім Каўняровіч і інш.*

"Кава ў арліным гнязьдзе" - восьмая кніга паэткі, дзе 80 новых вершаў. Раней выходзілі "Капліца", "Ружоўніца", "Віно з Каліфорніі", "Дзікая сьліва", "Завінены рай".

*"У новай кнізе "Кава ў арліным гнязьдзе" - амаль поўнае зліццё аўтарскага голасу з наўкольнымі зыкамі: шаргаценнем лістоты, яблыкападам, рэхам здзічэлых садоў. Але найперш - з птушынымі спевамі. І пераўвасабленнем ва ўлюбёных арлоў, шлюбныя гульні якіх выкрасаюць у небе абрысы васмёрак. Восем - лічба, за якою бясконцасць",* - піша аўтарка ў прадмове.

Імпрэза пачалася з вершаў у аўтарскім выкананні.

- Гэтая кніжка - не для чытання, паміж 13-й і 14-й старонкай - пёрка. Паміж 18-й і 19-й - зноў пёрка. Яшчэ на адной старонцы - хмарка. Графіка мастака Генадзя Мацура - галерэя самастойных мастацкіх твораў, - кажа Валянціна Аксак.

- Я ўжо столькі кніжак зрабіў, а кожная - як першая, - кажа Генадзь Мацур. - Велічэзны дзякуй аўтарцы, якая мне даверыла паздзекавацца. Бо не кожны аўтар давярае. У мяне быў яшчэ адзін аўтар, які давяраў - Рыгор Барадулін, які на ўсё, што я рабіў, хітравата прымружыўшыся, казаў: "Гэта геніяльна!" Я заўсёды пытаюся ў аўтара: якой вы хочаце бачыць сваю кнігу - мяккай, жорсткай, пяшчотнай? Мы маглі б зрабіць кнігу з іншай ідэяй: маглі даць, да прыкладу, выяву арла. Але мне падалося, што лепш падышоў бы іншы вобраз - вобраз пёрка, аблокаў. І ў гэтым глыбокая філасофія, у пэўным сэнсе - жаночая (няхай прабачаць мяне за ўзгад гендэру). І мне хацелася рухамі, эмоцыяй праілюстраваць гэтую кнігу. Яшчэ раз хачу падзякаваць аўтару за давер.





Старшыня Саюза беларускіх пісьменьнікаў Барыс Пятровіч кажа, што хацеў пачаць вершам, але не адважыўся.

- Я чытаю кнігі з пачатку да канца - гэта паэма. Рэжысура кнігі - гэта талент. Кнігі Валянціны Аксак - вельмі цэльныя.Іх нельга чытаць з канца, з сярэдзіны, не па парадку. Іх трэба чытаць з пачатку да канца. Анатацыя да кнігі таксама чытаецца як верш, і з яе таксама зразумела, што гэта Аксак. Яе вершы заўсёды пазнавальныя. Вельмі шкада, што пакуль цалкам яе кнігі не перакладзены, перакладзеныя асобныя вершы. А вершы Валянціны цудоўна перакладаюцца. Мне дужа шкада, што творчасць Валянціны замыкаецца на Беларусі. Іх варта перакладаць на ўсе еўрапейскія мовы, - пераканаены Барыс Пятровіч.

Літаратурны крытык Ціхан Чарнякевіч кажа, што на прэзентацыях кніг Валянціны Аксак мы трапляем у містэрыю.

- Гэта падарунак, гэта пэўная метафара, паўнавартасная супраца з мастаком. Кніга - выдатны твор мастацтва, які існуе ўсяго ў 300 асобніках. Гэта сумяшчэнне хатняй утульнасьці і арлінай вышыні - разлітая кава і чорнае крыло. Тут ідзе і дыялог з

іншымі кнігамі, якія з’явіліся раней. "Дзікая сьліва" - на нерве, драпаешся голкамі. І тут - быццам бы п’еш каву і глядзіш у вышыню, у аблокі. Тут і ўспаміны пра бацькоў, як яны бачацца адсюль. Тут і ахайна ахоўваны кветнік, і дзікі сад, і іронія. Можа, кнігі Валянціны - гэта часткі паэмы, якія з’яўляюцца адна за адной, можа, гэта эпас аднаго чалавека? - задае рытарычнае пытанне Ціхан Чарнякевіч.



Аднакурсніца Валянціны Аксана Еркіна кажа, што ў гэтай кнізе - свая жаночая гісторыя, загадкавая, і няхай яна будзе таямніцай.

Калега, журналіст, тэатральны крытык Вячаслаў Ракіцкі кажа:

- Вось Валянціна жартуе, што я не люблю паэзію, люблю толькі драматургію. Але гэта няпраўда - вершы Валянціны Аксак я люблю. І чытаю. А некаторыя нават ведаю на памяць, - прызнаецца Вячаслаў.

Філосаф Валянцін Акудовіч чытаў усе кнігі Валянціны.

- Для мяне самы галоўны філосаф - Валянціна Аксак. Паэзія і паэтыка Валянціны мянялася з часам. Першая і апошняя кніжкі пададуцца нібыта кнігі розных аўтараў, хаця ў іх і шмат падабенства. У яе кнігах жаноцкасцю запоўнены ўсе шчыліны. Гэта так класна - мужчыну пагрузіцца ў жаночы свет, перакanaцца, якія мы розныя! Перада мной - кніга Матрыярха, якая трымае ў сваіх руках увесь свет, яна ў адказе за ўвесь свет. Персанальнае і экзыстэнцыйнае, вышыня і глыбіня так зліваюцца ў адно цэлае, так натуральна спалучаныя! Так піша толькі Аксак, - кажа Валянцін Акудовіч.

Рэдактарка кнігі Аляксандра Макавік узгадвае, што працуе разам з Валянцінай з 2001 года, калі спадарыня Аксак была рэдактаркай праекта "Верш на Свабоду", куды прыносілі вершы і класікі, і паэты-пачаткоўцы, і графаманы.



- І Валянціна гэта рабіла так далікатна! А цяпер я маю гонар чытаць кнігі Валянціны Аксак адной з першых. Калі быў "Завінены рай", мне здавалася, што я трапіла ў Батанічны сад. А калі я чытала гэтую кнігу, мне здавалася, што гэта арніталагічны атлас. Але, натуральна, гэта ўсё глыбейшае. Ёсць такі жанр ў кітайскім жывапісе - "кветкі і птахі", вельмі філасофскі. Паэзія Валянціны - таксама ўвасабленьне гэтых "кветак і птушак", гэта паэтычнае апісанне прасторы і руху. Гэта вельмі прыгожая каліграфія, - кажа Аляксандра Макавік.

***Радыё Свабода.***

# З роднай мовай - у год наступны!

***У Нясвіжы прэзентавалі каляндар "Маляванкі ў Ваш дом!"***

Гэта ўжо сямнаццатае выданне з календарнай серыі "Маляўнічая Бацькаўшчына" і шостае з тых, што маюць нясвіжскую тэматыку.

Месца прэзентацыі - раённы гістарычна-краязнаўчы музей - надзвычай пасавала тэме і зместу календара, які на гэты раз прысвячаецца "песнярам красы", што спавядалі прыгажосць, хараство, пекнату як сродак для ўратавання свету і Беларусі, - вандроўным мастакам-самавукам з іх маляванкамі і паэту Уладзіміру Жылку, ураджэнцу нясвіжскіх Макашоў. Як вядома, у наступным 2020 годзе 27 траўня "паэту красы" спаўняецца 120 гадоў з дня нараджэння.





Падчас экспедыцый у вёскі раёна ды шматгадовага краязнаўчага даследвання сябрамі ТБМ выяўлена за паўсотню маляванак, засведчана аўтарства большасці з іх, занатаваны біяграфічныя звесткі. Дванаццаць найбольш адметных і разам з тым характэрных для Нясвіжчыны работ размясціліся на старонках выдання ў фармаце А-3. Макет і структура кожнага месяца ўключае радкі з вершаў Уладзіміра Жылкі, літаратурна-краязнаўчыя занатоўкі, эколага-псіхалагічныя падказкі месяца, напаміны пра вартыя памяці святы і дні.

Да некаторых датаў пададзены актуальны каментар, як, напрыклад, да Дня роднай мовы - 21 лютага: у 2020 годзе спаўняецца 25 гадоў, калі адбыўся рэферэндум, які скасаваў статус беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай… Або на 1 верасня як Дзень ведаў: 86 адсоткаў беларускіх школьнікаў і 99,9 - студэнтаў атрымліваюць веды на… расейскай мове.

А ў "Падказках месяца" на снежань чытаем: *"Да запавету паэта ("Не запамятай ніколі...") на ўсіх падставах далучым і нашу святую родную мову - гаварыць і думаць па-свойму, быць нацыянальна ідэнтыфікаванай, адметнай асобай навокал і ў свеце. Гэта першае, што дае нам мова. Таму навучаймася замаўляць і сваё бескампраміснае права на самае ганаровае месца роднай мовы ў сваёй краіне. Ніякае "дзвюхмоўе" не павінна парушыць гэтае права, змяніць яго. Родная мова адна, і яна заўсёды з намі. З роднай мовай - у год*







*наступны!"*

Супрацоўнікі музея прапанавалі для агляду сваю выставу маляванак. Госці прэзентацыі чыталі вершы Жылкі - своеасаблівыя маляванкі ў слове. Гучалі слушныя прапановы па ўшанаванні памяці паэта. 2020 год нясвіжскія сябры ТБМ аб'явілі ГОДАМ ЖЫЛКІ. Каляндар стаў своеасаблівымі ўводзінамі ў яго.

***Вольга Карчэўская,***
*Нясвіж.*

**На фота.** 1. Пра каляндарную серыю "Маляўнічая Бацькаўшчына" расказвае заснавальнік, мастак і рэдактар серыі Валер Дранчук; 2. Падчас прэзентацыі; 3. Ян Мысліцкі, сын сейлаўскага мастака Юзіка Мысліцкага распавядае пра бацьку і яго маляванкі; 4. Кіраўнік дзіцячай мастацкай студыі Марына Канавалава і яе выхаванцы прэзентуюць выставу "Прыляцелі павы".

*"Наша слова" № 52 (1452)*
*ад 26.12.2019 г.*

# НЯСВІЖСКІ ГІСТАРЫЧНЫ КАЛЯНДАР

## *ліпень - снежань*

**2 ліпеня -** 75 гадоў (1944 г.) з дня вызвалення г. Нясвіжа ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў часткамі 193-й стралковай дывізіі 65-й арміі ва ўзаемадзеянні з партызанскай брыгадай № 27 імя Чапаева. За мужнасць і гераізм, праяўленыя ў баі з 8-ю варожымі танкамі, з якіх 5 былі знішчаны, лейтэнанту М.П. Лешчанку было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Баявымі ўзнагародамі былі ўзнагароджаны і астатнія ўдзельнікі бою.

**2 жніўня** - 470 гадоў (1549 г.) з дня нараджэння **Мікалая Крыштафа Радзівіла** (мянушка Сіротка). Дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ, мецэнат, пісьменнік. Сын М. Радзівіла Чорнага. Пачатковую адукацыю атрымаў у Лукішках пад Вільняй і ў Нясвіжы. Вучыўся ва ўніверсітэтах Страсбурга і Цюбінгена. 1.07.1569 г. падпісаў акт Люблінскай уніі, хоць надалей негатыўна яе ацэньваў. У 1582-84 гг. князь М.К. Радзівіл Сіротка здзейсніў падарожжа ў Святую зямлю, аб чым напісаў у кнізе **"Ерусалімскае паломніцтва Мікалая Крыштофа Радзівіла, князя ў Алыцы і Нясвіжы, графа ў Шыдлоўцы"**, якая выйшла спачатку на латыні, а затым на польскай мове **"Перэгрынацыя, або Паломніцтва Ясна Асветленага князя Ягамосці Мікалая Крыштофа Радзівіла ў Святую Зямлю"**. Разам з братамі Станіславам і Альбрыхтам стварыў у 1586 г. Нясвіжскую, Клецкую і Алыцкую ардынацыі, стаў першым нясвіжскім ардынатам. У 1579 г. выдаў прывілей на самакіраванне гораду Мір. Па просьбе М.К. Радзівіла ў 1586 г. Стэфан Баторы надаў Нясвіжу Магдэбургскае права. Фундаваў касцёлы і шпіталі ў Нясвіжы, Міры, Свержані і інш. Збудаваў замкі ў Белай і Нясвіжы (сабраў там галерэю партрэтаў, бібліятэку, збраёўню). Заснаваў у Нясвіжы езуіцкі калегіюм, кляштар бенедыкцінак, кляштар бернардзінаў (разам з жонкай). У Альбе пад Нясвіжам заклаў прыгожы парк. Па ініцыятыве М.К. Радзівіла і за яго кошт выдадзена першая дакладная карта ВКЛ (каля 1603 г., захавалася 2-ое выданне, Амстэрдам, 1613 г.). М.К Радзівіл памёр і пахаваны ў Нясвіжы.




**Жнівень** - 435 гадоў (1584 г.) таму назад:

- дароўны ліст **Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі** езуітам аб заснаванні калегіюма і яго матэрыяльным забеспячэнні.

**8 верасня** - 115 гадоў (1904 г.) таму назад у вёсцы Завітая нарадзіўся **Афанасій (Антон Вікенцьевіч) Мартос** - праваслаўны манах, святар, рэлігійны і культурна-грамадскі дзеяч, даследчык гісторыі беларускага рэлігійнага і царкоўнага жыцця. Архіепіскап Афанасій - аўтар манаграфіі **"Матэрыялы да гісторыі Праваслаўнай Беларускай царквы"** і кнігі **"Беларусь у гістарычным, дзяржаўным і рэлігійным жыцці".**

**21 верасня** - 65 гадоў таму назад (1954 г.) у вёсцы Сейлавічы нарадзіўся **Станіслаў Суднік,** намеснік старшыні ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", рэдактар газеты “Наша слова”, паэт, сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў.

**24 верасня** - 75 гадоў (1944 г.) з дня адкрыцця ў Нясвіжы **педагагічнага вучылішча**, якое

функцыянавала 12 гадоў. У 1956 годзе педагагічнае вучылішча было зачынена, а яго навучэнцы пераведзены для прадаўжэння навучання ў Пінскае вучылішча. 12 траўня 1984 года ўрад Беларусі прымае пастанову аб адкрыцці, а дакладней, аб узнаўленні ў Нясвіжы педагагічнага вучылішча. Яно адкрылася на базе агульнаадукацыйнай школы-інтэрната. Дырэктарам прызначаны Валянцін Захаравіч Бруй. У 1994 годзе педагагічнае вучылішча было перайменавана ў педагагічны каледж, а з 2003 года каледжу прысвоена імя Якуба Коласа. З 2010 года калектыў узначальвае Валянціна Васільеўна Жураўлёва. На сёння ў навучальнай установе праводзіцца навучанне па шасці спецыяльнасцях. Навучэнцы з ахвотай займаюцца ў гуртках і маюць высокія дасягненні. Народны ансамбль "Нясвіжскія лыжкары", вакальная студыя "Шанс", ансамбль народнай песні "Кола", інструментальны ансамбль "Дыліжанс" з'яўляюцца жаданымі ўдзельнікамі многіх мерапрыемстваў, канцэртаў і фестываляў.

**2 кастрычніка** - 200 гадоў таму назад (1819 г.) у маёнтку Смалічы Слуцкага павета нарадзіўся **Аляксандр Незабытоўскі**. Беларускі пісьменнік, філосаф, гісторык. Вучыўся ў прыватным французскім пансіёне ў Варшаве, у Дэрпцкім універсітэце (1835 - 1838 гг.). Таленавіты публіцыст і празаік, дасціпны крытык і ўдумлівы філосаф, ён выступіў у сваіх творах як перакананы дэмакрат і заўзяты вораг дэспатызму і царскай манархіі, смелы вальнадумец і атэіст. Незабытоўскі заклікаў народ на барацьбу супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, патрабаваў скасавання паншчыны, адмаўляў існаванне Бога. За спробу перавезці з-за мяжы свае і чужыя нелегальныя выданні быў арыштаваны, сядзеў у пінскай, менскай і віленскай турмах, засуджаны да пазбаўлення дваранскіх і маёмасных правоў і 20-гадовай катаргі ў сібірскіх рудніках. Памёр да выканання прысуду.

**30 кастрычніка** - 30 гадоў таму назад (1989 г.) у Нясвіжы па вуліцы Ленінскай у адрэстаўраваным будынку канца 19 ст. створаны **Нясвіскі гісторыка-краязнаўчы музей**. Першая выстава была адкрыта восенню 1994 года.

**70 гадоў таму назад** (1949 г.) лепшыя пявунні **Карцэвіч і Малева** аб'ядналіся ў вясковы хор. Ім кіравалі прафесійныя музыкі з Нясвіжа - Садоўскі, Мельнікава, Гурын. У 1996 годзе найбольш адданыя песні ўдзельніцы калектыву (былога хору) склалі Малёўскі фальклорны гурт - старэйшы на Меншчыне па ўзросце спевакоў. Сёлета Зінаідзе Антонаўне Шах, заўсёднай яго ўдзельніцы, споўніўся 91год.

**60 гадоў таму назад** (1959 г.) у канцы года ўведзены ў эксплуатацыю другі цукровы завод у Беларусі - **Гарадзейскі**. 26 снежня ён выпусціў першую прадукцыю.



**45 гадоў таму назад** (1974 г.) у в. **Карцэвічы** адкрыта сярэдняя школа; 1 верасня распачаліся заняткі ў новым будынку.

**40 гадоў таму назад** (1979 г.) пайшоў з жыцця нясвіжскі мастак **Міхал Сяўрук**.

**40 гадоў таму назад** (1979 г.) у в. Аношкі створаны ансамбль **"Лянок"**. У 1995 годзе яму прысвоена званне “Народнага”.

**15 гадоў таму назад** (2004 г.) створаны футбольны клуб **"ГАРАДЗЕЯ"**.

# *АФАНАСІЙ МАРТОС:*

# Хто аброс чужым мясам, не ўмее любіць Беларусь

*Адданасць Бацькаўшчыне - радзіме, роднаму беларускаму свету праз усё жыццё спадарожнічала нашаму земляку **Антону Мартосу (архіепіскапу Афанасію).***



Калі глядзіш на яго даўні, яшчэ даваенны фотаздымак, можа падацца, што гэта няйнакш вучоны - калі не гісторык ці мовазнавец, то даследчык-географ: высокі адкрыты лоб, акуляры з круглымі шкельцамі, уніклівы позірк. Хударлявы. Адно што адзенне выдае ў ім святара. Архіепіскап Афанасій (свецкае імя Антон Вікенцьевіч Мартос) - прыкметны рэлігійны дзеяч XX стагоддзя.

І разам з тым гэтыя першапачатковыя здагадкі - хто ён? - маюць свае падставы: нарадзіўшыся на самым пачатку мінулага стагоддзя і пакінуўшы свет на 80 годзе жыцця, Антон Мартос знаходзіўся ў віры гістарычных падзей свайго часу, даследаваў гісторыю царквы, выдаваў кнігі, ведаў пяць моваў, павандраваў па свеце, пачынаючы з Польшчы, Германіі і завяршаючы гарадамі Аўстраліі, краінамі Паўднёвай і Паўночнай Амерыкі. Толькі ўсё, што рабіў ён, было шчыраваннем розуму і сэрца на ніве Хрыстовай.

Выходзіў жа на святыя палеткі Антон Мартос з Нясвіжчыны, бо нарадзіўся ў сялянскай сям'і праваслаўных вернікаў Евы і Вікенція ў вёсцы Завітая. Хрысцілі яго ў Свята-Пакроўскай царкве, што ў Вялікай Ліпе. Вучыўся ў народнай школцы ў Крутым Беразе, пасля ў Нясвіжы - у вышэйшай вучэльні і гімназіі. Ужо ў сталым веку, далёка за морам, пра сваё дзяцінства і ранняе юнацтва ён напіша: *"Завітая была маёй нянькаю, а Нясвіж - настаўнікам. Тут прайшлі мае маладыя гады. Старэнькі дзед Макаш казаў мне казкі пра былое, а Завітанскі лес разбудзіў у маім сэрцы любоў да красы прыроды ды навучыў Богу маліцца ў адзіноце..."*

І далей, яшчэ раз: *"У Завітой я навучыўся верыць і маліцца."*

Выкажу беспамылковую здагадку і ўвагу, што прозвішча святара ў беларускім варыянце гучыць як Мартос, гэта значыць, па-нашаму, па-беларуску. Такіх прозвішчаў нямала і цяпер у Гарадзеі, навакольных вёсках, да якіх належыць Завітая, дый шмат дзе на Нясвіжчыне. Але за польскім часам па дакументах праходзіў польскамоўны варыянт - ***Мартас***, з націскам на другім ад канца складзе (тым больш, што завітанскі хлопец служыў у польскім войску, пасля вучыўся на факультэце праваслаўнай тэалогіі Варшаўскага ўніверсітэта). На жаль, спаланізаваны варыянт прозвішча захаваўся па сёння і застаецца ці не адзінаўжывальным у розных даведніках і энцыклапедыях.

Сам жа Антон (царкоўнае імя Афанасій) да скону дзён заставаўся беларусам: падкрэсліваў гэта ў анкетах; у гады вайны бараніў пры-



хаджан Наваградскай епархіі ад прымусовага вывазу ў Германію (гэта значыць, ад пагрозы пазбавіць людзей сваёй Бацькаўшчыны-Радзімы); у паваенным Гамбургу, прызначаны правячым архіерэем Паўночна-Германскай епархіі, духоўна апекаваў усходнеславянскіх эмігрантаў; сабраў багаты матэрыял і там жа, у Германіі, на беларускай мове выдаў кнігу **"Гісторыя Беларускай Праваслаўнай Царквы".**

Пазней уладыка Афанасій прызначаецца епіскапам Мельбурнскім, вікарыем Аўстралійскай епархіі, праз 6 гадоў пераведзены на Аргенціна-Парагвайскую кафедру, пасля атрымоўвае тытул архіепіскапа Буэнас-Айрэскага і Аргенцінскага - як і раней напоўніцу шчыруе на ніве Хрыстовай. А ва ўспамінах піша:

*"З заморскага краю чулае сэрца рвецца на родныя гоні, а душа імкнецца ў мінулае, шукаючы там супакою. Туга па роднай краіне мацнее на далёкай чужыне…"*

Падрабязна прыгадвае наш зямляк сваю сустрэчу з бацькаўшчынай ў 1928 годзе (тады Антону-Афанасію было 24 гады).

*"На летнія вакацыі … я паехаў у вёску. …Усе мае даўнія сябры і знаёмыя ў Завітой былі ласкавыя і ўважлівыя да мяне. Суседзі-святары, якія раней не ведалі мяне, запрасілі да сябе на прастольныя святы: у Сноў - на першавярхоўных апосталаў Пятра і Паўла 12 ліпеня (29 чэрв. ст.ст.) за 15 км., і ў Гарадзею - на свята святога прарока Іллі 2 жніўня (20 ліп. ст.ст.). У гэтых храмах я браў удзел у служэнні Літургіі. Упершыню я пазнаёміўся бліжэй з прыходскімі бацюшкамі, з іх прыхаджанамі і багамольцамі, якія зрабілі на мяне глыбокае ўражанне сваёй набожнасцю. Прапаведнікі гаварылі змястоўныя павучанні, мне здалося лепшыя, чым у Варшаве.*

*Расставаўся я з родным домам, з усімі месцамі і сцяжынкамі, па якіх хадзіў, са слязьмі. Душа адчувала, што апошні раз бачу іх. Так і не давялося мне пабываць яшчэ раз на радзіме. Мінула пасля таго ўжо 50 гадоў, цэлыя паўстагоддзя, а ўсе гэтыя месцы стаяць у мяне перад вачыма як наяве, у поўнай сваёй красе і прывабнасці".*

Да апошніх дзён Антон Мартос дасылаў у Завітую лісты і пасылкі, якія атрымоўвалі па адрасе вул. Лясная-63. Па ўспамінах Канстанціна Канстанцінавіча Мартоса, яго ўнучатага пляменніка, у гэтым доме жыла з дзецьмі Вольга Мартос, братава жонка святара.

Мяркуецца, што менавіта там нарадзіўся і пражыў раннія гады наш выбітны зямляк. У сваіх допісах нязменна цікавіўся жыццём на бацькаўшчыне, завітанскімі навінамі. Адказы цешылі: усе пляменнікі вывучыліся, выйшлі ў людзі, а ў вёсцы, на новай вуліцы, паклалі асфальт… Характэрная асаблівасць гэтага ліставання з Домам у Завітой, якую адзначаюць родныя, - нязменная беларуская мова. І сёння для нас вельмі важна, што частка перапіскі захавалася, з часам лісты на роднай мове могуць стацца добрым наглядным матэрыялам для радзімазнаўства, патрыятычнага выхавання.

Прадмову да згаданай кнігі, якая вытрымала тры выданні, у тым ліку, з Божае ласкі ды дабраслаўлення мітрапаліта Філарэта ў 2000 годзе, архіепіскап Афанасій заканчвае на асаблівай патрыятычнай ноце. Такое шчырае, глыбока мудрае, і разам з тым простае ў сваёй сутнасці прызнанне да роднай старонкі мала калі і пачуеш: *"Каб моцна яе любіць, трэба беларусам радзіцца і беларусам памерці, бо хто аброс чужым мясам, не ўмее любіць Беларусь"*. Цудоўны прыклад для нашчадкаў і вернікаў!

Думаючы пра лёсы такіх людзей як Антон Мартос, засмучаешся і радуешся адначасна. Беларусь, Радзіма-Бацькаўшчына, маці-старонка з розных на тое гістарычных, дзяржаўна-палітычных прычын і абставін, не магла прытуліць сваіх сыноў, скарыстацца іх талентам дзеля свайго духоўнага росквіту і будучыні. Пазбаўленыя на ўсё жыццё радзімы, яны мусілі жыць са шчымлівым пачуццём вялікай ростані. А падобныя жыццёвыя лініі бачым і ў святара Аляксандра Надсана, ураджэнца Гарадзеі, і Кузьмы Чурылы, мастака з вёскі Круты Бераг, Алеся Вініцкага з Малева, кіраўніка і аднаго з заснавальнікаў першай беларускай гімназіі на тэрыторыі Нямеччыны, у вучонага, нацыянальнага героя Чылі Ігната Дамейкі з суседскай Карэліччыны, пісьменніка Антося Галіны, брата Якуба Коласа, ураджэнца ўсім вядомай Мікалаеўшчыны. А радасць і заспакоенасць ад усведамлення, што і на чужыне яны змаглі пабудаваць свой лёс, годна прадстаўлялі родны край і народ у вялікай шматнацыянальнай людской супольнасці, заставаліся да скону дзён беларусамі, не пакідалі роднай мовы, а малая радзіма - сціплыя мястэчкі ці вёсачкі, як тое ў Антона Мартоса, была самым святым, самым прыцягальным і мілым месцам на свеце.



***Н. Плакса.*** *Нясвіж*
*Фота В. Дранчука.*

На здымках:

1. Фота 30-х гадоў.

2. Родная хата ў Завітой.

3. Жыхар Завітой Канстанцін Чурыла ведае жыццё і біяграфію земляка не толькі па ягонай кнізе, але і з успамінаў сваіх бацькоў і аднавяскоўцаў.

# Сяргею Чыжыку - 60



**Сяргей Антонавіч Чыжык (**н. 28.05.1959, в. Асмолава, Нясвіжскага раёна, Менскай вобласці), навуковец у вобласці фізікі і механікі паверхняў на мікра- і нанаўзроўні, нанадыягностыкі. Акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (2014; чл.-кар. з 2009), доктар тэхнічных навук (1998), прафесар (2007).

З 2014 г. - першы намеснік старшыні прэзідыума Нацыянальнай Акадэміі навук.

Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (1980).

З 1980 г. у Інстытуце механікі металапалімерных сістэм імя В.А. Белага НАН Беларусі, з 1999 г. загадчык лабараторыі, з 2002 г. загадчык аддзела, з 2007 г. намеснік дырэктара Інстытута цепла- і масабмену імя А.В. Лыкава НАН Беларусі.

З 2008 г. намеснік галоўнага навуковага сакратара, у 2009-2012 гг. галоўны навуковы сакратар Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі.

З лютага 2012 г. намеснік Старшыні Прэзідыума Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. Адначасова загадчык лабараторыі Інстытута цяпла- і масаабмену імя А.В. Лыкава НАН Беларусі. Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 2 траўня 2014 г. № 201 прызначаны Першым намеснікам Старшыні Прэзідыума Нацыянальнай Акадэміі навук. Чалец рэдкалегій часопісаў "Даклады НАН Беларусі", "Механіка машын, механізмаў і матэрыялаў", "Інжынер-механік".

Навуковыя даследаванні ў вобласці трыбамеханікі прэцызійнага кантакту, фізікі і механікі паверхняў на мікра- і нанаўзровні, наноструктурнага матэрыялазнаўства, нанадыягностыкі матэрыялаў метадам атамна-сілавой мікраскапіі. Ім атрыманы асноватворныя заканамернасці фармавання і функцыянавання прэцызійнага фрыкцыйнага кантакту, распрацаваны статыстычныя мадэлі кантакту шматузроўневых шурпатых паверхняў ва ўмовах эфектыўнага дзеяння павярхоўных сілаў, якія былі скарыстаны пры праектаванні працоўных паверхняў у сістэмах магнітнага запісу, мікрапінцэтах і мікраэлектрамеханічных сістэмах. Пад яго кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле распрацаваны метады, створаны тэарэтычныя мадэлі і ўнікальнае абсталяванне для комплекснага аналізу паверхняў на нанаўзроўні. Распрацаваны новыя працэдуры ў атамна-сілавой мікраскапіі: латэральна-сілавая спектраскапія, асцылюючая трыбаметрыя, нанавыцягванне і нанасвідраванне. Распрацаваны тэхналогіі мембранна-капілярнага транспарту, для стварэння зондаў-нанаманіпулятараў на базе вуглярodных нанатрубак, кантраляванага фармавання на лязе зонда адзінкавых нанааб'ектаў (часціцы, пражкі, ніткі з нанатрубак), з наступнай ацэнкай іх фізіка-механічных уласцівасцяў. Развіваюцца новыя кірункі - нанатамаграфія прыпаверхневага пласта і клеткавая нанамеханіка. Пад яго кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле выканана распрацоўка і ўпершыню з 1994 г. наладжана вытворчасць айчынных атамна-сілавых мікраскопаў серый "Нанатоп" і "Нанатэстар", якія выкарыстоўваюцца ў дзясятках навуковых і завадскіх лабараторый Рэспублікі Беларусь, а таксама пастаўляюцца за мяжу.

Аўтар больш за 280 навуковых прац, у т.л. 2 манаграфій, 7 патэнтаў.

**Асноўныя працы:**

Механика дискретного фрикционного контакта. Мн.: Навука і тэхніка, 1990 (у суаўт.).

Атомно-силовая микроскопия в оценке состояния синаптосомальной мембраны. Мн.: Изд. центр БГУ, 2002 (у суаўт.).

***Паводле СМІ.***

# Жыццё даўжынёй у 96 год

*Прысвечана Кудзін (Гунько) Веры Філіпаўне, мясцовай жыхарцы г.п. Гарадзея Нясвіжскага р-на.*

Дзякуючы людзям і іх сямейным архівам, мы не можам згубіць сваю гістрыю, гісторыю свайго краю, гісторыю паходжання сваёй сям'і. Сягоння наша гераіня мясцовая жыхарка Гарадзеі - Вера Філіпаўна Кудзін (Гунько).

Гэта жанчына пабачыла шмат гора, якога яна б нікому не пажадала, і якое яна змагла перажыць сама. Яна паспела пажыць пры Польшчы, пазнаёміцца з бальшавізмам і перажыць Другую сусветную вайну.



Нарадзілася Вера 7 траўня 1923 года ў сям'і пісара, і таму ў дзяцінсве яе не раз называлі "пісарава дачка". Яе бацька, Гунько Філіп Рыгоравіч паходзіў родам з Гарадзеі Горнай, першы час яму давялося служыць у пісараў. *"Ён быў вельмі харошы"*, - успамінае Вера, - *"Але забілі яго, немец застрэліў у пограбе, калі ён, як і іншыя, хаваўся ад нямецкіх налётаў. Куля яму трапіла ў вісок, таму і смерць наступіла адразу"*. Маці, Веры Філіпаўны Ганна, была з сям'і Лугоўскіх. Бацькі да вайны працавалі на юдэяў, займаліся пастаўкай ільну дзеля вядомай на ўсю Польшчу фабрыкі "WILENKA". Бацька ў амбары прасаваў лён, а маці лён часала. Вера Філіпаўна і сёння памятае імёны ўладальнікаў тае фабрыкі, Вольх быў загадчыкам, а Залман быў яго братам.

У Сям'і Гунько выжыла 8 з 12 дзяцей. Чатыры дачкі: Гэля, Вера, Зіна і Ганна (была краўчыхай, навучыла вядомую гародзейскую швачку Яніну Ялтыкову шыць сукенкі, а пасля пераехала жыць у Польшчу), і чатыры хлопцы: Іван (забіты на фронце), Мікалай (памёр у Расеі), Сяргей, Косця. Дзяцінства самой Веры Філіппаўны не адрознівалася ад жыцця іншых дзяцей. У дзяцінстве яна хадзілі ў Спаса-Праабражэнскую царкву, што стаяла ў лесе, і спявала на клірасе.

У школьным узросце дзяўчынка працавала ў аднога габрэя, раніцай падмятала вуліцу, а пасля бегла дадому снедаць, адкуль ішла ў школку. Вера Філіпаўна вельмі ганарыцца, што з дзяцінства пачала зарабляць грошы, каб не быць нікому абавязанай. Крыху пазней, Вера пачала працаваць у адной польскай пані, дзе адціскала зерне лёну. Але Вера не любіць успамінаць той час, бо пані не добра ставілася да Веры, заўсёды крычала ёй: "Вера, рабі!"

Пасля прыходу саветаў у 1940 годзе, Вера Філіпаўна пайшла працаваць лабарантам на зернесховішча, у яе абавязкі ўваходзіла прымаць ад людзей зерне, дзе яна павінна была браць пробу на яго вільготнасць. З цягам часу Вера была накіравана на курсы лабарантаў, якія доўжыліся амаль з месяц, а як вярнулася з курсаў, пачалася вайна.

Немцы прыйшлі ў Гарадзею 26 чэрвеня 1941 г. Ля хаты Кудзінаў пасяліліся немцы, а жыла тады Вера ў пачатку вуліцы 17-га верасня (3-я хата справа). Немцы папярэдзілі ўсіх, што маладых незамужніх дзяўчат забяруць у Нямеччыну, але чамусьці Веру не забралі, і яна засталася ў Гарадзеі. Праз год, у 1942 годзе, яна выйшла замуж за мясцовага гародзейца Аляксандра Нікіфаравіча Кудзіна, 1919 г.н., які ў 1944 годзе быў прызваны на вайну, і ўжо ў кастрычніку таго ж года, ён прапаў без звестак. Так Вера Кудзін засталася без мужа і пры тым, у цяжарным стане.

Цяжка ёй давялося ў той час, але Вера Філіпаўна вельмі моцны чалавек, яна вытрымала ўсе цяжкасці, прайшла праз усе пакуты. Пасля замужжа яна перабралася жыць у хату свайго свёкра ў

якога было тры дачкі: Волька, Ніна, Маня.

Час гарадзейскага Халакосту Вера памятае вельмі добра. За некалькі дзён да смерці габрэяў, іх змусілі выкапаць ля могілак вялізную яму. Вера ведала тых хлопцаў, бо яны не раз прыбягалі да яе маці, просячы даць ім малака. Канечне ж, хлопцы запытваліся ў Ганны, што будзе на гэтым месцы:

- Цётка Ганна, скажы, што гэта мы капаем? Што гэта будзе тут? - але дакладнага адказу яны не атрымоўвалі, не таму што ніхто не ведаў, аднак, ніхто не адважваўся ім пра гэта казаць.

Той дзень Вера памятае і сёння.

- Гэта быў сташны дзень, я стаяла і глядзела, як мноства людзей, як старых так і маладых, у сваіх самым найлепшым адзенні ішлі да месца сваёй смерці.

Вера амаль не страціла прытомнасць ад той жудаснай карціны. Залп выстралаў, людскія крыкі...

Далей Вера не хоча прыпамінаць. Усе былі перапалоханыя тымі падзеямі, кожны мог трапіць да ліку застрэленых.

На другі дзень па сяле прайшоў слых, што зямля ў тым месцы варушыцца, ад такой весткі зусім становілася цяжка, а падыходзіць да таго месца ніхто не аджваўся.

У 1944 годзе Вера Філіпаўна нарадзіла хлопчыка і дала яму імя Вася. З слязамі на вачах распавядае гэта наша гераіня. Шмат хавацца даводзілася ад немцаў, успамінае яна. Неяк давялося ёй гнаць дзвюх кароў і цяля да сваёй цёткі Фанцыі, якая жыла ля лесу. І ў той час ля яе пачаў апускацца нямецкі самалёт. Першая думка якая ўзнікла ў Веры: "Зараз знясуць", але немцы апусціўшыся поблізу падбеглі да яе, паглядзелі што яна ідзе з дзіцем на руках развярнуліся і паляцелі далей, на Стоўбцы.

- Самалёт ляціць, крыллі сцёрліся. Мы вас не звалі, а вы прыпёрліся, - смяецца наша суразмоўца.

Веры, разам з мясцовымі жыхарамі, шмат даводзілася хавацца ў лесе. Там былі зроблены бліндажы і асабліва ў не спакойны час гародзейцы ўцякалі з мястэчка і чакалі лепшых часоў. Так і перачакала Вера Філіпаўна вайну, а пасля вайны сама пабудавала сабе хату, трымаючы карову і свіней. Месяц жыла ў Снове, працавала лабарантам на сушцы зерня. Затым цяжкая праца на "пуцях", (так мясцовыя называлі працу на чыгунцы), дзе Веры Філіпаўне даводзілася ссыпаць пясок і каменне. Потым паехала працаваць у Негарэлае на тую ж самую чыгунку і з той жа складанай працай, дзе




квартаравала ў Лазоўскіх. Затым у Міхаіла Эдуардавіча Лазоўскага і Веры Філіпаўны нарадзілася дачка Ганна.

Так і ішоў час. Праца за працай, дзень за днём і вось, у гэтым годзе, 7 траўня Вера Філіпаўна адсвяткуе свой 96 дзень нараджэння.

96 год Вера Філіпаўна жыве ў нашым улюбёным краі, жыве ўсё на той жа вуліцы, якую некалі называлі "Горны Гародзей", а зараз 17-га верасня. Жыве сабе чалавек і моўчкі прыпамінае тыя падзеі свайго жыцця, якія здолела перажыць самастойна, калі на яе вачах паміралі знаёмыя і блізкія людзі, дзе быў час жарстокасці і зневажання да чалавека. Час школьніцтва з вывучэннем незнаёмай мовы і дзіцячай працы, час паважання царконых свят і служэння Богу, час страты блізкіх і родных людзей, час незнаёмай жарстокасці, час голаду і болю, час страху і нязгод, час незразумелых рэпрэсій і час вяртання да жыцця, час страты надзеяў, час станаўлення, час спаткання і час растання, і нарэшце час супакою.

Калі папытацца ў Веры Філіпаўны, які з гэтых часоў быў самым адметным, яна вам не зможа адказаць, бо няма такога часу ці падзеі, жыццё забірае адно, а дае іншае, жыццё заўсёды будзе неспадзяваным, і верыць, і давяраць можна аднаму толькі Богу.

***Наталля Апацкая.***

*Леанід Лаўрэш*

# Як кунаскі* хлопец у святары прабіваўся

*У Віленскім архіве захоўваецца **"Справа аб жыцці і звычаях аспіранта*** (прэтэндэнта на пасаду святара *Л. Л.*) ***ВП Цыпрыяна Плаўскага, ад 24 лістапада 1803 года".***

*З дакумента можна даведацца, як у 1803 г. у Нагародавіцкай плябаніі Лідскага дэканата разбіралася справа аб высвячэнні святарскага сына Цыпрыяна Плаўскага ў святары.*

*Справа пачалася распараджэннем біскупа Язафата Булгака, які даручыў Лідскаму дэкану Стэфану Гарбацэвічу, згодна з кананічным правам і рашэннямі Замойскага сабору, правесці належнае расследаванне.*

## *Справа аб жыцці і звычаях аспіранта ВП Цыпрыяна Плаўскага, вырашаная 24 лістапада 1803 года***

“Ігнат Язафат Булгак, з Божай ласкі і дабраславення Святога Апостальскага пасаду біскуп Берасцейскі ў губернях Літоўскай, Менскай, Курляндскай.

Вялебнаму айцу Стэфану Гарбацэвічу, дэкану Лідскаму, міламу нам у Хрысце, збаўленаму ў Госпадзе. Абвяшчаем, што мы, згодна з прадпісаннямі кананічнага права і рашэннямі Замойскага сабору, жадаем мець неабходныя і дастатковыя звесткі і быць перакананым у фактах аб нараджэнні, жыцці, паводзінах, талентах і адукацыі ВП Цыпрыяна Плаўскага, прэтэндэнта на духоўнае званне і гэтым дакументам вырашылі даручыць тваёй міласці правядзенне належнага расследавання. Так, у імя Госпада загадваем, каб, падабраў для гэтай справы прыдатнага таварыша і гэты выбар пазначыў ў гэтым жа дакуменце, ... як мага больш старанна, з інстыгатарам (дазнаўцам) дэканата, да выпрабавання спраў такога роду прысягай абавязанага, ... у тэрмін, неабходны пасля абвяшчэння, прыехаць на месца нараджэння ці найбольш працяглага пражывання Цыпрыяна Плаўскага і там пасля належнага абмеркавання, сваёй юрысдыкцыяй знайсці (звесткі) па наступных пунктах:

1-е. Чый сын Цыпрыян Плаўскі і якога ён роду;

2-е. Дзе, кім і калі быў ахрышчаны і бежмаваны;

3-е. Пры кім і дзе ў маладыя гады знаходзіўся, чым займаўся і як сябе ў маладосці паводзіў;

4-е. Дзе і якім чынам набываў веды, неабходныя для святарскага сану; ці не заражаны якойнебудзь ерассю або вальнадумствам;

5-е. Якіх паводзінаў: ці не схільны да п'янства, да азартных гульняў, да сварак; ці паважае старэйшых, ці далікатны з роўнымі;

6-е. Ці здаровы, ці не пакутуе на вар'яцтва, ці не мае падучай ці якой-небудзь іншай хваробы;

7-е. Які мае сямейны стан: халасты або жанаты; з дзяўчынай або ўдавой ўступіў у шлюб; якое стаўленне людзей да яго жонкі;

8-е. Па якіх прычынах жадае ўступіць у духоўнае званне: як даўно рашыў пайсці на гэтую вакансію, ці быў бачны ў ім дух пакоры, пабожнасці, старання аб славе Божай і выратаванні бліжняга;

9-е. Якія мае кананічныя правы, неабходныя для становішча, ці дастатковыя яны для прыстойнага існавання (забеспячэння); ці не атрымаў іх шляхам змовы, ці будзе мець іх і потым, а не толькі зараз, калі трэба атрымаць пасвячэнне на царкоўнае званне;

10-е. Ці мае царкоўны прыход, на які будзе прызначаны аспірант, фундуш, якой якасці, ці ў мірным валоданні парахаў ён знаходзіцца, ці з вялікай колькасці парафіяльных душ складаецца, колькі налічвае мужчынскага і жаночага насельніцтва.

(Абавязваю Вас) падаць сведчанні ад сведкаў, годных веры, сярод якіх (павінна быць) не менш за два капланы, якія добра ведаюць названыя абста-

* Кунаса - вёска ў Сейлавіцкім сельсавеце Нясвіжскага раёна, *рэд.*
** ДГАЛ. Ф. 605. Воп. 7. Спр. 134. Арк. 1 - 12.

віны, абраныя інстыгатарам і пакліканыя да згаданага дзеяння, прысягнуўшыя ў скрупулёзным пошуку праўды. Узяць (інфармацыю) па кожным пункце, у чым Вашу міласць абавязваю паступіць па сумленні, даведацца пра ўсе абставіны і запячатаны пакет (з матэрыяламі следства), з дадаткам усіх дакументаў, якія адносяцца да справы, сведчанні, а таксама метрыкі аб хрышчэнні і вянчанні, засведчаныя (Вамі) асабіста, даслаць у нашу кансісторыю. Для чаго Вашу міласць надзяляем неабходнымі паўнамоцтвамі і ўладай.

У Навагрдку ў 21 дзень месяца студзеня 1803 года.

Сільвестр Антаневіч, ордэна Святога Васіля Вялікага ігумен Кобрынскі, дэпутат духоўных спраў, афіцыял берасцейскі і старшыня кансісторыі.

Язафат Гарбацэвіч, асэсар Берасцейскай кансісторыі, за сакратара".

"Стэфан Гарбацэвіч, дэкан лідскі, парах Моўчадскай царквы, Міхаіл Пазоўскі, адміністратар Нова-Ельнінскай царквы, дэлегаваны Кансісторыяй для здзяйснення гэтага дзеяння.

Вялебным айцам пробашчам, іх памочнікам і іншым, хто знаходзіцца на царкоўнай службе, абвяшчаем гэтым нашым азнаямленчым лістом, што нам быў прадстаўлены дакумент з галоўнай Берасцейскай кансісторыі, выдадзены ў 21 дзень студзеня месяца бягучага года за № 33, які змяшчае распараджэнне, каб мы пасля папярэдняга абвяшчэння правялі следства аб жыцці, паводзінах і адукацыі ВП Цыпрыяна Плаўскага, прэтэндэнта на святарскае званне і апыталі прысяжных сведак. Маючы (жаданне) выканаць такое распараджэнне, вам, вышэй згаданым ... загадваем, каб ... азнаёмілі асабіста, як ЯВ Цыпрыяна Плаўскага так і ЯВкс айца Яна Мыслевіча, інстыгатара Лідскага дэканата, па пасадзе сваёй абавязанага сачыць заададзенай справай. Знайсці сведак, якіх бакі (справы) абавязаны запісаць у адмысловы рэестр і якіх мы знаёмім (са справай) і, аўтарытэтам дэлегаванай нам ўлады, заклікаем, каб (яны) у пяты дзень месяца лютага бягучага года з'явіліся асабіста ў Нагародавіцкую плябанію для слухання, Юрысдыкцыяй нашай камісарскай усталёўваем неабходнасць прынясення прысягі сведкамі і іх апытання па пунктах, названым у дакуменце (кансісторыі) і г. д.

Дадзена ў нашай рэзідэнцыі ў 26 дзень студзеня 1803 года. Стэфан Гарбацэвіч, дэлегаваны дэпутат. Міхаіл Пазаўскі, адміністратар Нова-Ельнінскай царквы, абраны камісар".

**"Пункты для допыту прэтэндэнта на святарскае званне ВП Цыпрыяна Плаўскага ў дзень 5 месяца лютага 1803 года падалі (гэтай) камісіі:**

1-е. Як сведка ведаю, ведаў або чуў, чым сынам з'яўляецца Цыпрыян Плаўскі і ці законнага ён нараджэння.

2-е. Як сведка ведаю, ведаў або чуў, кім і калі ён быў ахрышчаны і бежмаваны?

3-е. Як сведка ведаю, ведаў альбо чуў, у каго і дзе (ён) знаходзіўся ў маладыя гады? Чым займаўся? І як сябе ў маладосці паводзіў?

4-е. Як сведка ведаю, ведаў альбо чуў, дзе (ён) набываў адукацыю неабходную для святарскага звання, з якім стараннем? Ня заражаны ці якой-небудзь ерассю або вальнадумствам?

5-е. Як сведка ведаю, ведаў альбо чуў, якіх (ён) паводзін, ці не мае схільнасці да п'янства? Да азартных гульняў? Да сваркі? Як пачытае старэйшых і ці ветлівы з роўнымі?

6-е. Як сведка ведаю, ведаў альбо чуў, якое мае здароўе? Ці не пакутуе вар'яцтвам? Ці не мае падучай хваробы ці якой-небудзь іншай хваробы?

7-е. Як сведка ведаю, ведаў альбо чуў, якое мае сямейнае становішча? Халасты ці жанаты? З дзяўчынай або ўдавой ўступіў у шлюб; якое уяўленне людзей пра яго жонку?

8-е. Як сведка ведаю, ведаў альбо чуў, чаму хоча трапіць у духоўнае званне і як даўно заняў гэтую вакансію? Ці бачны ў ім быў дух пакоры, пабожнасці, старання аб славе Божай і выратаванні блізкага?

9-е. Як сведка ведаю, ведаў альбо чуў, ці мае кананічныя правы, неабходнае для становішча, ці дастатковы яны для прыстойнага існавання (забеспячэння)? Ці не выпрасіў царкоўныя званні;

10-е. Як сведка ведаю, ведаў альбо чуў, ці мае (ён) прыход, на які павінен быць прызначаны, ці мае забеспячэнне, якой якасці? Ці ў мірным карыстанні парахаў знаходзіцца? З якой колькасці гаспадарак складаецца? Колькі налічваецца мужчынскага і жаночага насельніцтва?

Такія пункты падпісваю святар Ян Мыслевіч, адміністратар Голдаўскай царквы, інстыгатар Лідскага дэканата.

Такое апытанне пададзена для камісіі.

Стэфан Гарбацэвіч, лідскі дэкан, дэлегаваны камісар,

Міхаіл Пазоўскі, кіраўнік Нова-Ельненской царквы, абраны камісар".

**“Рэестр сведак падчас працы камісіі па справе прэтэндэнта на святарскае званне ВП Цыпрыяна Плаўскага, пададзены ў камісію ў 5 дзень месяца лютага 1803 года**

1-ы сведка вялебны айцец Сямён Радзецкі, адміністратар Марозавіцкай царквы;

2-гі сведка вялебны айцец Ян Радкевіч, вікарый Зблянскай царквы;

3-ці сведка Данель Валюк;

4-ы сведка Геранім Стасюкевіч;

5-ы сведка Антоні Зубарэвіч.

Падаючы такіх сведкаў для камісіі, падпісваюся, святар Ян Мыслевіч ... адміністратар Голдаўскай царквы, інстыгатар Лідскага дэканата.

**Рэестр сведкаў для камісіі, упісаны:**

Стэфан Гарбацэвіч, лідскі дэкан, дэлегаваны камісар.

Міхаіл Пазоўскі, адміністратар Нова-Ельненскай царквы, абраны камісар.

Адбывалася ў Нагародавіцкай плябаніі ў пяты дзень месяца лютага тысяча восемсот трэцяга года.

Мы, ніжэйпадпісаўшыеся камісары, дэлегаваныя дакументам генеральнай Берасцейкай кансісторыі, выдадзеным 21 студзеня гэтага года за №33, пасля заканчэння тэрміну, вытрыманага намі па законе аб абвяшчэнні, ... прыбылі ў Нагародавіцскую плябанію, у прысутнасці ВП Цыпрыяна Плаўскага, які прэтэндуе на святарскую ступень, а таксама ў прысутнасці вялебнага айца Яна Мыслевіча, інстыгатара Лідскага дэканата, які абавязаны суправаджаць гэтае дзеянне па сваёй пасадзе, уладай нашай камісарскай у імя Гасподняе пачалі працу. І хоць інстыгатар заўважыў, што ВП Цыпрыян Плаўскі не быў народжаны ў нашым павеце, і, такім чынам, для гэтага дзейства неабходна было выбраць іншае месца, аднак, ВП Цыпрыян Плаўскі адказаў, што, асірацеўшы на шостым годзе жыцця пасля (смерці) бацькі, пакінуў месца свайго нараджэння, нідзе пастаяннага месца жыхарства не меў і знаходзіўся на працягу шасці гадоў у розных месцах і на розных работах, у асноўным, у межах Лідскага дэканата, да таго ж ён збіраецца атрымаць прыход у гэтым дэканаце і тут жа ажаніўся. Такім адказам названага Плаўскага інстыгатар быў задаволены і пагадзіўся на правядзенне камісіі ў Нагародавіцскай плябаніі.

Калі ж пункты, адпаведна з выдадзеным (Кансісторыяй) дакументам, былі запісаны і пададзеныя асобным рэестрам і былі запісаны сведкі, дык пасля прынясення прысягі па форме, прадпісанай правам, у прысутнасці бакоў мы прыступілі да апытання сведак, гэта апытанне было наступным:

**Першы сведка вялебны айцец Сямён Радзецкі**, адміністратар Марозавіцкай царквы, на набажэнстве быў ўчора, прысягнуў садзейнічаць праўдзе, паказаў:

“Па 1-м. Добра ведаў бацьку, вялебнага айца Плаўскага, калі той быў святаром і ведаю, што ён яго сын.

Па 2-м. Не ведаю, гэта варта шукаць у метрычных запісах.

Па 3-м. Пасля смерці свайго бацькі, ў маладосці, жыў у свайго дзеда, святара Цыпрыяна Плаўскага, параха Окалавіцкага, а пасля смерці дзеда праводзіў маладыя гады ў свайго дзядзькі па бацьку святара Дамініка Плаўскага. Потым (пераехаў) да святара Рамана Плаўскага ў Жухавічы і там вучыўся чытаць і пісаць. Гэта бачыў сам, бо жыў блізка і часта яго бачыў. Не чуў, каб пра яго што-небудзь дрэннае казалі. Ведаю, што пасталеўшы, пераехаў у плябанію царквы ў Радзівонішках да святара Хазановіча, але як доўга там жыў і як сябе паводзіў, не ведаю, бо гэта ад мяне далёка.

Па 4-м. Зараз вучыцца і рыхтуецца да святарскага звання ў Лаўрышаве. Меркаваць аб тым, ці заражаны якой-небудзь ерассю альбо вальнадумствам, не магу.

Па 5-м. Заўсёды лічыў яго прыстойным, разважлівым, спакойным і паслухмяным.

Па 6-м. У дастатковай ступені ведаю і ўпэўнены, што ён здаровы і ад якіх-небудзь хваробаў не пакутуе.

Па 7-м. Зараз ажаніўся з дачкой святара, дзяўчынай, якая не мае дрэннай рэпутацыі.

Па 8-м. Ад Духа Божага мае пакліканне і ў ім ёсць пакорлівасць і жаданне служыць Госпаду Богу.

Па 9-м. Ведаю, што атрымаў прэзенту на Турэйскую парафію і, калі будзе (правільна) гаспадарыць, дык будзе мець сродкі для існавання, а што ён думае пра далейшае, таго не ведаю.

Па 10-м. Не быў у Турэйску і таму не ведаю, ці ёсць фундуш ў гэтай плябаніі, чуў толькі, што зямлі нямала, і тая зямля знаходзіцца ў мірным валоданні парахаў. Наколькі вялікі прыход не ведаю.

Гэта призначанне сваёй рукой падпісаў святар Сямён Радзецкі, адміністратар Марозавіцкай царквы”.

**Другі сведка вялебны айцец Ян Радкевіч,** вікарый Зблянскай царквы, на набажэнстве быў ўчора, прысягнуў садзейнічаць праўдзе, паказаў:

“Па 1-м. Сам чуў і гэта сапраўды так, з'яўляецца сынам святара.

Па 2-м. Не ведаю гэтага, але могуць засведчаць метрычныя запісы.

Па 3-м. Дзе правёў маладыя гады не ведаю, але прыкладна ў 15 гадоў патрапіў да святара Хазановіча, бачыў яго ў Радзівонішках, не чуў пра яго нічога дрэннага.

Па 4-м. Ведаю, што да гэтага часу знаходзіўся ў Лаўрышава і там вучыўся, аднак дрэнна ці добра не ведаю і не чуў, каб якімі-небудзь супраціўнымі рэлігіі поглядамі мог быць заражаны.

Па 5-м. Ведаў яго і раней і цяпер як сціплага, не схільнага да п'янства, ня ахвотнага да сварак, ён паважае старэйшых і аднагодак.

Па 6-м. Не чуў і не заўважаў, каб ён хварэў якой-небудзь дрэннай хваробай.

Па 7-м. Ведаю, бо бачыў, што ён уступіў у шлюб з прыстойнай дзяўчынай, якая не мае дрэннай славы.

Па 8-м. Не ведаю, як даўно і па якіх прычынах мае прагу да духоўнага звання, але цяпер бачу, што можа быць узорным святаром.

Па 9-м. Чуў, што атрымаў прэзенту на Турэйскую парафію, а гэта парафія заўсёды мела святароў з добрым забеспячэннем. І мне здаецца, што прэзенту ён атрымаў, каб там і жыць.

Па 10-м. Не ведаю, ці ёсць фундуш царквы ці няма. Не чуў, ці крыўдзіў хто (мясцовых парахаў). Колькасць парафіян добра не ведаю.

І такое сваё прызнанне ўласнай рукой падпісваю.

Святар Ян Радкевіч, вікарый Зблянскай царквы”.

**Трэці сведка Данель Валюк** з вёскі Радзівонішкі, мае 60 гадоў, быў на велікоднай споведзі, пасля прысягі што будзе садзейнічаць праўдзе, паказаў:

“Па 1-м. Чуў, што бацька ягоны быў святаром.

Па 2-м. Гэтага не ведаю

Па 3-м. Казалі, што раней знаходзіўся недзе ў Наваградскім (ваяводстве), потым трапіў у Радзівонішкі і гады два ці тры, добра гэтага не памятаю, заставаўся каля святара Хазановіча, дзе падчас знаходжання выконваў гаспадарчыя і парафіяльныя работы, прыкладна вёў сябе, і я гэта бачыў і гэта памятаю.

Па 4-м. Бываючы ў плябаніі, бачыў, што ён чытае і піша на дошцы, а дзе яшчэ вучыўся, не ведаю.

Па 5-м. Не бачыў у ім нікай дрэнны прыроды, у цэлым, калі ён жыў у Радзівонішках, дык быў паслу-хмяны і з кожным, як сірата, ціхі.

Па 6-м. Калі жыў у нас, дык заўсёды быў здаровы, і ніякай хваробы ў яго не было прыкметна.

Па 7-м. Нашто Васпану трэба нада мной смяяц-ца? Ён жа раней ажаніўся на маладой паненцы якая вырасла на маіх вачах.

Па 8-м. Напэўна, Гасподзь Бог яго заклікаў да гэтага, аднак, калі жыў у нас, я бачыў яго ў плябаніі і ў царкве і лічыў пабожным і сціплым.

Па 9-м. Чуў, што яму свеціць Турэйская пляба-нія, дзе, калі пастараецца, дык зможа жыць.

Па 10-му. Гэтага не ведаю.

Свае паказанні, як непісьменны, трыма крыжы-камі падпісваю.

Данель Валюк + + +”.

**Чацвёрты сведка Геранім Стасюкевіч** з вёскі Турэйск, гаспадар, мае 36 гадоў, быў на велікоднай споведзі, пасля прысягі садзейнічаць праўдзе, паказаў:

“Па 1-м. Чый сын святар Плаўскі не ведаю.

Па 2-м. Хто яго хрысціў, не ведаю.

Па 3-м. Дзе знаходзіўся ў маладыя гады і як сябе паводзіў, не ведаю.

Па 4-м. Дзе ён вучыўся, не ведаю.

Па 5-м. Якіх ён паводзін не ведаю, бо нядаўна пазнаёміўся.

Па 6-м. І гэтага не ведаю.

Па 7-м. Прыбыўшы сюды, даведаўся, што ён ажаніўся з дачкой мясцовага святара.

Па 8-м. Напэўна яму гэтак Гасподзь Бог даў, што ён хоча стаць святаром.

Па 9-м. Пагаворвалі у нас, што ён атрымаў прэзенту на нашу Турэйскую царкву, пры якой, калі іншыя (святары) жылі, дык зможа жыць і святар Плаўскі.

Па 10-м. Не ведаю, ці мае царква фундуш і які, але зямля і прылады, маюцца здаўна, іх мірна выкарыстоўвалі святары, і ніхто ім не перашкаджае. Ведаю, што ў парафіі гаспадарак больш за сто, а душ палічыць не магу. Вось менавіта гэта сваё прызнанне, як непісьменны, падпісваю трыма крыжыкамі.

Геранім Стасюкевіч + + +”.

**Пяты сведка Антоні Зубарэвіч** з вёскі Нагародавічы, мае 70 гадоў, гаспадар, быў у споведзі на Ружанцовым тыдні, пасля прысягі садзейнічаць праўдзе, паказаў:

“Па 1-м. Хто быў бацькам спадара Плаўскага, не ведаю.

Па 2-м. І гэтага не ведаю.

Па 3-м. Чуў, што знаходзіўся ў мясцовага святара калі той служыў у Радзівонішках, чуў, што там сябе добра паводзіў.

Па 4-м. Дзе ён вучыўся, не ведаю.

Па 5-м. Пазнаёміўся з ім блізка, калі ён з'явіўся тут, але не магу пра яго нічога сказаць, таму што нічога дрэннага не заўважаў.

Па 6-м. Наколькі ведаю, цалкам здаровы.

Па 7-м. Ведаю, што ажаніўся ў тутэйшай царкве з дачкой мясцовага святара, дзяўчынай добрай славы.

Па 8-м. Для чаго хоча знаходзіцца ў духоўным званні, не ведаю, але бачу яго пабожным, паслухмяным і сціплым.

Па 9-м. Чуў, што будзе служыць у Турэйскай царкве, а таксама чуў, што там па 4 бочкі жыта можна пасеяць на кожным полі.

Па 10-м. Ведаю, што ёсць царква, а пра яе фун-душ не ведаю. Кажуць, што зямлі знаходзяцца ў мір-ным валоданні, а колькі парафіян не ведаю.

Такія свае паказанні, як непісьменны, падпісваю трыма крыжыкамі.

Антоні Зубарэвіч + + +”.

“Гэтыя паказанні запрошаных і прысягнуўшых сведак дакладна і добрасумленна запісаны, запісы аб хрышчэнні і вянчанні, а таксама сведчанні ВП Плаўскага, разам з 4 рэвізіямі Турэйскай царквы далучылі (да справы). Самога ж прэтэндэнта для слухання канчатковага рашэння адаслалі ў генеральную Берасцейскую кансісторыю. Датавана, як вышэй.

Стэфан Гарбацэвіч, лідскі дэкан, дэлегаваны камісар.

Міхал Пазоўскі, кіраўнік Нова-Ельненской царквы, абраны камісар”.

**Запіс аб шлюбе**

“(Я) Ніжэй падпісаўшыйся, прыбыў ў Нагародавіцкую плябанію, у якой прасілі аб выдачы запісаў пра шлюб ВП Цыпрыяна Плаўскага, знайшоў метрычныя кнігі Нагародовіцкай царквы і выпісаў (запіс) ў наступным выглядзе:

25 дня месяца студзеня 1803 года я, святар Ануфрый Ралевіч, парах Дзятлаўскай царквы, пасля таго, як прамінулі тры абвяшчэнні і не знайшоўшы перашкод для шлюбу, з дазволу мясцовага дэкана дабраславіў шлюб ўзаемна асоб, якія пакляліся ў вернасці: маладога ВП Цыпрыяна Плаўскага і маладой ВП Феліцыяны Хазановічаўны з Нагародавіцкай плябаніі. Прысутнымі сведкамі былі ЯВП Іосіф Плаўскі, ротмістр Слонімскага павета, ВП Міхаіл Курак, эканом Нагародавіцкі.

Гэты запіс, дакладна выпісаўшы, для лепшага сведчання падпісваю ўласнай рукой.

Дадзена ў Нагародавічах у 3 дзень лютага 1803 года.

Стэфан Гарбацэвіч, дэкан лідскі, сваёй рукой.

Антоні Зубарэвіч + + +”.

“Ігнат Язафат Булгак, ласкай Божай і дабраслаўленнем святога апостальскага прастола біскуп Берасцейскі ў губернях Літоўскай, Менскай і Курляндскай.

Усім разам і кожнаму паасобку, каму аб гэтым варта ведаць, паведамляем, што мы, будучы пераканаными ў годных учынках, прыкладных паводзінах і адукацыі ВП Цыпрыяна Плаўскага, прэтэндэнта на духоўнае званне і семінарыста Лаўрышаўскай дыяцэзіяльнай (семінарыі), і таму, жадаючы забяспечыць яго годным месцам і кананічным маёмасцю неабходнай для прызначэння, і паколькі прыхадская царква і Турэйскім прыходзе ў Лідскім павеце па праву з'яўляюцца вакантнай і па прычыне таго, што сам Цыпрыян Плаўскі прасіў пра гэту Турэйскую парафію і належным чынам адшукваў для сябе прэзенту, і прававымі шляхамі яе здабыў, таму гэтай нашай згодай ... дазваляем, а таксама афіцыйна рэкамендуем, яго для атрымання прэзенты ў цяперашніх калятараў.

У Наваградку ў 8 дзень студзеня 1803 года.

Сільвестр Антаневіч, ордэна Святога Васіля Вялікага абат Кобрынскі, дэпутат духоўных спраў, афіцыял берасцейскі і старшыня кансісторыі.

Язафат Гарбацэвіч, асэсар Берасцейскай кансісторыі, за сакратара”.

“У 9 дзень лістапада 1803 года ў Лаўрышава.

(Мы), ніжэй падпісаўшыяся, сведчым, што ВП Цыпрыян Плаўскі з Наваградскага дэканата, які мае 25 гадоў, прэтэндуе на духоўнае званне, два гады знаходзіўся ў Берасцейскай дыяцэзіяльнай семінарыі, але паколькі за гэты час не быў неабходным чынам удасканалены ў неабходных для яго звання навуках, таму патраціў яшчэ два з лішнім месяцы на гэта ўдасканаленне, і за гэты час не заўважылі мы ў ім нічога акрамя сціпласці, цвярозасці, сталасці, чуласці ў сваіх абавязках. Займаўся маральнай тэалогіяй і статутам з немалым стараннем і паказаў сябе ў гэтым усім дастаткова добра.

Вось менавіта гэта сведчанне для веры подпі-

самі сваіх рук змацавалі. Датавана як вышэй.

Марцініан Стэфаноўскі, ордэна Святога Васіля Вялікага рэктар Берасцейскай епархіяльнай семінарыі, сваёй рукой.

Святар Анатоль Сямігродскі, прафесар маральнай тэалогіі, базыльянін.

Святар Анастасій Пляскацэвіч, ордэна Святога Васіля Вялікага інструктар Берасцейскай епархіяльнай семінарыі, сваёй рукой".

**Запіс аб хрышчэнні**

"Я, ніжэй падпісаўшыся, якога прасілі аб выдачы метрыкі пра хрышчэнне з парафіяльных кніг Кунаскай царквы, знайшоў такія запісы ў царкве і выдаў іх у наступным выглядзе:

*15 дня месяца красавіка 1777 года я, святар Ян Заўсцінскі, парах Гавязнянскай царквы, ахрысціў і бежмаваў сына, які мае імя Цыпрыян, (народжанага) ад бацькоў - мужа і жонкі: вялебнага святара Плацыда Плаўскага***, параха Кунаскага, (і) ад маці, ЯВП Канстанцыі Плаўскай з Юркевічаў. Хросным бацькамі былі ЯВП Андрэй Корсак, паручнік літоўскіх войскаў, з ЯВП Мар'яна Мікуцёва.*

*Дадзеную выпіску выдаю ў папярэднім выглядзе, сведчу, што (яна) адпавядае запісу ў кнігах, якія знаходзяцца пры Кунаскай царкве. І гэта ўласнай рукой пры звычайнай пячатцы падпісваю.*

*Дадзена ў Кунасе 26 жніўня 1802 года.*

*Святар Афанасій Гамаліцкі, адміністратар Кунаскай царквы.*

Такую выпіску з аўтэнтычнай кнігі, як мага больш дакладна перапісаную, для лепшага даверу з прымацаванай пячаткай, падпісваю ўласнай рукой, святар П. Здановіч, дэкан слонімскі, парах ..."

Патрэбныя дакументы даслалі біскупу Язафату Булгаку, і ў выніку, Цыпрыян Плаўскі пачаў служыць у Турэйскай парафіі.

Цыпрыян Плаўскі меў сыноў Францішка (1803 г. н.) і Рыгора (1806 г. н.). У 1837 г. яго сын Францішак служыў у Чарлёне і ў канцы гэтага года стаў Гарадзенскім дэканам****.

*** Плаўскі Плацыд, нарадзіў прыкладна ў 1730 - 1740 г. Памёр да 04.07.1786 г. Высвечаны і інсталяваны на пасаду берасцейскім дапаможным біскупам А. Младоўскім у 15.10.1765 г., без прэзенты (дазволу) калятара царквы, віленскага ваяводы Караля Станіслава Радзівіла, які знаходзіўся ў гэты час у эміграцыі. Святар грэкакаталіцкай (уніяцкай) царквы ў вёсцы Кунаса Наваградскага павета з 15.10.1765 по 06.04.1784 гг. Быў жанаты з дачкой святара Канстанцыяй Плаўскай з Юркевічаў.

**** ДГАЛ. Ф. 605. Воп. 7. Спр. 134. Дело о рукоположении Киприана Плавского за 1803 г.

# Нясвіжскае паўстанне. 1919 год.

1919 год - першы год існавання Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь і год пачатку савецка-польскай вайны - быў адзначаны шэрагам антыбальшавіцкіх паўстанняў. Але было б памылкай лічыць усе гэтыя выступленні праявай нацыянальнага абуджэння беларусаў і барацьбой за ўласную дзяржаўнасць. У значанай ступені гэта датычыцца і падзей, якія разгарнуліся ў Нясвіжы. У свой час матэрыялы аб гэтым збіраў Юрка Віцьбіч, даследчык антыбальшавіцкага руху.

*Юрка Віцьбіч (1905-1975) - дзеяч беларускай эміграцыі ў ЗША, пісьменнік, краязнавец, публіцыст. У беларускіх і расійскіх выданнях надрукаваў шэраг публіцыстычных артыкулаў пра антыбальшавіцкія паўстанні на Беларусі. Зборнік нарысаў па гэтай тэме быў выдадзены ўжо пасля смерці аўтара, у 1996 годзе.*

Гістарычна-літаратурны нарыс Віцьбіча і да сёння застаецца ці не адзінай спробай апісання тых падзей. Прынамсі, на яго спасылаюцца аўтары "Вікіпедыі", якія распавядаюць, як *"мірнае насельніцтва выгнала з Нясвіжа бальшавікоў і на працягу пяці дзён, 14-19 сакавіка ўтрымлівала горад"*. А што адбылося на самой справе?

У снежні 1918 года, калі нямецкія войскі пакідалі тэрыторыю Беларусі, у Нясвіжы, невялікім горадзе Менскай губерні, усталявалася савецкая ўлада. Неўзабаве сюды прыбыў атрад чэкістаў пад камандаваннем нейкага Салдатава. Яго камандзір размясціўся ў замку і павёў сябе як удзельны князь часоў сярэднявечча. На горад была накладзена кантрыбуцыя, пачаліся арышты незадаволеных. Калі мясцовы рэвалюцыйны камітэт сабраўся на пасяджэнне для абмеркавання паводзін прышлых чэкістаў, Салдатаў разагнаў яго пад пагрозай кулямётаў. У студзені 1919 года з дапамогай рэгулярнай арміі чэкісцкі атрад нарэшце быў раззброены. Яго камандзіра, разам з паплечнікамі, аддалі пад суд, арыштаваных выпусцілі, а кантрыбуцыя, сабраная з горада, нібы растала ў паветры.

Неўзабаве пачаліся рэквізіцыі прадуктаў на патрэбы Чырвонай Арміі, заможныя гараджане былі абкладзены падаткам, а ў самім горадзе стварылі "Надзвычайны штаб па ахове рэвалюцыйнага парадку", які дзейнічаў вельмі арыгінальным спо-



***Сябры Нясвіжскага рэвалюцыйнага камітэта (фрагмент кінахронікі, студзень 1919 г.)***



***Чырвонармейцы на нясвіжскай вуліцы (фрагмент кінахронікі, 1919 г.)***

сабам. 3 сакавіка 1919 года Нясвіж быў абвешчаны на асадным становішчы. Выхад на вуліцу з 19.00 4 сакавіка да 10.00 раніцы наступнага дня быў забаронены. Нясвіжане сядзелі па дамах і нават не здагадваліся, што горад падзелены на 42 участкі для правядзеняператрусаў. На кожны ўчастак накіроўваўся атрад з шасці чалавек: трох чырвонаармейцаў, аднаго камуніста і двух прадстаўнікоў яўрэйскіх партый Бунд і Паалей-Сіён. З 10 гадзін вечара ў дамах заможных мяшчан ("шпекулянтаў і гарадской буржуазіі", як тады было прынята казаць) пачалісяператрусы. Было знойдзена шмат прадуктаў, залатыя манеты, спірт, мануфактура і іншыя тавары.

З такіх вось "дробязяў" і складалася паўсядзённае жыццё нясвіжан у тыя дні. Але больш істотным фактарам было набліжэнне фронту. З лютага 1919 года вайна паміж савецкай рэспублікай і адноўленай польскай дзяржавай стала фактам. У адрозненні ад немцаў, якія адназначна ўспрымаліся як чужынцы, з палякамі ўсё было больш складана. Нашы народы доўгі час жылі ў адной дзяржаве - Рэчы Паспалітай, польская мова і культура, былі распаўсюджаны сярод вярхоў грамадства. Ад Буга і Нёмана да Дзвіны і Дняпра многія з ахвотай бы прызналі сябе палякамі, для астатніх быў прыгатаваны пернік у выглядзе абяцанняў шырокай нацыянальна-культурнай беларускай аўтаноміі.

У Нясвіжы, дзе яшчэ з даваенных часоў дзейнічалі польскія культурна-асветніцкія арганізацыі, прыхільнікаў аднаўлення Польшчы было нямала. Адным з асяродкаў такіх настрояў стала гімназія, у работу якой новыя ўлады асабліва не ўмешваліся. Толькі забаранілі штодзённыя малітвы і загадалі зняць абразы, якія віселі ў аўдыторыях. Вучні старэйшых класаў аб'ядналіся ў падпольную арганізацыю, якую ўзначаліў выкладчык лацінскай мовы (а не дырэктар, як часам пішуць) Мечыслаў Валністы. Першачарговай задачай стаў збор зброі. З ваколічных вёсак і бацькоўскіх дамоў гімназісты таемна звозілі паляўнічыя стрэльбы, вінтоўкі, пісталеты, патроны. Неўзабаве яны мелі каля 30 вінтовак і некалькі рэвальвераў. За захаванне арсенала адказываў службовец магістрата Палікарп Каляда. Пры гэтым выразнага плана дзеянняў падпольшчыкі не мелі, спадзяваліся толькі, што надыдзе зручны момант, калі гэту зброю можна будзе ўжыць.

Чуткі пра падрыхтоўку паўстання даходзілі да выканкама. На пачатаку сакавіка камісары Розэнблюм і Стыкуць прапанавалі правесці арышты сярод патэнцыяльных ворагаў - "панскіх паслугачоў і варожа настроеных інтэлігентаў". Аднак старшыня выканкама Файнберг палічыў, што



***Польская конніца (ілюстрацыйнае фота)***

для разгортвання рэпрэсій няма падстаў.

Тым часам фронт набліжаўся. На пачатку сакавіка аддзелы Войска Польскага занялі Баранавічы. 13 сакавіка 9-ы пагранічны полк, які знаходзіўся ў Нясвіжы быў накіраваны на передавую. У горадзе застаўся толькі невялікі атрад мясцовых чырвонаармейцаў, якім камандаваў ваенны камісар 22-гадовы Андрэй Пракапчук і нейкая колькасць міліцыянераў. У прыфрантавой паласе з'явіліся конныя атрады т.зв. "легіянераў", якія праводзілі дыверсіі ў тылах чырвоных. Адным з такіх атрадаў камандаваў маёр Уладзіслаў Дамброўскі, былы камандзір гарнізона Вільні, які распачаў партызанскую барацьбу. Нягледзячы на невялікія сілы ён адносна свабодна рухаўся па савецкай тэрыторыі, на кароткі час займаючы вёскі і мястэчкі.

У ноч з 14 на 15 сакавіка легіянеры Дамброўскага нечаканым налётам занялі мястэчка Сіняўка за 35 км ад Нясвіжа. Да іх далучылася частка мясцовых жыхароў. Пачаліся арышты сяброў валаснога выканкама. Двух чалавек расстралялі. У памяшканні вакзала і па дамах местачкоўцаў было захоплена 16 чырвонаармейцаў, якія знаходзіліся тут у адпусках і службовых камандзіроўках. Адзін з іх, Мендэль Фрыдман, артылерыст 17-й дывізіі пазней згадваў: *"Пасля наступлення на Лунінец нашы гарматы пайшлі ў рамонт, і я накіраваўся ў Сіняўку. Ноччу ў будынак вакзала, дзе я спаў, уварваліся ўзброеныя легіянеры і пачалі ўсіх збіваць. Нехта крыкнуў: "Таварыш! За што б'еш?" У адказ грымнуў выстрал: "Вось табе, таварыш!". Я адразу зразумеў у чым справа, сарваў з фуражкі чырвонаармейскую зорку, скінуў шашку і рэвальвер, сам адскочыў у бок. Нас усіх вывелі і пачалі шукаць "хто жыд". Я нацягнуў глыбей шапку, каб схаваць твар. Да мяне падскочылі два легіянеры, сарвалі з мяне новы шынель, боты, іншую вопратку. Пры гэтым знайшлі дакумент, што я чырвонаармеец. Тады мяне пачалі біць нагайкамі, прыкладамі і чым прыдзецца. Нас, шэсць чалавек, афіцэр загадаў расстраляць. Потым прывялі яшчэ 10 чалавек чырвонаармейцаў. Нас вывелі на ўзлесак, паставілі*

*ўсіх у адну лінію. Легіянеры адыйшлі крокаў на 10-15. Далі залп. Мяне рванула ўбок, і я кінуўся бегчы, не ведаючы, ці я паранены, ці не. Прабег крокаў 20 спатыкнуўся і ўпаў. Я пачуў, што зноў страляюць, таму падскочыў і кінуўся бегчы. Так прабег недзе паўвярсты, пакуль не ўпаў. Калі ачуняў, выйшаў на дарогу, дзе сустрэў селяніна, які даў мне падраную світку, узяў да сябе на воз і завёз у Нясвіж. Па словах сялян, якіх мы сустракалі на сваім шляху, на ўзлеску ляжала 15 распранутых трупаў".*

Зводка Палявога штаба Рэўваенсавета Рэспублікі дапаўняе агульную карціну. Паводле яе, палякі захапілі цягнік, які ішоў на Лунінец і пусцілі яго насустрач другому цягніку, адбылося крушэнне, меліся ахвяры. Разам з вакзалам была захоплена тэлеграфная станцыя. Тэлеграфіст, нягледзячы на небяспеку, паспеў адправіць у Слуцк паведамленне аб нападзе. А на запытанне свайго слуцкага калегі: "Чаму тэлеграма такая неразборлівая?", адказаў: "Рука дрыжыць. За спіною стаіць польскі афіцэр".

Між тым польская конніца накіравалася ў бок Клецка і Нясвіжа. Асобныя раз'езды дайшлі да Высокай Ліпы, Арды, Яцкавічаў, Снова. Ісці далей легіянеры з-за сваёй малалікасці не рызыкнулі і павярнулі назад. Хаця агульная колькасць палякаў наўрад ці пераўзыходзіла сто чалавек, весткі пра іх з'яўленне маланкай разнесліся навокал, абрастаючы ўсё новымі "падрабязнасцямі". Неўзабаве гаварылі ўжо не пра захоп невялікай Сіняўкі, а пра наступленне на Менск і Бабруйск. Атрад Пракапчука быў высланы насустрач польскім раз'ездам і ў горадзе не засталося ніякага войска акрамя міліцыі. Тым часам чуткі пра набліжэнне легіянераў шырыліся: нехта бачыў іх у ваколіцах Нясвіжа, нехта сустрэў вершнікаў і на пытанне: "Калі вас чакаць?" атрымаў адказ: "Хутка!". Узбуджаная такімі навінамі моладзь вырашыла дзейнічаць.

Ноччу з 15 на 16 сакавіка пачалося паўстанне. Частку міліцыянераў захапілі соннымі на кватэрах і раззброілі. У перастрэлцы былі забіты члены выканкама Файнберг, Розэнблюм і Грынблат, а таксама начальнік ЧК Татур. Над ратушай узняўся польскі сцяг. Вайсковае камандаванне даручылі Мечыславу Валністаму, была арганізавана камендатура, на вуліцах расстаўлены патрулі. На гэтым паўстанцы, якіх было некалькі дзясяткаў чалавек, палічылі сваю місію скончанай. Замест таго, каб рыхтавацца да абароны, думалі пра тое, як найлепшым чынам сустрэць кавалерыстаў Дамброўскага. Яны нават не ведалі, што тыя зусім не збіраліся ісці на горад.

Бальшавікі, трэба аддаць ім належнае, дзейнічалі рашуча. Андрэй Пракапчук успамінаў: *"Мой атрад толькі што вярнуўся ў горад. Але ініцыятыва была ў руках паўстанцаў, і нам давялося адступіць. Пагрузілі на двухколку тэлеграфны апарат і рушылі на вёску Рудаўка* (4 км ад Нясвіжа - *А.Б.*). *Уздоўж дарогі стаялі тэлеграфныя слупы. Я загадаў тэлеграфісту залезці на слуп і падключыцца да лініі. Такім чынам звязаліся з Менскам. У Менску да апарата падышоў губернскі ваенны камісар Крывашэін. Я далажыў абстаноўку, і ён загадаў мне нікуды не рухацца, трымацца да апошняга патрона. Сказаў, што высылае нам на дапамогу роту штыкоў і бронецягнік".*

Ад бронецягніка, які прыбыў у Замір'е[1], за 14 км ад Нясвіжа, карысці было мала. А вось рота байцоў з двума кулямётамі каля пяці гадзін вечара 16 сакавіка злучылася з атрадам Пракапчука. Не губляючы часу, яны рушылі на горад. Патрулі паўстанцаў уступілі ў перастрэлку. Валністы, якому паведамілі пра наступленне чырвоных, параіў трымацца да надыходу падмогі і… вярнуўся да свайго абеду. Страляніна на ўскраінах трывала некалькі гадзін, пакуль у паўстанцаў не скончыліся патроны і яны пачалі адыходзіць у цэнтр горада. Абяцаная дапамога не падышла, кіраўніцтва адсутнічала, і кожны мусіў ратавацца самастойна.

Апісанні тых падзей, зробленыя ўдзельнікамі з розных бакоў, натуральна адрозніваюцца. Вось што гаварыў бальшавік Крывашэін (той самы, які разагнаў Першы Усебеларускі з'езд): *"Замест рэгулярных сіл у Нясвіжы мы сутыкнуліся з жалю годнымі легіянерамі і бойскаўтамі. Хапіла 80 добра ўзброеных камуністаў, каб выгнаць бандытаў з Нясвіжа. Пры падыходзе чырвонаармейцаў белыя, мамкіны сынкі, пужлівыя бойскауты ўцякалі, як баязлівыя зайцы".* А вось як глядзеў на паўстанне адзін з яго сімпатызантаў: *"Купка моладзі не мела ніякіх шанцаў на перамогу, але некалькі гадзін мужна абараняла горад. Нарэшце большасць з іх адступіла ў напрамку Альбы, а адтуль - на захад, для злучэння з аддзеламі Войска Польскага. Іншыя расцярушыліся па наваколлі, каб схавацца ад рэпрэсій".*

Да раніцы панядзелка 17 сакавіка, выступленне было канчаткова ліквідавана. Колькасць яго ахвяр застаецца невядомай. У ацэнках, якія даваліся па гарачых слядах эмоцыі пераважаюць над фактамі. Савецкая газета "Звезда" паведамляла: *"...нашы чырвонаармейскія аддзелы ўвайшлі ў горад і арыштавалі вінаватых, якіх тут жа на месцы расстралялі. Усяго расстраляна звыш 100 чалавек. Іх маёмасць канфіскавана".* Варшаўскі "Kurier

[1] Замір'е - Гарадзея *(рэд.)*

Poranny" пісаў: *"Бальшавіцкія войскі пачалі чыніць жахлівыя эксцэсы. Усіх секлі і ўсё палілі. Расстраляна звыш 50 чалавек, у тым ліку ксяндзы Stationслаў Рокаш, Вінцэнт Гадлеўскі і дырэктар гімназіі Мар'ян Масоніўс. Вёскі Слаўкава і Качановічы спалены за тое, што далі прытулак уцекачам, кожны дзясяты іх жыхар расстраляны, жанчыны згвалтаваны, і канфіскавана ўсё, што можна. Каталіцкае насельніцтва Нясвіжа асуджана на галодную смерць".* Аб тым, наколькі гэта паведамленне адпавядае сапраўднасці можна меркаваць хоць бы па тым факце, што ніхто з названых тут асоб не загінуў падчас апісаных падзей. Ксёндз Гадлеўскі, вядомы беларускі палітычны і рэлігійны дзеяч, стаў ахвярай нямецкіх акупантаў у 1942 годзе. Ксёндз Рокаш яшчэ доўга служыў у Нясвіжскім касцёле. Навуковец Мар'ян Масоніўс у тым самым 1919 годзе, па запрашэнні савецкай улады, увайшоў у склад камітэта па доглядзе Нясвіжскага замка. Відавочна, што ў абодвух выпадках перад намі ўзоры прапаганды, закліканыя стварыць адпаведна вобраз "труслівага контррэвалюцыянера" і "крывавага бальшавіка".

Такім чынам Нясвіжскае паўстанне доўжылася адзін дзень - 16 сакавіка. Характэрна, што акрамя вучнёўскай моладзі і часткі інтэлігенцыі, насельніцтва яго не падтрымала. Больш за тое, пазней некаторыя беларусы нават кпілі з палякаў, якія паспешліва схапіліся за зброю. Сведкі тых падзей справядліва звярталі ўвагу Юркі Віцьбіча на тое, што паўстанне мела выразна польскі характар, і яго ўдзельнікі наўрад ці заслугоўваюць месца ў беларускім пантэоне.

Але гаворачы пра Нясвіж, забываюць, што тут адбылося толькі адно з антысавецкіх выступленняў, якія пракаціліся па Случчыне[2] з 15 па 19 сакавіка. У самім Слуцку, як толькі стала вядома пра захоп Сіняўкі, была абвешчана эвакуацыя ўсіх савецкіх устаноў. Па вёсках пачаліся хваляванні: сяляне збівалі харчовых агентаў і разбіралі запасы хлеба, прызначанага для войска. У Старобіне моладзь, мабілізаваная ў Чырвоную Армію, разам з сялянамі раззброіла міліцыю і харчовы атрад. Быў захоплены валасны выканкам, дзе знішчылі дакументы, і арыштаваны яго сябры. Цікава, што ў выступленні прыняло ўдзел і яўрэйскае насельніцтва мястэчка. У Качановічах заможнае сялянства разагнала сельскі камітэт. У Клецку да паўстання не дайшло. Але пры першых вестках пра набліжэнне ворага пачаліся пагрозы ў адрас камуністаў, савецкіх актывістаў і іх сем'яў. Начальнік міліцыі Абрамовіч нічога не зрабіў для падтрымання парадку.



***Выгляд Нясвіжа з боку Новага места. Польская паштоўка міжваенага часу***




***Нясвіжская ратуша. Польская паштоўка міжваеннага часу***

А некаторыя міліцыянеры нават былі гатовы прыняць удзел у пагромах. Паштовым работнікам Абрамовіч забараніў перадаваць і прымаць паведамленні, а для кантролю за імі накіраваў двух узброеных вартавых. У выніку, ні ў Нясвіжы, ні ў Слуцку, ні ў Менску не ведалі, што адбываецца ў Клецку. Натуральна, узнікла думка, што ён таксама заняты палякамі. 17 сакавіка, у панядзелак, базарны дзень, на гандлёвую плошчу з'ехаліся сотні сялян. Наэлектрызаваны чуткамі натоўп быў гатовы да любых дзеянняў. Вось-вось магла праліцца кроў. І толькі весткі пра тое, што Нясвіж зноў заняты чырвонымі аддзеламі, а польскіх войскаў у акрузе няма, дапамаглі суняць хваляванні.

Для барацьбы з гэтымі выступленнямі бальшавікам давялося напружыць усе сілы: атрады ЧК і ўзброеных камуністаў, рэгулярныя аддзелы, адкліканыя з фронта, т.зв. "рэвалюцыйны атрад" накіраваны з Бабруйска. 19 сакавіка на пасяджэнні Менскага губернскага рэвалюцыйнага камітэта была зроблена выснова: *"Знешні фронт для нас не*

[2] Частка Нясвіжскага раёна адносілася да Слуцкага павета *(рэд.)*.



***Помнік паўстанцам у Нясвіжы. Польская паштоўка міжваеннага часу***

*страшны. Неабходна звярнуць большую ўвагу на ўнутраны фронт"*. У той самы дзень на патрэбы Менскай ЧК дадаткова было выдзелена 300 тысяч рублёў. Да 20 сакавіка становішча нармалізавалася. Сіняўку зноў занялі чырвонаармейцы. Неўзабаве былі вернуты Баранавічы. А 21 сакавіка 1919 г. губернскі ваенны камісар Крывашэін падпісаў Загад № 100, які абвяшчаў што з гэтага дня сем'і буржуазіі і памешчыкаў з'яўляюцца закладнікамі і адказам на ўсе акцыі *"польскай буржуазіі"* будзе *"страшны крывавы тэрор"*: *"...за кожнага безабароннага рабочага або селяніна, расстралянага польскімі белагвардзейцамі або контррэвалюцыянерамі, будуць знішчаны цэлыя сем'і буржуазіі і памешчыкаў"*.

24 сакавіка з нясвіжскай турмы, якая размяшчалася ў мурах колішняга бенедыкцінскага кляштара, вывелі пяцёх найбольш актыўных удзельнікаў паўстання: Мечыслава Валністага, Палікарпа Каляду, Станіслава Іваноўскага - бухгалтара радзівілаўскай адміністрацыі, Юзафа Янушкевіча - службоўца княжацкага палаца і Канстанціна Шыдлоўскага. Іх расстралялі недалёка ад горада, скінуўшы целы ў агульную магілу. Большасць арыштантаў, аднак, выпусцілі праз розныя тэрміны. Нехта прабыў у зняволенні дзесяць дзён, нехта - два месяцы. У траўні аднавілася дзейнасць гімназіі. Нягледзячы ні на што, жыццё ў горадзе не перапынілася.

У міжваенны час, калі Нясвіжчына ўваходзіла ў склад Польскай дзяржавы, сакавіцкае паўстанне стала неад'емнай часткай патрыятычнага выхавання. У 1926 годзе на магіле расстраляных, на гарадскіх могілках, быў пастаўлены велічны крыж, зроблены на сродкі вучняў і настаўнікаў гімназіі. У касцёле служылі жалобныя набажэнствы ў памяць палеглых. А ў 1931 годзе ў гонар тых падзей перад ратушай быў усталяваны помнік у выглядзе ступенчатай піраміды з каменнай глыбай, на вяршыні якой раскінуў крылы арол. Пасля ўз'яднання з БССР помнік дэмантавалі, а пра паўстанне стараліся не ўспамінаць. Сёння было б недарэчна прадстаўляць яго ўдзельнікаў як "труслівых мамчыных сынкоў". Але і ставіць Нясвіжскае паўстанне ў адзін шэраг са Слуцкім збройным чынам будзе няправільна. Занадта розныя мэты мелі перад сабой іх удзельнікі. Калі байцы Слуцкай брыгады ваявалі за Беларускую рэспубліку, то нясвіжскія гімназісты - за тое, каб наш край стаў часткай Польшчы. Таму асабіста мне неяк не надта хочацца іх усхваляць. Тым не менш пра сакавіцкае паўстанне трэба памятаць. Як і пра ўсё, што адбывалася на нашай зямлі.

***Андрэй БЛІНЕЦ.***

**Асноўная літаратура і крыніцы:**

1. Белогвардейский набег // "Звезда" № 404, 25.03.1919.

2. Вести из Польши (обзор зарубежной печати) // "Звезда" № 437, 15.05.1919.

3. Віцьбіч, Ю. Антыбальшавіцкія паўстанні і партызанская барацьба на Беларусі. Нью-Ёрк, 1996.

4. Памяць. Нясвіжскі раён. Гісторыка-дакументальная хроніка. Мн. 2001.

5. Панасин, А. Красная Белоруссия. Новые легенды // "Звезда" № 388, 04.03.1919 г.

6. По Белоруссии и Литве: хроника // "Звезда", № 401, 402. 21, 22.03.1919.

7. Пракапчук, А. З перажытага. Успаміны // "Полымя" № 11 - 1968.

8. Приказ № 100 // "Звезда" № 403, 23.03.1919.

9. Хохлов, А. Крах антисоветского бандитизма в Белоруссии в 1918-1925 гг. Мн. 1981.

10. Powstanie Nieswieskie w 1919 roku // Nieswieskie wspomnienia. T. 2. - Warszawa, 1999.

11. Tauroginski, B. Z dziejow Nieswieza. Warszawa,1937.

12. Ze wspomnien Nieswieskich // Zycie Nowogrodzkie, № 277, 11.11.1928.

*Валер Санько*

# Святло Нясвіжскага фарнага

*26 красавіка 2019 года Мікалаю Мікітавічу Слюнькову лаўрэату Дзяржаўнай прэміі СССР, Герою Сацыялістычнай працы, былому Першаму сакратару ЦК КПБ, сакратару і члену Палітбюро ЦК КПСС споўнілася 90 гадоў.*

*Валер Санько з Вялікай Слівы каля Слуцка прапанаваў фрагмент свайго чарнобыльскага рамана, дзе пра Слюнькова і Нясвіж.*

Быць у Нясвіжскім раёне і не паглядзець славуты замак - нядобра. Быць у Нясвіжы і не падысці да велічнага фарнага касцёла - незразумела. Перад абедам Мікалай Слюнькоў сказаў раённаму начальству: варта паглядзець касцёл і замак.

Імправізаванае наведванне не было ўключана ў рэгламент паездкі кіраўніка рэспублікі. Парушэнне распарадку. Нічога не зробіш, першы сакратар ЦК КПБ даўно ўжо рэгламенты зацвярджае сам.

- За гадзіну абернемся?

- Можна за дваццаць хвілінаў.

- Не за дваццаць, дык за трыццаць, - шырокім жэстам гаспадара Слюнькоў запрашае двух нясвіжцаў у шыкоўную чорную "Чайку". За ёю паедуць яшчэ дзве "Волгі".

Такое не прыдумаеш. Ксяндзу Рыгору Каласоўскаму талкуюць пра ўзнагароду, асабіста яму, як на днях гаварыў і старшыня Саўміна Беларусі Кавалёў, а ксёндз працягвае гаварыць пра другі паверх касцельнага дома па вуліцы Міцкевіча, 5.

- Нашыя два дамы, адвеку. Гарвыканкам забраў шмат у касцёла, адзін дом поўнасцю, у другім - адзін паверх. Цяпер забірае з двухпавярховіка на вуліцы Міцкевіча той паверх. Слугі храма павінны жыць блізка ад яго, так усюды, стагоддзямі, - манатоніць ксёндз роўна, ціха.

На верхнім паверсе дома па вуліцы Міцкевіча з сем'ямі жылі арганіст, закрыстыян, вартаўнік касцёла. Састарэлы арганіст Іван Петрашкевіч у пачатку лістапада сёлетняга года, чарнобыльскага, пераехаў да дочак у Менск. Ксёндз Каласоўскі папрасіў гарадскія ўлады, з якімі заўжды былі, калі не ўзаемапаважныя, то нейтральныя адносіны, каб у вызваленую кватэру пасялілі сям'ю новага арганіста. Абодва адказы з гарвыканкама адмоўныя. У другім, за подпісам старшыні Жука, паведамілі: для будаўніцтва доміка для касцельных працаўнікоў выдзяляюць пляц непадалёк ад храма. Будуйцеся. За грошы вернікаў і асабістыя.

- Ніхто не ведае, куды дарога і Бог выведуць чалавека… Высяляць касцельнага вартаўніка нягожа. Просім, пакіньце нам другі паверх. У нашым доме.

Ксёндз пранізліва ўзіраецца ў вялікага начальніка, ні слова пра пакаранне вінаватых, былых, сённяшніх.

У групцы мужчын у дзелавых строгіх гарнітурах ні шэпту.

- Прапанавалі вызваліць астатнія дзве кватэры… Прыбліжаюцца тры юбілейныя для мяне даты - пяцьдзясят гадоў служу ў храме, пяцьдзясят гадоў маёй службы ксяндзом, пяцьдзясят гадоў працую ў Нясвіжы. Аплата маленька. У супрацоўнікаў тож.

Блакітныя ўдумныя вочы прысадзістага шыракаплечага ксяндза блішчаць, страляюць, зажурботнены прамаўляе вынашаным, лозунгамі. Нясвіжскі фарны - лепшы на Беларусі. Раённыя начальнічкі перад ім - снег, прыйшоў, пахаладзіў, знік. Ні следу, ні зыку. А касцёл з 1584 года стаіць і стаяцьме вечна. Даўней рабілі не раўня цяперашнім умекам, хуткім на будоўлю, а потым на планавыя нясконцыя рамонты.

Павучанні ў храмах, касцельнае і царкоўнае добрае слова памагае сем'ям і нацыям болей, чым выскалянне і паспешнае выхаванне камуністычнымі і савецкімі прапагандыстамі. Мясцовым самаўпраўцам няма ўпыну. Перабудова ўверсе, у гарадках і вёсках усё тое ж, пыл, застой, бачнасць руху.

Шмат, вельмі шмат начальнікаў прабегла ў Нясвіжы за апошнія пяцьдзясят гадоў. Адзінкі запамяталіся справядлівасцю, разумным гаспадараннем на старажытнай зямлі з рабацяшчымі памяркоўнымі людзьмі.

Сёлета бліз касцёла ўздумалі ладзіць аўтастаянку, пракладваюць дарогу. Шум, газы, гул, вокрыкі ў месцы, куды чалавек прыйшоў ачысціцца душою, падумаць пра сябе, вечнасць, Бога.

- Пагадзіннікі і арандатары лепш паводзяцца, чым асобныя райкамаўцы і выканкамаўцы. У іхніх сэрцах ні Бога, ні камунізму.

Як ні паварочвай выбалеласць слоў Каласоўскага, іх шырокую логіку чуваць усім. Крыўда Нясвіжскага фарнага - крыўда ўсіх прыхаджан, што ходзяць сюды.

- Пацерпіць храм, знікне, наш ці праваслаўны, навальваюцца беды на тую зямлю, - фаталістычна аналізуе і прарочыць настаяцель. - Хто адву-

чваў чалавека ад веры, сям'і, сумленнай працы - панізіцца, Там і тут. Разбяруцца ў немарачным, Там і тут. Знізіцца. На месцы застанецца, вечна будзе апраўдвацца, вызуджванні за паслугацкую праўду не памогуць, - позірк на кіраўнікоў райкама, райвыканкама. - У каго душа і вера, павінны нам памагчы. Святая справа. Наш храм - гонар нацыі беларускай.

Пераглядванні.

- Прымас Польшчы кардынал Глембп наведваў нас, вось тут, у фарным, службу правіў. Фінансамі дапамагчы палякі не могуць, бедныя…

Словы, фразы цякуць ад дзеда самі сабою, інстынктыўна. Голас перапыняецца, цішэе, жывее, мацнее. Ім патрэбны другі паверх, хоць другі паверх. Абодва дамы забралі несправядліва, па-савецку… Зрабілі камунальнымі, у адным, на другім паверсе, дазволілі жыць тром нашым сем'ям. Без памочнікаў ніводны храм не можа працаваць. Ксёндз не заўважае паўтораў выказванняў.

- Вы здзейснілі подзвіг, выратавалі такі храм, асабіста вы, Рыгор Вікенцевіч, - словы кіраўніка рэспублікі Мікалая Слюнькова выпавольваюцца з гучнасцю.

- Наш храм не проста ўсесаюзнага значэння - еўрапейскага.

- Сусветнага, мы ўжо разумеем, - развівае думку ксяндза Каласоўскага сакратар Слюнькоў. - Каб вы не былі ксяндзом, атрымалі б вялікую ўзнагароду ад дзяржавы, паўтараю, вялікую. Заслужылі.

- Не трэба ўзнагарода дзяржавы мне, лепей ад рэспублікі падзяка касцёлу, - смялее ксёндз, усміхаецца. - Не забірайце наш паверх у апошнім нашым доме.

… Увойну немцы загадалі здаць рэйху ўсе каляровыя металы, у тым ліку трубкі аргана, званы. Ксёндз Каласоўскі раздабыў даведку, што трубы і званы здалі Саветам у чэрвені, перад адыходам Чырвонай Арміі.

- Калі б немцы даведаліся, што мы іх ашукалі, закапалі ўсё ў зямлю, мяне і чалавека, які выдаў даведку на захаваным савецкім бланку, з пячаткай, адразу расстралялі б, - хвілін колькі таму прамаўляў Каласоўскі пры экскурсаванні высокаму госцю, свіце. - Тым болей, я ўжо сядзеў шэсць тыдняў у нямецкай турме.

Усе плятуць, гітлераўцы спаважна ставіліся да рэлігіі, рэлігійнікаў.

Менавіта. Плятуць. Недамыслікі. Пры сустрэчы на вуліцы не пакланіўся нямецкім афіцэрам, гэтага стала дастаткова, не шаную немцаў. У турму.

Каласоўскі не мае часу сказаць, што перад канцом вайны яго зноў гітлерцы важыліся расстраляць. Выратаваў ксяндза ад смерці нясвіжскі праваслаўны поп, некалькі дзён хаваў у царкве.

… - Паўтарыце, калі ласка, пра дах.

- Праўду казаць можна? - падае голас манахіня-сястра ўзбоч настаяцеля.

- Толькі праўду.

Жанчына няўлоўным рухам супыняе ксяндза. З упэўненасцю перакананай паведамляе: цяпер усе дзяўбуць, немцы падпалілі касцёл. Не ўся праўда. Савецкія самалёты і артылерысты білі. Касцельніца ў чорным збаялася ўласнай адвагі, спасылаецца на вайну: вайна падпаліла касцёл.

Накіпела ў душы Каласоўскага ад прычыненых няпраўдаў самому, яшчэ болей ад крыўдаў і болю фарнаму касцёлу. Рашучасць, што ачынаецца ў душы сапраўднага праўдалюбца ў адчайную хвіліну, валодае Каласоўскім:

- З-за сябе так не шчымела сэрца, - прысадзісты лысаваты чалавек з прыемным маршчыністым тварам знізвае блакіт галоўнага суразмоўцы, світу, двух плячысцікаў наводдаль. Блакіт воч на блакіт воч. - Не ведаеш, як Бог распарадзіцца, куды дарога выведзе. Вас сёння Бог сюды прыслаў.

Урачыстыя гожыя постаці на велічных звонкіх фрэсках сцен і сферы купала пацвярджаюць чутае, бадзёраць прысутных, жывяць нітку субяседдзя.

- Дах выгараў датла, ніхто не мог тушыць. Стральба, з абодвух бакоў. - Ксёндз раздумна падбірае словы. - Нясвіжчына, слава Наймагутнаму і Найдобраму, меней пацярпела, але рамантаваць касцёл ніхто не мог. Не было жадання, матэрыялаў, рабочых, крыхаў аплаты… Восеньскія дажджы, залевы, снег, маразы… і прыгажосці фрэскаў ніхто не бачыў бы, знікла б, растварылася. Як у многіх храмах, савецкіх.

Ксёндз і вернікі знайшлі інжынера, адмыслоўвага ў праектаванні і аднаўленні дахаў, па здымках ён і Каласоўскі аднавілі праект абрынутага даха. Жыхары Нясвіжа і вёсак, каталікі, уніяты і праваслаўнікі, так-так і праваслаўнікі, у вечаровы час і выхадныя да сёмага поту аднаўлялі дах. Новай бляхі не расшукалі, скарысталі гарэлую, перамятую.

Мясцовы люд і прыезджы, ваенныя і цывільныя дзівіліся - спалены важкі дах пры падзенні не парушыў фрэскі цэнтральнай сферы, сцен. Не меней дзіваваліся раённыя і ваенныя ўладаўцы другому здзейсненаму на вачах цуду - без праекта і плана, па здымках, рымска-каталіцкай грамадзе Нясвіжчыны ў ліхалетны час стральбы і рабункаў 1944 года ўдалося аднавіць дах, сцяну. Да зімы ўправіліся. Пасля ў энцыклапедыях напішуць, што храм адноўлены ў 1944, ні разу не ўзгадаюць, хто гэта зрабіў, якімі высілкамі, за чые сродкі.

- Ездзіў па вёсках, збіраў прадукты, каб хоць як разлічыцца з рабочымі. Інжынер быў прарабам

на будоўлі, я дарадцам. За тры з паловай месяцы паставілі кроквы, пакрылі фарны старою бляхаю, другой не было… Прыязджалі архітэктары пасля, не верылі аднаўленню цюцелька ў цюцельку, вымяралі…

- Шпілі свецяцца з далі-дальняй…

- Праз гадоў колькі касцёл перакрылі ацынкаванкаю. Сабор пятнаццатага стагоддзя, кажу пра задуму і пачатак будовы. Гістарычныя і мастацкія каштоўнасці ў нас раскрадалі, вывозілі. Шведы, потым двойчы рускія. Савецкія таксама… аднімалі. Засталыя каштоўнасці захавала не ўлада. Славім Бога, у нашы справы пасля яна моцна не ўлазіла, нейтраліла. А зараз рабуе, у лепшыя часы.

- На якой мове ідзе служба? - Старшыня райвыканкама Мацвей Жук пнецца ўесці пальшчызну, хоча дапамагчы вялікаму беларускаму начальніку.

- Беларускай. - Пераглядванні. - Зрэдку польскай.

- А на рускай? - Слюнькоў сходу раскеміў логіку Мацвея Жука.

- Не, - адказвае жанчына ў чорным.

- Можа, варта і на ёй.

Узаемапераглядванні зацягваюцца.

- У нас было разоў колькі. Цяпер няма і не будзе.

- Чаму? - Нявінна пазіраюць на касцельніцу і ксяндза Слюнькоў, світа, нясвіжскае начальства.

- Калі хоць у якой царкве Нясвіжчыны і Меншчыны пойдзе служба на польскай, тады ў нас будзе на рускай. - Сагненага дзеда Каласоўскага няма, ёсць вялікі настаяцель вялікага храма, дзяржаўны дзеяч.

Старшыня райвыканкама шэпча ў шаноўную світу; раён турбуе жыллё, жыллё, і будаўніцтва паліклінікі, школы.

- Плануйце, будуйце. - Слюнькоў пачуў перашэпты. - Чужое забіраць… непрыстойна. Перабудова не вучыць адбіраць хоць у каго. - Павышаным тонам. - Не чакайце камісіі. Нашай, цэкоўскай.

Супыніўся з дарогі да дзвярэй, раённым начальнікам:

- Я беларус, праваслаўны. Хрысцілі дзіцем. На Рагачоўшчыне не пшэкаюць, касцёлаў няма. - Удых, выдых. - Закон ёсць цяпер, закон будзе ў любой будучыні, не адкладваюць парадак і закон назаўтра. Не дапусцім нестыкоўя сёння, не будзем выпраўляць заўтра, - рашучасць тону і выхілкі ў сакратара Слюнькова, як пры абмеркаванні на Саўміне СССР прапановы дырэктара МТЗ Слюнькова.

Хвілін колькі таму на пытанне пра ўзнагароду нятумкі ксёндз Каласоўскі практычна нічога не сказаў, талкаваў пра касцёл. Першая асоба рэспублікі трэці раз пацікавілася:

- Якую ўзнагароду хацелі б сабе асабіста. Якая ў сілах рэспублікі - грамату, прэмію? Легкавік? Знойдзем спосаб не пакрыўдзіць закон.

Трэці раз няпетраны ксёндз Каласоўскі адказаў аднолькава:

- Вярніце, просім, моцна просім, наш паверх у нашым доме. Дзве сям'і высяляюць, новаму арганісту няма дзе жыць.

На добрым прыемным твары святара хмурына. Малітоўна склаў рукі.

- Прашу. Калі ласка, прашу вас. Усіх.

Мікалай Слюнькоў паварочваецца да старшыні райвыканкама:

- Прынялі ўжо рашэнне?

- Двойчы. - Рэзкія сузіркі валявых людзей. - На бюро райкама абмяркоўвалі.

Мікалай Слюнькоў знізвае Мацвея Жука позіркам удава на жабу.

- У аблвыканкам і Маскву ад касцёла былі тэлеграмы. Пайшлі ўсюды заявы і ад працоўных - не даваць касцельным паверх. Многія нясвіжцы без жылля, дзесяцігоддзямі па шэсць чалавек у пакоі, чарнобыльскіх перасяленцаў няма куды сяліць, - прамаўляе Жук.

Дрыжаць, дрыжаць вочы дзеда Каласоўскага. Трэ павекі першы сакратар ЦК КПБ; яркая валявая сінява знікае з выблакітненай сінечы святара, дрогкай, просьбітнай.

- Засяленне?

- На тым тыдні. Мяркуем, - хуценька паведамляе першы сакратар райкама партыі.

- Устрымайцеся. Раю ўстрымацца. - Імклівы разварот да ксяндза, гучней: - Зможаце заўтра паслаць заяву…

- Просьбу, ніжайшую просьбу…

… - заяву на маё імя. І старшыні Саўміна Кавалёва?

- Завязём. Сёння. Сам паеду. У два адрасы аддамо.

- Сёння не паспееце. Заўтра. - Мякка, зусім мякка азірае старога настаяцеля.

- Заўтра, зранку. Сам павязу.

- Вам далёка ездзіць можна? - Слюнькоў блізіцца да настаяцеля. - У заяве спашліцеся, ойча, на гэтую размову, сённяшнюю.

Астатнім са світы:

- Навошта выпраўляць брак, лепей не дапусціць. Дом на Міцкевіча хто будаваў? Чый ён? Хопіць дзяліць чужое.

Пераказаў бы хто чутае і бачанае сёння ў Нясвіжскім касцёле - не паверылі б атэісты і вернікі. Самы вялікі тытулам атэіст бязбожнай партыі бязбожнай рэспублікі ў бязбожнай дзяржаве заступіўся за касцёл, уважыў настаяцеля храма Рыгора

Каласоўскага. Перамаўляўся з ксяндзом не кіраўнік рэспублікі - малодшы чалавек з старэйшым.

Ужо на першых этапах падыходу да дырэктарства на Менскім трактарным Мікалай Мікітавіч Слюнькоў засвоіў: кожнае яго слова і жэст, выдых і жаданне доўга талкуюцца і ператалкоўваюцца ўверсе і ўнізе. Быў смелым. Выдатна асягаў месца нечаканай цяперашняй сустрэчы з нечаканым святаром, пачутыя і выказаныя словы. Велічнасць храма, абразоў, фрэскаў змусілі кіраўніка на веліч рашэння.

Прайшла паўгадзіна, Мікалай Слюнькоў усё яшчэ ў фарным. Канца агледзінам не відно. Ніхто не асмельваецца перапыніць размову, абход.

Усю кавалькаду прыезджай і мясцовай світы ў сховішча пад касцёлам не пусцілі. Усе семдзесят радзівілаўскіх саркафагаў надзейна захоўваюцца, у халадзіну лістапада зазіраць у падзямелле не рэкамендуецца.

Пры выхадзе з касцёла да Мікалая Слюнькова плыве ксёндз Рыгор Каласоўскі. Кланяецца, кланяецца.

- Не трэба, прашу. Вы храм шаснаццатага стагоддзя выратавалі, гонар краіны. Вам трэба дзякаваць, - перапыняе чарговы нізкі паклон настаяцеля Слюнькоў.

У невялічкай гурмачцы дзяўчат і хлопчыкаў блізь касцёла выгалас дванаццацігадовай дзяўчынкі. Спытае яна, усё роўна спытае. Янінка вытузваецца з рук маладой жанчыны ў паношанай дублёнцы.

- Ну скажы, Яня, спытай, - Слюнькоў неўдалёк ад чорнай "Чайкі" запыняецца. Падбадзёрвае разгубленую смялячачку.

- Вы, праўда, начальнік?.. І нясвіжскіх начальнікаў?..

- Трохі начальнік, - весялее Слюнькоў. Просіць настаўніцу не асаджваць дзяўчо.

Кідкая металічная табліца на храме грозна ўсіх папярэджвае: касцёл - дзяржаўная каштоўнасць, за яго пашкоджванне - пакаранне.

- Сапраўды начальнік?

- Крыху сапраўды.

- Пане Гжэгаш, я скажу. Пане Гжэгаш, - дзяўчо баіцца самастойніць далей.

Ксёндз асцярожна памоўчвае. Дзяўчо перапытваецца ў крыху сапраўднага начальніка: выказануць ці не.

- Выказані, выказані.

- Калі ласка, хоць трошачкі супыніце тую ляскаўку. - Дзяўчынка Яня паказвае на аўтастаянку. - Там гуду шмат. Дзядзькі, там дзядзькі… лаюцца… брыдкімі слоўмі.

Кавалькада не села ў дзве "Волгі" за "Чайкаю", усе дыбаюць за расхмараным Слюньковым.

Дарога так блізка ад храма ніколі не ляжала. Аўтамабільнай стаянкі тут не было. Хто канкрэтна распарадзіўся ўляпваць сюды аўтастаянку, адказаць Слюнькову нясвіжцы не могуць. Самыя вялікія нясвіжскія начальнікі ўвоміг сталі маленькія, невінаватыя, не памятаюць, ім трэба паднімаць паперы.

- Архітэктары і планавікі ўзгаднялі пракладку дарогі з інстытутам горадабудаўніцтва ў Менску. Чыя ініцыятыва… будзем разбірацца, - спрабуе доказніцца Мацвей Жук.

- Паможам вам разабрацца мы! - Ярасны позірк Слюнькова пячэ многіх. Досыць выклікаць бэрслівыя ўсмешкі прыхажан, нашых савецкіх людзей, за бяздумныя дзеі пагадзіншчыкаў, чые рашэнні не вытрымліваюць праверкі на працягу дзвюх-трох пяцігодак, не гаворачы пра стагоддзе.
- Праз тыдзень персанальна вы, падкрэсліваю, вы, паведаміце цэнтральнаму камітэту, ці на месцы ў вас галоўны архітэктар. Пра ўзнагароду праекціроўшчыкаў бязглуздзя з аўтастаянкай не забудзьце.

Мікалай Слюнькоў усё жыццё патрабавальны чалавек, на любых пасадах. За перавагу грама праўды ў вялікай ці малой жыццёвай сітуацыі выдасць непаваротнаму і вінаватаму кілаграм рэзкіх слоў, дэпрэміруе, панізіць пасадаю. Ён часта выглядаў грубым у вачах падначаленых менавіта з-за гэтага.

- Ясна кажу? - гнеўна.

Абсалютна ясна, нявыказанае распетрылі ўсе. Трохі начальнік з Менска хваліць дзяўчынку Янінку. Вераемна, нясвіжскім таварышам удасца ўлічыць яе невялічкую просьбу, аддаліць аўтастаянку і дарогу ад храма, паабяцалі, чуеш, паабяцалі.

Мала можа зрабіць любы вялікі начальнік супраць цемры і бязглуздзя дробненькіх начальнічкаў у далёкіх вёсках і гарадках, якія абавязкова па-свойму зразумеюць пачутыя і прынятыя ў інструкцыях і выступленнях ідэі. Надаўся выпадак, у адным месцы хібу выправіш, у дзясятках і сотнях не ўбачыш. Як ускалыхнуць інертнасць жыцейскага балота, Мікалай Слюнькоў не асягаў. Разумеў другое, ён будзе радавацца, што наведаў адзін з старэйшых храмаў Беларусі, прыгожшы за многія ў Еўропе, у якім святарніць святы чалавек.

- Будзем маліцца за вас, - падыходзіць да "Чайкі" Рыгор/Гжэгаш Каласоўскі.

Небаязлівы Слюнькоў цішэіць, хаця не зніжае голас на шэпат: ён сам хацеў прасіць пра гэта. Хаця праваслаўніку выказваць такое каталіцкаму святару не з рукі. Усе ўсміхаюцца. Высознае чыстае святло Нясвіжскага фарнага касцёла авінула ўсіх. Любы храм заўжды кранае людзей, весціць іх вачам; не ва ўсіх глыбіць душэўнасць.

- Бог не дзеліць па канфесіях. Па справах -

богаверных, ужыўных, - таксама цішыць Каласоўскі.

І не было зразумела, хто прасіў, памагаў, прычашчаў вачмі і рухамі.

- У раёне цяжка, разумеем. Адсяленцы з чарнобыльшчыны едуць. Жылля не стае, разумеем. Усё-такі просім, памажэця, - прамаўляе Каласоўскі на праводзінах.

Хто каго павінны сёння шкадаваць і разумець, заўсёды вытрыманы і дзелавы Мікалай Слюнькоў сэрцам чуе, не чуе. Ашаломлены справаю продкаў, славутых Радзівілаў, малавядомага, шырокай душы святара Мікалай Слюнькоў хіліць постаць перад веліччу застылага дзеда Каласоўскага, вымаўляе патрэбнае храму, ягоным служкам:

- Вызначымся станоўча, думаю, хутка. У Саўміне сённяшнюю размову пачуюць.

- У храме маліцьмуцца за вас, - ціхенька вышэптвае жанчына ў чорным.

- А як жа.

Ксёндз Каласоўскі не плача, у яго проста так скрывіўся твар, заўздрыгвалі плечы, нізіцца галава. Рыгор Каласоўскі не перажывае, не-не, не перажывае. Слёзна вышэптвае:

- Матка свента, незабыўна, нікім не пераможна, дзякую.

Вера ў сілу і магутнасць Усебачнага, Найдобрага, Усемагутнага праяўлялася ўсевідавочна, чарговы раз, ксёндз працягвае вышэптваць:

- Хвала Богу, хвала.

Колішняму рамесніку Мікалаю Слюнькову нечакана адкрыліся новыя лісткі кнігі дрэва. Чалавек радаваўся, сёння (не ведаў сам) ён стаў пяром яго вялікасці лёсу, іголкаю ў Ягонай руцэ.

Рэзкі, часта напраломны ў барацьбе за дысцыпліну і планы Мікалай Слюнькоў вучыўся хутка. Удзячыўся, літаваў, справядлівіў. Даравàў хібы/промахі малым і вялікім, асабліва выпадковыя, бессвядомыя, папраўныя. Сабе прасіў у Бога аднаго - доўгіх гадоў, аб'ектыўнасці пры разборах зваленых на невінаватую Беларусь тысячаў чарнобыльскіх праблемаў.

Лёс вядзе, выпадак выбірае, ва ўзаемаўзгодненні рухаюць выбранца ўперад. Неба і абставіны, пакуты і дабрачнасць продкаў дапамагаюць, - могуць шкодзіць. Перад Генсекам Міхаілам Гарбачовым праходзяць анкеты і постаці чатырох ахоўнікаў. Трэба выбраць аднаго ў асабістую ахову, на замену. Усе рослыя, статныя, без хмурынкі ў анкеце.

Лысы, з вялікаю радзімнаю плямаю Гарбачоў выбраў сходу. Лысага.

Слюнькоў і нясвіжскія субяседцы ведалі, праца і абставіны накіроўваюць, але не ведалі, што надта часта выпадак выбірае, памагае ці шкодзіць лёсу. Калі паклалі на лёсавагі біяграфіі станоўчых раўназначных людзей, Гарбачоў аддаў перавагу чалавеку з вялікаю радзімнаю плямаю на скроні: сакратаром - Слюнькова.

Не было лепшых? Былі. Выбралі яго, беларускага інжынера, дырэктара, сакратара, выдатнага прамоўцу на чарнобыльскім абмеркаванні.

Многія жыццёвыя ўпэўненцы, нечакана займелыя грошы, пасады, поспех, не ўлічваюць збег усіх выпадковасцяў, не выдзякваюцца пастаянна Богу, генам, лёсу, не бачаць і не ацэньваюць адважнікаў - і надта хутка жнуць расплату. Як і кожны, хто забыў, што не дадзена аднаму ўвесь час толькі раскашаваць, вызначаць, прасіць, душыць. Кожны з можных павінны прымхліва памятаць: ён не так сабе атрымаў сілу і могу весці чужыя лёсы, сам (і радня) на ігле лёсу. Чуйца павінны не проста праймацца болем іншага, ён абавязаны найперш падтрымваць ствaральныя дух, справы. Падтрымваюць таго, хто чуе і рухае не адно сябе і блізкіх, пакутуе не толькі для сябе і блізкіх - для іншых, а пашанцуе - для горада, дзяржавы, чалавецтва.

Многія вылучэнцы і заможнікі, як бедннякі і вечныя просьбітнікі, забылі: трэба не адно моцна працаваць - неабходна ўмець літаваць, удзячыцца. Найперш Яму. Неабходна самому плакаць, чуць слёзы іншых.

Пройдзе некалькі месяцаў пасля нясвіжскай сустрэчы, Мікалая Слюнькова забяруць на працу ў Маскву сакратаром ЦК КПСС, праміне год - пад партрэтамі члена Палітбюро ЦК КПСС Мікалая Мікітавіча Слюнькова ў вітальных калонах на дэманстрацыях будзе хадзіць увесь гмахкі Савецкі Саюз. Нясвіжскі раён таксама.

У душы гэтага чалавека зыркімі вогнікамі час ад часу ўспыхваюць уражанні ад нечаканай далёкай сустрэчы ў фарным касцёле, просьбачкі невядомай дзяўчыны Яны.

Не-не, ды і ўспомняцца вялікаму кіраўніку, беларускаму і савецкаму дзяржаўнаму дзеячу Слюнькову малітоўныя словы непрыкметнага святара Нясвіжскага храма Каласоўскага: "Мы будзем маліцца за вас, будзем маліцца".

# Майткі ці ..., ці ..., ці брукі?

## *У што апраналіся і абуваліся сейлаўцы ў ХХ стагоддзі*

*Апошнім часам, што ні кажы, беларуская мова выкарыстоўваецца даволі шырока. Да мовы павяртаецца моладзь, асабліва адукаваная моладзь, якую не задавальняе многае ў савецкай беларускай мове і якая хацела б вярнуцца да першакрыніц. Але маладыя лінгвісты і філолагі, якія ўзраслі на асфальце, вышукваючы забытыя словы і лексемы не заўсёды да месца іх прымяняюць, і ўзнікае так званая "прышпільная мова". Не так даўно выцягнулі слова* ***"майткі"*** *і давай у тыя майткі адзяваць усіх, хто пад руку. А на самай справе майткі - майткамі, а жывая мова ёсць жывая мова.*

Сейлавіцкія мужчыны з пачатку 20-га стагоддзя не насілі **майткаў, штаноў, брукаў, нагавіцаў, ганавіцаў** і інш. Насілі толькі **порткі**. Пад ніз насілі **споднікі**. Порткі мелі такія дэталі, як **калоша, крэсла, прарэх, кішэні, гузікі, аплікі**. Падпяразвалі порткі **папругай**, якая мела **клямар** або **спражку**. Ніякіх **дзягаў, рамянёў, пасаў, паясаў** не было, толькі папругі. **Пояс** - гэта для іншага. **Пас** і **пасак** для іншага. **Порткі навыпуск** называлі яшчэ **клёшы**, **порткі ў боты** сяды-тады называлі **галіфэ**. З 60-х гадоў 20 стагоддзя з'явіліся крамныя **кальсоны**. І слова **"кальсоны"** ўвайшло ва ўжытак. Тады ж з'явілія зноў жа крамныя **трусы**, спачатку толькі мужчынскія і хлапечыя. Словы **"кальсоны"** і **"трусы"** прыйшлі разам з этыкеткамі на вырабах, яны не пярэчылі нормам беларускай мовы і лёгка ўвайшлі ва ўжытак. На сподніках, а часта і на галіфэ ўнізе на калошах былі завязкі. Гузікі ў гэтых месцах практычна не прымянялі. Пры цары і яшчэ пры Польшчы споднікі шылі з **цвікляй**, гэта такі клін паміж калошамі - спадчына сярэдніх вякоў, калі і порткі шылі з цвікляй, бо без яе ў сядле, калі ногі шырока расстаўлены, порткі проста лопаліся пасля доўгай язды.

Асобнай з'явай былі **лееныя порткі**. **Леі** - гэта вялізныя латы з моцнай тканіны тыпу **корт**, якія нашываліся, скажам, на суконныя порткі. Сёння можна ўбачыць у фільмах нашытыя налакотнікі. Гэта нешта падобнае, толькі на ўсе порткі. Леі маглі быць толькі спераду ці спераду і ззаду. Латаныя порткі гадзіліся толькі куды-небудзь на працу. У лееных новымі леямі портках сейлавец мог пайсці і да касцёла. Леі адышлі ў нябыт у канцы 60-х. Калі на Навагодняе свята 1972 года нам для маскараднага касцюма зажадалася мець менавіта лееныя порткі, то ўжо з вялікай цяжкасцю знайшлі адны больш-менш прыстойныя на ўсім сяле.

Малым хлопчыкам шылі кароткія **портачкі на шлейках**. Слова **"шорты"** не ведалі.

Шылі порткі з рознай тканіны: з лепшай і горшай - з сукна, з кужалю, са зрэбя, з корту, з "чортавай шкуры", а потым ужо з лепшых крамных тканін. Крыкам моды былі порткі з крамплену.

**Майткі** ў выглядзе жаночых **панталонаў** з'явіліся пры Польшчы. Да гэтага часу абыходзіліся **спадніцамі**. Спачатку слова **"майткі"** абазначала толькі адзін гэты элемент вопраткі, пазней распаўсюдзілася і на дзіцячыя портачкі розных відаў. Усялякія **шаравары** ці **трыко** ў дзяцей называлі **"майткамі"**. Калі трыко надзяваў мужчына, то яно тут жа станавілася порткамі. Жаночыя і дзявочыя **трусы** таксама прыйшлі з крамы і прынеслі з сабой назву на этыкетках. Першыя **калготкі** з'явіліся ў дзяцей таксама ў 60-я пад назвай **"райстопы"**, што сведчыць пра іхняе польскае паходжанне. Словы **"калготы"** і **"калготкі"** пачалі гучаць у канцы 60-х. Слова **"брукі"** прынеслі ў вёску дзяўчаты. Жанчыны па ўсіх навуках павінны быць кансерватарамі, але што тычыць вопраткі, то тут усе навукі побаку. Тут яны - наватары. **"Дзеўкі ў портках"** з'явіліся ў вёсках у самым канцы 60-х і ў пачатку 70-х. Купіць тыя порткі асабліва не было дзе, іх замаўлялі ў гарадскіх атэлье. Адтуль і прыперлі слова **"брукі"**. І дзеўкам не важна было, што гэтага слова не было і няма ні ў адным беларускім слоўніку, што яно пярэчыць нормам беларускага маўлення. У тым слове іх падтрымалі маладыя настаўніцы з Менска, якія студэнткамі асвоілі **брукі** раней. Неўзабаве з'явілія **"бручныя касцюмы"** ці **"бручныя гарнітуры"**, і слова ўкаранілася.

Пра **джынсы** пачулі ў пачатку 70-х. Ужывала гэтае слова толькі моладзь. Старыя язык не ламалі і на тыя навамодныя джынсы казалі: "порткі".

Але **"штаны"** за 20-е стагоддзе ў Сейлавічы не прабраліся.

Чаму ўсе навамодныя з'явы прыпадаюць на 60-я гады 20-га стагоддзя? Таму, што ў 60-х у вёсцы перасталі ткаць і павярнуліся тварам да крамы.

**З нагоды кранёмся і іншых элементаў вопраткі.**

На верхнюю частку цела надзявалі **кашулю**. Вядомае было і слова **сарочка**. Прынамсі, мая бабуня 1893 года нараджэння ў прымаўцы: *"Не*

*чапай, каб цябе сарочка не чапала"*, - ужывала слова **сарочка**. Бацькі 1927 і 1932 гг нараджэння сарочку не згадвалі, абыходзіліся кашуляй. Класічная **майка**, без рукавоў, са шлейкамі, з глыбокімі выразамі прыйшла ў 60-я з крамы. Слова **"майка"** не пярэчыла нормам беларускай мовы і лёгка прынялося. Пры гэтым усё, што з рукавамі, называлася **"кашулькамі"**. **Рубашка** не была чужая, але таксама канкрэтна саступала кашулі і ўжывалася гэтае слова ў асноўным у дачыненні да вайсковай кашулі. Ад Чырвонай Арміі 1939 года памяталі **гімнасцёрку**. Ніякіх **цішотак, саколак, футболак** ніхто ў гэтым значэнні не ведаў. Пра футболку крыху пазней. Трэба назваць і элементы: **каўнер** ці **каўнерык, рукавы, манкеты.** І да слова: вёска - вёскай, а ведалі і **жабо**, і **манішку,** і **палярыну**, і на рукавах заміж **гузікаў** маглі ўжывацца **запанкі (запінкі)**.

Жанчыны насілі **камбінажкі** і **станікі**, у пачатку 70-х дзяўчаты адправілі станікі ў адстаўку і пачалі насіць **ліфчыкі**. **Бюстгалтары** сейлаўкі мо і цяпер ці асвоілі, цяжка выгаварыць.

На кашулю мужчыны адзявалі **свэтар**, апраналі **марынарку** ці **фрэнч**. Слова **пінжак** ужывалі, мо, настаўнікі. **Касцюм** - з двух элементаў: **порткі** і **фрэнч (марынарка)**. **Гарнітур** - з трох, тое ж плюс **камізэлька**. Дома жанчыны і некаторыя мужчыны насілі **гарсэты** - тая ж камізэлька, толькі цёплая. У пэўны час прыйшла мода на **футболкі**, зусім не зразумела, чаму такая назва, бо насілі іх мужчыны, якія пра футбол ці чулі. Шылі футболкі з **вельвету**, які называлі **бархатам**. Крой вайсковай афіцэрскай рубашкі.

Здаралася сейлаўцу павязаць **гальштук** або **краваt**, ведалі і **мушку** - гэта тое, што па-расейску называюць "галстук-бабочка", а беларусы перакладаюць як "гальштук-матылёк". Таму, шаноўнае спадарства, сейлавец **"пад мушкай"** і сейлавец **"пад мухай"** - гэта два зусім розныя сейлаўцы.

Жанчыны насілі **сукенкі, спадніцы** з **блюзкамі**, **свэтры, гарсэты, жакеткі**. Калі сукенку трэбала падперазаць, то шыўся **пасак**. Магла выкарыстоўвацца і **папружачка**. У пэўны момант ва ўсеагульны ўжытак увайшлі шырокія **цыратовыя блішчастыя папругі.**

Не будучы краўцом марна спрабаваць апісваць усе фасоны, але можна згадаць **спадніцы-клёш, плісіроўкі, гафрыроўкі.**

У 70-я пачаў з'яўляцца на вёсцы **сарафан**. Хоць і не наша вопратка, але сарафан насілі і жанчыны і дзяўчаты.

Асобным элементам жаночай вопраткі быў **фартух**. Пры гэтым нямецкае слова **"фартух"** лічылася сваім і шырока ўжывалася, а славянскае **"пярэднік"** было чужым і да ўжытку не дапускалася.

Жанчыны, якія нарадзіліся ў канцы 19-га, пачатку 20-га стагоддзя фартухі насілі пастаянна. Мянялі, які "для дому", які "ў людзі". Гэта была вельмі патрэбная і практычная рэч. Нарваць прыпол зелля, струкоў гароху, прынесці прыпол гуркоў - было звычайнай з'явай. І той прыпол можна было прынесці толькі ў фартуху, бо прыпол спадніцы ці сукенкі можна скарыстаць толькі ноччу, як ніхто не бачыць. Мая бабуня трапіла ў нямецкі пастарунак у Сейлавічах у 1944 годзе, калі немцы і паліцаі праводзілі спешную эвакуацыю, грузілі на падводы ўсё, што маглі: мяшкі, пачкі, клункі. Адзін мяшок лопнуў, і на падлогу высыпалася нешта белае. Збіраць не было калі, так і пакінулі. Калі падводы ад'ехалі, жанчыны кінуліся ў пастарунак, каб мо чым пажывіцца, і бабуня нагрэбла поўны фартух гэтага белага. Бяжыць, як казалі, а рэальна ідзе подбегам на Касцянева і нават не паспрабавала, што яна нясе. Думае: "Вось, нарэшце солі разжылася". Прынесла, акуратна высыпала ў міску, тады толькі паспрабавала. Аказаўся цукар. Колькі было радасці. Цукру таго не бачылі ўсе тры ваенныя гады, а тут цэлы фартух. Жанчыны, якія нарадзіліся ў 20-я, 30-я гады фартухі насілі ўжо толькі дома, зрэдку на працу, і то бралі з сабой - на вёску ішлі ўжо без фартухоў. Фартухі, як элемент школьнай формы дасталіся дзяўчатам. Яны былі штодзённыя - чорныя і святочныя - белыя. Трэба сказаць, што дзяўчаты ў гэтых фартушках глядзеліся вельмі прыгожа. Ну і трэба дадаць, што фартушкамі былі завешаны ўсе крыжы, пакуль бальшавікі іх не пазразалі.

Сярод жаночых аксесуараў былі **сумачкі**, і, як ні дзіўна для вёскі, **муфты**. З упрыгожанняў былі ў асноўным толькі **пярсцёнкі, завушніцы, пацеркі, брошкі, грэбені**. Былі і дэкаратыўныя **гадзіннікі-бранзалеты**. Распаўсюджны былі **карункі** і **гафтаваныя аксесуары**, тыя ж **каўнерыкі, манжэты** (тыя ж **манкеты**, але з аздобай). Дзяўчаты насілі **абручы** для валасоў і розныя **заколкі**.

Абувалі мужчыны **боты, валёнкі з галёшамі.** Глыбокія самаробныя галёшы называліся **бахіламі**. Абувалі яшчэ **туфлі** і зрэдку **чаравікі**. Боты былі **хромавыя, ялавыя, керзавыя, гумовыя, літыя**. Зімовыя кароткія боцікі для мужчын з'явіліся тут недзе мо ў 80-я. Валёнкі былі **бітыя** і **шытыя**. **Лапці** памяталі і пры Польшчы яшчэ абувалі на касьбу, але ўжо і тады гэта быў анахранізм. Памяталі і **аборы** (*"Ішлі Тодар з Тадораю, знайшлі лапаць з абораю"*). З'явай нашай беднасці былі **апоркі**, гэта калі нехта багацейшы

адпорваў ад ботаў **халявы**, каб паставіць іх на новы ніз і мець новыя боты таней. А дабіты ніз даставаўся бедняку і замяняў рабочыя, скажам, туфлі.

Жанчыны ў 40-я, 50-я таксама насілі **хромавыя боты, валёнкі, туфлі**, магчыма, і **чаравікі**. Прынамсі насілі блішчастыя гумовыя чаравікі, якія называлі **снягоўцамі**.

Для дзяцей радасцю былі **сандалі**, потым **кеды**, ну ясна, што **туфлі, чаравікі, валёнкі**. Пазней у дзяўчат з'явіліся **боцікі**. Як ні дзіўна хлопцы ахвотна насілі ў школу **боты**. Я, як сёння памятаю, як мне купілі керзавыя боты 33-га памеру, зусім дзіцячыя. Цяпер такія хіба што ў музеі знойдзеш. Як элементы абутку акрамя **халяваў** назавём: **абцасы, коркі, насы, заднікі, падэшвы, шнуркі, падкоўкі,** пазней дадаліся **шпількі** і **платформы, замкі.**

Хлопцы насілі толькі **шкарпэткі**, а ў боты **анучы**. Дзяўчаты насілі **шкарпэткі, гольфы, панчохі**, ну і пазней **калготкі**.

Хатніх **тапачкаў (тэпцяў)** або **пантофляў** на вёсцы практычна не было, хаця пра іх ведалі. Раззувацца было не прынята, як і стукаць у дзверы.

Зімой на рукі надзявалі **рукавіцы** і **рукавічкі**. **Пальчаткі** былі непрактычныя і ўжываліся рэдка. Рукавіцы ў асноўным былі **робленыя пруткамі**. Слова **"вязаць"** у гэтым значэнні не ўжывалася, толькі - **"рабіць пруткамі"** ці **"рабіць шыдэлкам"**. Цёплыя шкарпэткі таксама рабілі пруткамі. Бывала, што для грубай працы рукавіцы шылі. Здаралася, што рукавіцы шылі нават з аўчыны. Былі досыць практычнымі, ахвотна ўжываліся і нават шыліся двухпалыя "вайсковыя" рукавіцы.

**Верхняя вопратка.**

У 20-м стагоддзі былі ўжо забытыя **світкі, жупаны, кунтушы**. Ведалі слова **"каптан"**, але што гэта такое, то - не. Насілі **капоты, кажухі, плашчы, вясёнкі**. **Паліто** прыйшло позна. У 1962 г. я ішоў у школу яшчэ ў **капоце**. **Вясёнка** - вясенняе (асенняе) паліто. На штодня насілі **куфайкі** або **ватоўкі**, што цалкам адно і тое ж. Жанчыны "ў людзі" апраналі **кофткі** або **плюшоўкі**, што таксама адно і тое ж. **Кофткі** былі, а вось **кофтаў** не было. **Кофтка** - гэта плюшавая куртка. Само слова **"куртка"** таксама прыйшло позна з дзіцячымі балоневымі куртачкамі і паступова заняло грунтоўныя пазіцыі. Мужчыны для выхаду "ў людзі" мелі суконныя **бравэркі** - гэта таксама такая грунтоўная, цёплая куртка, мелі шкураныя **тужуркі**. **Плашчы** былі з прагумованай тканіны, прыгожыя. Плашчы часта былі з капюшонам. Гэты капюшон называўся **башлык**. **Балоневыя плашчы** з'явіліся, як і ўсюды, але хутка з параднага гардэробу перайшлі да пастухоў. У іх - лёгкіх - зручна было кароў пасвіць, ды і ад дажджу трохі засланялі. З войска ведалі **шынель**.

Элементы: **каўнер, апушка, крысо, полы, фалды, хлясцік.**

На галаве мужчыны насілі **шапкі**. Шапкі былі **летнія** і **зімовыя**. **Летнія шапкі** - гэта, як правіла, вядомыя ў шырокім свеце **кепкі**. **Зімовыя шапкі** - традыцыйныя **вушанкі**. Хіба што ведалі слова **"капялюш"** ці **"барэт"**. З войска ведалі **фуражку, пілотку, папаху, кубанку,** але дома панавала **шапка**.

Жанчыны насілі **хусткі**. Хусткі былі **простыя**, **паркалёвыя, кашаміравыя**, былі **канаплянкі**, але ўжо толькі **крамныя**. Былі хусткі таксама і цёплыя, **шарсцяныя** - гэтыя маглі быць і робленыя пруткамі. Тут не трэба баяцца слова **"шэрсць"** і мяняць на слова **"воўна"**, бо хусткі маглі быць не толькі з авечай воўны, але і з ангорскай трусінай шэрсці, і з казінага пуху. А то нашыя знатакі мовы і на свінні воўну знойдуць. Насілі жанчыны і **капелюшы**, але на вёсцы такое дзіва здаралася рэдка. Хаця, як сказаць. Мая бабуня ў 1913 годзе ішла замуж за пана Сярпінскага не ў звыклым **вэлюме**, а ў капелюшы.

Да галаўных убораў дзяўчат можна аднесці **стужкі**. Асабліва, калі з'явіліся капронавыя рознакаляровыя стужкі, то такія **кукарды (банты)** завязвалі, мо тая адна стужка метр ці паўтара метры даўжыні была.

У 50-я, пачатку 60-х гадоў 20-га стагоддзя яшчэ шырока ўжывалася слова **каптур**, аднак праз пэўны час адмерла і замянілася на **шапачку**. Немілагучным падалося, ці што? Але сённяшнія цукеркі **"Чырвоны каптурык"** адтуль. У дзяўчат на шапачках бывалі **кутасы**.

Былі і **шалікі**. Насілі іх у большасці дзеці, ну і сур'ёзныя мужчыны "ў людзі".

Ну і што з усім гэтым будзем рабіць? У які падручнік упішам? Сейлаўцы філфакаў не заканчвалі, яны ў гэтай мове жылі штодня. Ну добра, сейлавіцкіх мужчын, якія не насілі ні штаноў, ні майтак, а абыходзіліся аднымі порткамі, можам запісаць у несвядомыя, ці паставіць пазнаку *абл.* А ўсё астатняе? А ўсё астатняе - гэта жывая беларуская мова, і ўся яна правільная.

Іншая справа, якія словы падтрымліваць у школьных падручніках, а для якіх месца ў асноўным у вялікіх слоўніках. Але ні адно слова не можа быць выкінута ці забыта. Ні з адным не трэба змагацца, нават, з прышпільнымі, а раптам з якога брыдкага качаняці і вылюднее прыгожае, ёмкае беларускае слова.

***Станіслаў Суднік з Сейлавіч.***

***Вікторыя Жукевіч-Дзівота***

# ДАНІНА ПАМЯЦІ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Без назвы**

Як далёка мне памяць сягае,
Дзесь над Енісей за Уралам,
Як пашарпаная тоўстая кніга.

Не хачу яе чытаць.

Аднак тыя старонкі, лёсам патрапаныя,
Хачу перагледзець адну за другой,
Ужо белым снегам пазасыпаныя.

Мерзне мне сэрца.

Не чытаю, а прагна ўглядаюся,
Каб нейкі малюнак убачыць,
І знайходжу схуднелы твар

Мамы любімай.

Бачу таксама малую дзяўчынку,
З нагола стрыжанай галавой,
Каб ні адна савецкая вош

Не грызла дзіця.

Ёсць нейкія здымкі, лісты,
На “казе” пячэцца “ляпёшка”,
А за акенцам снег срабрысты

Нэндзу накрыў.

Пасылка ляжыць, бабцяй пасланая,
Праз паўгода дайшла разрабаваная,
Шмалец з’елк, мука парассыпаная.

Мама плакала.

Далей рака, што імклівa плыве,
Па ёй сунуцца ссечаныя бярвенні,
Над берагам мама анучы мые,

Нашую вопратку.

Зачыняю раздзел балеснай памяці,
Бо рэшта старонак зляпілася
Ад слёз роспачы, жалю і болю.

Ужо нічога не бачу.

***“І было нам, як у Пана Бога ў запечку”***

Гэтыя словы мамы, я памятаю далей...

Тое цяпло, той куток для мяне паміж мяшкамі мукі, тое знаходжанне разам не трывала вельмі доўга. Голад быў усеагульны, сырою мукой усё ж не накорміш дзіця. У рукавічцы выносіць Анастасія трохі мукі, каб “дома” на “казе” спячы “ляпёшку”.

Падаю пры аказіі рэцэпт “палепшанай” ляпёшкі.

***Пляцак “ляпёшка” на кефіры***

*Складнікі: 1,5 шклянкі тлустага кефіру, 2 яйкі, 2 шклянкі мукі, 1 лыжачка соды, 1 лыжачка солі, 1 лыжка цукру, 5 лыжак расліннага алею, паўлыжачкі базылікі, 1 лыжачка кмену.*

*Міксерам узбіць яйкі з цукрам, соллю і кефірам. Усыпаць соду, размешваць да ўспеньвання. Дадаць муку, раслінны алей, базыліку, узбіць нанава. Уліць цеста ў змазаную тлушчам форму, пасыпаць кменам. Памясціць у разагрэтую печ і пячы 20-25 мінут пры тэмпературы 180 - 200$^{O}$C. Як відаць, пляцак “ляпёшка” на кефіры просты ў выкананні і пры тым смачны.*

На браме стралок правяраў усіх... знайшоў... роспач. Плач. Бо аддзяляюць дзіця ад маці, памятаю добра той момант - мяне завозяць у “дзетдом”, а маму судзяць за крадзёж у перыяд вайны... бязлітасны суд! 6 месяцаў турмы, дзіця забіраюць на гэты час на выхаванне “савецкай улады”.

Мне было 4 гады, памятаю, што была зіма, там, зрэшты, заўсёды была зіма, г.зв “дзевяць



месяцаў зімы, а ўсё астатняе - лета". На здымку я вышэйшая і як у тым вершы - каб ніякая савецкая вош не грызла дзіця, маю на гола стрыжаную галаву.

У пакоі стаіць ёлка, дзеці спяваюць: "Ёлачка зялёная", - і танцуюць вакол.

Жанчына ў белым фартуху і белай хустцы пляскае ў далоні і гаворыць нам:

- Дзеці, голасна гукайце: "Бог, Бог, дай пірог...", - што тлумачыць для тых, хто не знае такіх слоў азначае: "Божа, Божа, дай булачку...".

І дзеці паслушна гукаюць некалькі разоў.

Жанчына зноў пляскае ў далоні і гаворыць:

- А цяпер, дзеці, гукайце: "Савет, савет, дай канфет!" (тлумачу: канфеты - гэта цукеркі). Мы крычым і пляскаем у ручкі, а тут... у столі расхіляецца дошка і сыплюцца на нас цукеркі.



- О, бачыце. дзеці, які добры гэты савет - а дзе ж ваш Бог?

Мама выйшла з турмы праз 4 месяцы. Пачала працаваць у швейнай майстэрні, у якой перараблялі вайсковыя, амерыканскія шынялі на патрэбы савецкай арміі... дык там пашыла мне мама палітцо, якое мой муж называе шубай і ў якім я на здымку. Пашыта з выпаратых кішэняў салдацкіх плашчоў. Шапачку - таксама.

А я памятаю з той швейнай майстэрні доўгі шэраг машын для шыцця, пастаўленых адна за другой у два рады - пасярэдзіне праход... Я бегала там паміж тымі машынамі, гуляла і спявала, танцуючы найцяжэйшы танец - лезгінку. Спявала:

*"На заборе птичка сидела*
*И такую песенку пела:*
*- Мама, купи мне ботинки,*
*Я станцую карбадинки..."*

Выцягваліся да мяне рукі з кавалкамі цукру ва ўзнагароду за гэтыя выступленні - ніколі нічога не ўзяла ад нікога чужога, хаця тыя кавалачкі былі такія прыгожыя, снежна-белыя і напэўна вельмі салодкія. Гаварыла заўсёды:

- Большое спасибо, я этого не люблю.

Падавалі цукар.

- Вікторыя, патанцуй яшчэ, паспявай...

Выступленне было закончана і кропка.

Увайшло мне гэта напэўна ў кроў, бо ніколі не давала сябе нічым і нікому падкупіць.

З тых апошніх месяцаў у Канску найбольш урэзалася мне ў памяць акрамя снегу, рака - яшчэ сёння сніцца мне па начах разлітая, з бярвеннямі дрэва, з зялёным высокім берагам і мама, якая трымае мяне за руку.

Вярталіся апошнім транспартам у Польшчу ў трагічных абставінах.

За два тыдні да ўказанага тэрміну мама аказалася ў шпіталі пабітая і параненая здзічалай каровай.

У цяжкім стане, параненую, маму забралі ў шпіталь, і доктар сказаў, што няма шанцу на выезд. На астатку сілаў уцякла са шпіталя за дзень перад ад'ездам транспарту, палякі падрыхтавалі пасцель на верхніх нарах, паклалі маму, я была пад апекай суседзяў... рушылі.

У Польшчу!

Перад Уралам цягнік яшчэ ехаў павольна. было некалькі дзясяткаў вагонаў. Былі адкрытыя, незамкнёныя, і ехалі ў другі бок. Мама ляжала на нарах, а я скакала, пэўна, зноў тую лезгінку танцавала... на павароце вагон нахіліўся, я была блізка каля адчыненых дзвярэй, выпала і пакацілася па насыпе, з аднаго з наступных вагонаў, бо людзі

бачылі, што дзіця выпала, выскачыў малады хлопец і ўкінуў мяне ў чарговы вагон. А ў нашым вагоне ратавалі самлелую маму. Сёння бачу сябе абвязанай гальштукамі, паскамі, з якіх зрабілі доўгі “повад”, і мама трымала мяне на ім ужо да самых Баранавіч.

Рэпатрыяцыйная карта была сапраўднай да кастрычніка, і мама вырашыла высесці ў Баранавічах, не ехаць адразу далей, а паехаць дадому, да бацькоў, бо не ведала таксама, што з татам. Разлічвала на тое, што забярэ бацькоў у Польшчу, але, на жаль, дзяды не адважыліся на выезд, бо яшчэ двое сыноў было ў Сібіры, і нічога не ведалі пра іхнія лёсы.

**Анёл Сібірак**

У вагоне для быдла, забітым дошкамі,
каб нават промнік сонца не прабраўся,
трымаў за руку маладую кабету,
якая ў нялюдскі час стала маёй маці,

прыносіў старыя простыні,
дапамагаў ёй драць тыя лахі на пялёнкі,
атуляў яе грудзі кавалкамі ваты,
каб мела мяне чым накарміць,

начамі сядзеў у нашай ляпянцы,
і чуцён быў плач, плакаў над нашай нядоляй,


*W dzień moich urodzin 22.8.2008. Anioła odnalazł w Kazimierzu Dolnym mój mąż Tomek i przywiózł do domu.*

дзьмухаў на мае заінелыя бровы і вейкі,
здабыў недзе вайсковы коц
і дапамагаў маме спавіваць мяне,

прывязаць да плеч,
бо ў тайзе нядаўна дзіця прапала,
адганяў ад нас мошак,
збіраў выкінутыя з калгаснай кухні лупіны,
навучыў мяне танчыць і спяваць,
але не дазваляў выцягнуць руку
па кавалачак цукру...
такі быў... мама казала, што ўсюды за намі хадзіў...
у сне бачыла, што ён вялікі і вельмі прыгожы,
у адкрытым вагоне, бо не было для чаго пільнаваць,
ехаў на прыступках і падхапіў мяне,
выпаўшую на бура-зялёную ўзбочыну Урала...
калі навучылася з ім размаўляць,
то даведалася, што не было яму са мой лёгка,
але не пакідаў мяне ніколі
і ратаваў нават тады, калі пра яго забывала...
сёння ўбачыла, што ён не такі прыгожы,
і не такі малады,
як там у Краснаярскім краі.
Шата пашарпаная і бурая,
як тканіна на кроснах жыцця,
змучаныя худыя ногі і рукі,
твар смутны,
хоць я стараюся ўбачыць на ім цень усмешкі,
а крылы не ўздымаюцца да палёту...
знайшоў найпрыгажэйшае месца ў маім доме,
у маім сэрцы.
Анёле божы, ахоўнік мой, Анёле сібірскі,
Ты заўсёды каля мяне стой,
Пільнуй мае думкі,
дадавай сілаў, не пакідай мяне раніцай, днём, ноччу
і ў гадзіну смерці маёй.
Аман.

***“Памятай усё.
Прывітай блакіт неба,
якое нараджае святло”***

**Вяртанне**

З ліста да Евы Гадыцкай-Цвірка:

*“Пыталася мяне ў апошні раз, як выглядала наша вяртанне з Сібіры. Цяпер у час Вялікадня перажываю ўсё нанава і вельмі балюча, хоць у тым болі ёсць таксама і радасць, што добры Бог, да якога ўмела маліцца толькі адной малітвай “Ойча наш”, мама вучыла мяне і страшыла, што калі не вывучу, не ўпусцяць мяне ў Польшчу.*

*Некалі напішу табе, як выхоўвалі польскіх дзяцей у сталінскай Расіі.*

*Праваслаўныя ў Праводную нядзелю нясуць фарбаваныя яйкі на могілкі - чырвоныя - у вас у Грэцыі таксама фарбуюць яйкі перш за ўсё на чырвона, праўда? А мы вярнуліся якраз з Сібіры ў Праводную нядзелю, у красавіку... Цягнік уехаў на станцыю Баранавічы, людзі павыходзілі з вагонаў. кленчылі і цалавалі зямлю, спявалі песні, плакалі, бо гэта быў першы прыпынак на польскай зямлі, і я памятаю дакладна, што нехта даў мне чырвонае яйка. Адзін з ссыльных з нашага вагона меў цукар і я тое чырвонае яйка ела з тым цукрам - бо гэта перш за ўсё было нечым такім цудоўным і няўяўным для мяне - бедалагі сібірскай.*

*Памятаю таксама добра, што на суседняй каляі стаяў цягнік са змучанымі жаўнерамі,ніхто да іх не падходзіў, іх пільнавалі савецкія салдаты, а я падышла і падала кавалак хлеба аднаму з іх ... не ведаю сёння, што гэта былі за жаўнеры, напэўна, палонныя немцы...*

*Калі мы ў Коле першы раз ішлі са свянцоным у Вялікую суботу 1947 года, у нас не было ніякага кошыка - мамуся паклала ўсё, чырвоныя яйкі, канешне, таксама, на талерку, якую паставіла на белае палатно, бо не мела сурвэты і завязала прыгожа ў кукарду, упрыгожаную самшытам.*

*Можа праз тое, праз успамін таго чырвонага яйка Велікодныя святы для мяне - гэта сапраўды свята жыцця і адраджэння і людскога таксама сапраўднага ўваскрашэння, а рэзурэкцыйныя званы гучаць з надзеяй на будучыя святы для мяне, для маіх блізкіх, заўсёды радасныя.*

*Заўсёды ў нашай сям'і гэтыя святы мелі выключны характар, мая падрыхтоўка заўсёды была і цяпер ёсць таксама вельмі старанная... таксама духоўна, а велікодны стол пераўзыходзіць усе святочныя сталы ў нашым доме*".

Далейшы працяг ліста да Евы Гадыцкай-Цвірка:

*"У Гарадзеі мы сустрэлі кузіна Паўла Макаўчыка, з яго сям'і паходзіць Анастасія, якая шчыруе ў нашым польскім доме ў Нясвіжы. Нехта падвёз нас да Нясвіжа, і Павел нёс мяне "на барана" да Іванаўшчыны.*

*Было ўжо зелена, апавядаю тое, што сама памятаю - мы дайшлі да бабцінага дома, яны не жылі ў вёсцы. Жылі пад лесам, на горцы стаяў дзедаў млын.*

*Дома не было нікога, і найбліжэй было да сям'і Страцкевічаў.*

*Гэта была такая вялікая гаспадарка, размешчаная ў лесе. Пан Страцкевіч - гэта хрышчоны бацька маёй мамы, пайшлі туды - сталы былі выстаўлены перад домам... Накрытыя белымі*



*абрусамі - што за дзіва для мяне, на іх велізарная колькасць яды. Памятаю той плач, той жаласны лямант над нашым лёсам, мяне перадавалі з рук на рукі, было шмат людзей, святкавалі, бо была нядзеля першая пасля Вялікадня, якая на Крэсах называецца Праводнай, у нас часцей - Белай, а цяпер гэта Нядзеля Міласэрнасці.*

*Падалі мне вялікі кавалак булкі - да сёння яго бачу, жоўтая, пахучая, напэўна была дрожджавая, патрымала ў руках тую пляцку, бо не ведала, што гэта і палажыла на стале.*

*- Еж, дзіцятка.*

*А я на тое:*

*- Большое спасибо, я этого не люблю...*

*Таму пяку заўсёды дражджавую булку - велікодную бабку, не раз нават з пахучай мукі , якую прывожу спецыяльна з той мэтай з Нясвіжа.*

*Сёння, калі гэта пішу, таксама Нядзеля Міласэрнасці...*

*- А што ты ясі, любая?*

*Я:*

*- Картошечку.*

*Бабця прынесла падсмажаную на масле бульбачку.*

*Я:*

*- Бабушка, мы таких не едим, надо чтобы они были сухенькие, так, как мамочка мне делала, сухенькие, не мокрые.*

*Я ж не гаварыла па-польску.*

*Да сёння маю прывычку есці падсмажаную бульбу са скарыначкай хлеба”.*

Дапісваю ў лістападзе 2014 года:

*“У ліпені 2014 г. я была з мужам і з сябрамі Марысяй і Рысем Слізенямі, іхнім шаснаццацігадовым кузінам Слаўкам і Евай Рымашэўскай у Нясвіжы. Бацька Евы, Аляксандр Рымашэўскі быў блізкім суседам маёй бабці, ведаў у маладосці добра маю маму, жыве цяпер у Марскім Устроні. Мы яго цяпер адведваем, а я палюбіла яго асабліва за аповесці “даўніх часоў”.*

*Мы паехалі ў Клецк, да сяброўскай сям’і Цвіркаў, іхняя дачка Ліліяна - дактарантка ў Інстытуце хіміі ў Менску. Прыём на сто балаў. Як тады, у 1946 годзе ў сям’і Страцкевічаў!*

*І тут сустрэла мяне нешта незвычайнае - у гэтай сям’і ёсць унучка брата хрышчонага бацькі маёй мамы, пана Страцкевіча. Старэйшы пан мае 95 гадоў, добра памятае нашае вяртанне з Сібіры, быў тады ў свайго брата, сардэчна ўспамінае маю маму, нягледзячы на столькі гадоў, трымаецца вельмі добра. Сустрэча была вельмі ўзрушальная, зноў усе плакалі так, як у 1946 годзе - сям’я Страцкевічаў і я.*

*У Нясвіжы ці Клецку заўсёды пры спатканнях плачу...”.*

З ліста да Евы Гадыцкай - Цвірка. Вяртанне...:

*“Мы з дзядамі вярнуліся ад Страцкевічаў да бабці. Ужо ў Лані ведалі, што Настка вярнулася, ноччу прыйшоў татусь. Днём баяўся НКВД, меў на сабе зялёны, вайсковы шынель і вайсковую шапку. Падышоў да мамусі, а я:*

*- Уходи, гитлер, от моей мамки.*

*Так прывітала свайго тату. Ніколі мне не гаварыў, што адчуваў тады... Сёння, калі ўспамінаю тыя хвілі, маю слёзы на вачах... як яму мусіла быць вельмі прыкра. Не магу пра тое пісаць.*

*Сустрэча сям’і ўвекавечана на здымку, зробленым у Нясвіжы ў траўні 1946 года.*

*Мабыць, мушу тут падаць апісанне выдатнай булкі на дражджах.*

*Гэта рэцэпт Марысі Слізень.*

*Слізені - гэта вядомая сям’я красовых землеўладальнікаў, продкі якіх сябравалі з Адамам Міцкевічам і Томашам Занам, мама Рышарда паходзіць з сям’і Анцутаў, з Анцутаў была і маці Марылі Путкамер.*

*Анцуты пасля вайны пасяліліся таксама ў Кольскім павеце, і мой тата часта ў іх бываў. Ды і мы з мужам сустракаемся з мамай Рыся і яго братам, якія цяпер жывуць у Алабоку”.*

***Дражджовая пляцка Марысі***

*100 г. дражджэй, 3/4 шклянкі цукру, цукар ванільны.*

*Вымешаць усё да атрыманне адналітнай масы.*

*4 цэлыя яйкі, 3/4 шклянкі алею, 3/4 шклянкі малака, 4 шклянкі пшанічнай мукі, шчэпаць солі.*

*Вымешаць усё з дражджамі драўлянай лыжкай да атрымання адналітнай масы і паставіць падходзіць на прыблізна 3 гадзіны.*

*Бляху заслаць паперай для пячэння, без тлушчу, выкласці цеста, якое можна пасыпаць крушонкай і пячы каля 45 хвілін пры тэмпературы каля 180$^{O}$С.*

*Крушонка: 1/2 кавалачка масла, 1 шклянка цукру, 1/2 шклянкі пшанічнай мукі. Вырабіць і пасыпаць перад пячэннем цеста.*

А так апісала Ева сустрэчу свайго бацькі, Даната Гадыцкага-Цвіркі з сям’ёй, якая вярнулася з Сібіры:

*“Паплачам сабе разам з Падгорыцамі, чытаючы пра сустрэчу з тваім і нашым татам. Сустрэча маёй сятры сібірачкі ў Варшаве з татусем ведаю з апавяданняў. Яна трохі іначай гэта ведала, я ёй распавяла, як я гэта памятаю (з апавядань). А так 2.03.1946 года ў Варшаве на вул. Жалезнай у доме пп. Ясінскіх сустрэліся бацькі... Да таго, пакуль сустрэліся мамуся з сястрой татуся - Ідалкай, Андрэем і Лількай (Марыя-Лявона) былі ўжо ў пп. Ясінскіх - татка прыйшоў туды і мамуся схавалася, сястра мая, двухгодка, была дзікая, думаю, што нават не размаўляла (цёця Ідалка з раніцы гаварыла ранішнія пацеры, а пазней пачынала вячэрнія, з дзіцем ніхто не размаўляў). Татка ўзяў на рукі сястру, а яна падрапала яго па твары... слёзы і кроў цяклі... Татка, не бачачы мамусі, думаў, што яна не вярнулася з Казахстана... Адтуль тыя слёзы, а да таго той чулы прыём дачкі... Цяпер, калі шукаю і грабуся ў мінулым, задумваюся, адкуль узяліся пп. Ясінскія, можа, будзе ведаць праф. Ежы Суднік. Да яго сваякоў у Длугалэнцы пад Кутным прыходзілі лісты мамусі з Казахстана, і татка іх атрымоўваў... гэта ведаю ад прафесара...”*

З ліста да Евы Гадыцкай-Цвіркі:

*“Дзед Вінцэнт меў млын, вятрак. Стаяў на горцы. За млынам ляжала такая калода дрэва, я бегала там вакол і, пэўна, стамілася, бо лягла пад той калодай і заснула. Няма дзіцяці!!! Лес недалёка, стаў таксама побач. Што тут пачалося. Ад*



*Іванава да Лані праз Керкоўшчыну людзі бегалі і шукалі мяне, мамуся млела, тата на кані аб'язджаў лес, а тут сабе праз нейкі час выходжу заспаная з-за той калоды. Нават памятаю, што бабця Стэфанія схапіла мяне за плечы і сказала. што прывяжа мяне да фартуха, а прывязванне тое для мяне нічога новага, як ведаеш, ехала прывязаная ў вагоне. Мама, параненая наравістай каровай за колькі дзён перад выездам уцякла са шпіталя, каб паспець на транспарт, і ляжала ў вагоне на нарах, трымала пазвязваныя паскі, якія мужчыны павымалі з портак, а яны трымалі яе дзіця, каб зноў не выпала з вагона. Бачу той адчынены вагон і маму, якая ляжыць высока на драўляных нарах...*

*У Лані па суседстве, была дзяўчынка, запомніла яе добра, бо мела коскі, а не такія як я непаслухмяныя кароценькія валасы, мела імя Людка.*

*У 1990 г., калі мы былі з мамай у Нясвіжы, у краме ў Лані сустрэлі дзвюх жанчын, яны былі з Менска. Нешта мяне ткнула, і я запытала адну з іх, дакладна не ведаю чаму і адкуль тое пытанне паўстала..., ці не Людка яе імя. Так, адказала. Запытала, ці памятае тую дзяўчынку, якая вярнулася з Сібіры? Памятала і знямела.*

*Не ведаю, ці на цябе зробіць гэта такое ўражанне, бо, ведаеш, што сустракаюцца мне розныя дзіўныя рэчы, але я не лічу, што гэта нешта дзіўнае, гэта проста знакі, якія трэба заўважаць і ўмець прачытаць. Пісала табе не раз пра тыя розныя гісторыі, Грэсек гаварыў мне, што "маю прадбачанне".*

*Тая сустрэча ў краме ў Лані сапраўды была надзвычайнай і думаю, што тая Людка перапужалася, людзі на Беларусі не такія даверлівыя... Ёй не магло, мабыць, прыйсці ў галаву, што гэта было натуральнае, Божай рукой накіраванае спатканне. Хутчэй, можа, дадумалася да іншых прычын.*

*Шкада, што не адазвалася да мяне. Я дала тэлефон. Да сёння бачу яе, дзяўчынку з малымі коскамі, якая гуляла са мной і бегала наперагонкі ў бок лесу".*

З ліста да Станіславы Вятр-Партыкі:

*"Звычайны падвал, піўнічка, напэўна, нешта такое было і ў тваім доме. Нешта мне здаецца, што яшчэ стаіць у падворку. У тым падвале, называюць яго тут прыгрэбка, у бабці віселі розныя дзіўныя рэчы, невядомыя для дзіцяці, якое ведала толькі смак чорнага хлеба і непаўторны смак печа-*

*най бульбы. Пахучыя кілбасы, сушаныя сыры віселі ў “свіронку”, добра, што не мушу табе тлумачыць, што гэта такое, бо гэта ведаюць нават тыя, хто прачытаў “Пана Тадэвуша”, ну і што ў свіронку ў Завоссі, то сам пясняр спаў у час канікулаў. Што гэта такое і для чаго каму патрэбна, дзівілася, калі смакоцем ёсць падсмажаная бульбачка, кавалак пышнага белага хлеба. Стаялі ў падвале таксама бочачкі з засоленым мясам, вісела цыбуля. Нейкія пахучыя зёлкі, сплеценыя дзедам Вінцэнтам з саломы кашы, напоўненыя арэхамі. Чаго там не было!!!*

*Здымак падвала зрабіла ў Сейлавічах у Караліны Мазалеўскай. Ці была калі-небудзь у Сейлавічах? Перад вайной былі вёска і засценак Сейлавічы, і там жыла ў цёткі мама, бо да Гарбуноўшчыны, да школы вясковай гаспадаркі для дзяўчат было бліжай. Сёння следам па засценку ёсць толькі касцёл.*

*Від з падворка жудасны - невымерная даль зялёных, па-праўдзе калгасных палёў, але ж гэта наша зямля, гэтыя палі пры заходзе сонца выглядаюць, як з казкі і займаюць увесь гарызонт. Гэта такі “прастор сухога акіяна”.*

*Выйшла там на падворак і адчула, што сэрца пачынае мне біцца гвалтоўна - Ева Рымашэўская (Карольця - яе далёкая сваячка, калісці раскажу пра тое, як спляліся лёсы нашых сямей) заўважыла, што нешта са мной робіцца...*

*Божа мой, паўстала перад маімі вачыма ноч, пах зёлак і яшчэ нечага, чаго не патрафлю сёння акрэсліць. Не памятаю ўжо ўсіх тых пахаў..., і мы з мамай у той цемры, там у такім падвале.*

*Села на столачак. Караліна падала мне вады.*

*Калі мы вярнуліся з Сібіры, то рэдка спалі дома, у Лані. Бацька баяўся НКВД, для іх ён быў дызертырам, які не пайшоў у Чырвоную Армію, а да таго ж даваенным афіцэрам, якога не ўдалося своечасова злавіць і вывезці. Ну яшчэ да таго гэты вялікі кавалак зямлі, амаль “памешчык”, таму той падвал быў нашай спальняй. Была яшчэ схованка, выкапаная на падворку, але гэта было месца не для дзіцяці. Там часцей спаў бацька.*

*Адной ночы я захварэла, і раніцай мама адвезла мяне, была яшчэ брычка, у Нясвіж у інфекцыйную бальніцу - ведаеш, які гэта будынак - вялікі, драўляны, аднапавярховы стаіць на рагу вул. Сыракомлі, калі ісці да новай бальніцы. Памаляваны на шэра. Знаходзіцца ў добрым стане. Жывуць там дзве сям’і. У мяне была скарлатына. З бальніцы мы ўжо не вярнуліся ў Лань, пераважна былі або ў бабці, або ў цёці Эльжбеты Семянкевіч у Нясвіжы, жонкі асадніка і ваеннага інваліда бальшавіцкай вайны, Бенядыкта Семянкевіча. Дзядзька меў сына Янка, з’язджала з ім на самакаце з горкі ў бок студні, якая стаіць да сёння каля той памаляванай на блакітна брамы. Янак працаваў пазней у рэдакцыі нясвіжскай газеты, і мы падтрымлівалі сардэчны кантакт.*

*Часта, калі ўжо ў гады маёй маладосці мы прыязджалі з мамай у Нясвіж, затрымліваліся на вул. Някрасава на некалькі дзён. Я вельмі любіла гэты дом цёці Эльжбеты на Новым месцы. Тут выхоўваўся мой бацька. У цёці Эльжбеты стаяла скрыня, прыкрытая, нібы габеленам, накрытая, нібы накідкай, вытканай у аліўкава-шэрыя ўзоры - прыгожай, ваўнянай... Я часта на яе пaглядала, бо даведалася, што гэта ткала мая бабця Паўліна, мама бацькі. Мусіла моцна ўглядвацца, бо атрымала ад цёткі тую накідку, і яна цяпер у маім доме. Не маю каму яе пакінуць, можа завязу ў музей у Нясвіж.*

*Для маёй мамы то якраз Новае Места было тым перадваенным Нясвіжам, тут захаваліся дамы, кветнікі, стаяла тут сама Слуцкая брама, толькі грэбля выглядала іначай, чым перад вайной, ці ты мапятаеш так зв. бухалку? Мама, калі мы прыехалі ў 1965 годзе, была расчаравана, што яе не бачыць.*

*Вечарам блішчалі ў святле месяца люстэркі возера, а ў блізкім ставе рагаталі жабы. Быў за домам маляўнічы агарод, падзелены кустамі смародзіны на дзве часткі - сад са старымі дрэвамі яблынь, груш і сліў і ўласна агарод, у якім было ўсё. Што табе яшчэ апісаць? Там усё да сёння непаўторна прыгожае.*

*Бачыш гэтую дарогу, па якой уязджаем аўтакарам з боку Гарадзеі? Дзе ёсць такія бярозы... ну дзе??? А тая сцяна цёмна-зялёных елак за бярозамі. Тыя шырокія ўзбочыны, якія ўтрымліваюцца ў найвялікшым парадку, а наўпрост ужо відзён здалёк наш горад. Альбо тое пахучае яйка, якое са смакам з’ядаеш па дарозе назад... Ну, таму, што ў Нясвіжы ўсё пахне і смакуе іначай...*

*Цёця Эльжбета была дачкой дзеда Жукевіча ад першага шлюбу і пасля смерці маёй бабці Паўліны занялася ўсім домам і рэштай сям’і - Мікалаем, Евай і Марыяй. Мікалая, малодшага брата таты, засеклі ўкраінцы ў час вайны. Бачыш, звычайны падвал, а колькі ўспамінаў...”.*

**Старыя вароты**

Зачынена, замалёвана
на блакітнае, каб яе не пазналі,
стаіць на драўляны плот абапёртая,
тут каля студні... мая брама.

Не ўпускае нікога,
ніхто праз яе не праходзіць,
і ніхто не праязджае.
Колісь была замкнута “на крыж”
толькі ўначы...
Удзень стаялі вароты шырока адчынены,
паказвалі пышнасць яблынь, сліў і груш,
запрашалі ў хату,
у якой на стале заўжды ляжаў хлеб,
прыкрыты льняной сурвэткай
(гэта для галоднага падарожнага),
у студні банка з малаком...
Хаты даўно ўжо няма.
На сад гляджу праз дзірку
ад выпаўшага сука.
Студня знішчана, але ёсць...
старыя вароты, абвязаныя ланцугом
(за што ім такая кара?),
што замыкаюць на глуха час і ўспаміны.
Не маюць ужо каго запрасіць... і я не заходжу.

***Нясвіж, 2007 г.***

З ліста да Евы Гадыцкай-Цвірка:

*“Выезд... Пастаянна ўспамінаю тыя ночы ў падвале. Не раз мама пакідала мяне ў бабці. Тым часам набліжаўся тэрмін апошняга транспарту палякаў, запісаных на выезд у Польшчу. Сусед таткі засцерагаў, што НКВД-оўцы не толькі часта прыязджаюць і пытаюцца пра яго, але пакінулі аднаго салдата якраз у таго суседа... на гарышчы. Мы выязджалі ад дзядоў, не беручы з сабой нічога, каб не выклікаць падазрэнняў.*

*У Баранавічах аказалася, што ёсць нейкія цяжкасці з тым, каб трапіць у цягнік. Людзі везлі пажыткі, вагоны былі запханыя, і трэба было чакаць на наступны транспарт. Але мама ўпрасіла кандуктара, абдымаючы па-змоўніцку яго за плечы - гаварыла потым, не ведаю, што ён сабе думаў, але сказала яму, што яна будзе вяртацца, што адвязе сваіх толькі да Берасця і вернецца да бацькоў. Кандуктар знайшоў для нас нават сядзячае месца.*

*Бацькі не везлі ніякіх пажыткаў, бо заставаліся бабця і дзед, а тое, што маглі забраць - сямейныя памяткі - знішчылі бальшавікі.*

*Таму так з цэлым транспартам людзей з Нясвіжскага павета мы высадзіліся на станцыі Кола, у самым цэнтры Польшчы. Там, у тым Коле мы высадзіліся, бо Нясвіжскі раён атрымаў такое прызначэнне. Па загадзе Сталіна і яго прыслужнікаў з ПРП”.*

(Спытала мяне неяк дачка маёй прыяцелькі, чаму ты цёця з мамай прыехала ў Кола? Зачапіла тым пытаннем струну, якая ўва мне трывае, пра якую нават не ведала. Да сёння сціскае мне гэта пытанне сэрца.)

Прыехалі ноччу на месца ў ПУР. У вялікай зале на першым паверсе тата разлажыў свой вайсковы плашч, мы накрыліся коцам і спакойна заснулі на польскай зямлі.

З ліста да Евы Гадыцкай-Цвірка:

*“Памятаеш вуліцу Новавейскую (Новасельскую, рэд.), Думаю. што так, бо па ёй ад вуліцы Сянкевіча можна было дайсці да Бліжняй, а там жыла Вера Цвірка. Хадзіла пазней туды па малако.*

*Вуліца Новавейская, н-р 7, чырвоная з цэглы камяніца, пабудаваная яшчэ да расейскай акупацыі, адстаяла ад тратуара на нейкія 6 метраў, насупраць падобны будынак, толькі, што жылая архітэктура - уваход дзяліў будынак на дзве часткі. Калідор працінаў дом на палову. ад вуліцы два балконы з жалезнай балюстрадай. Апісваю той жылы будынак насупраць ПУР-а.*

*А ПУР размяшчаўся ў даўнейшай так зв. “ахранцы”, з вуліцы ўваходзілі праз дзверы, размешчаныя па левым баку будынка, малы калідорчык і лесвіца на верх. Направа - уваход у вялікую залу, дзе ляжалі людзі на клунках, вайсковых плашчах.*

*Бачу пераважна зялёныя вайсковыя шынелі. Дзяцей не памятаю. У той вялікай зале быў пан Рачкевіч, мой пазнейшы хрышчоны, пан Астрэйка. За гэтай вялікай залай быў яшчэ меншы пакой... не ведаю, хто там прыпыніўся, але памятаю тое пачуццё канкурэнцыі, што не мы ў такім люксе.*

*Лесвіца вяла на верх, там расклад быў падобны, падворак вялікі, з левага боку піўніца з бетонным выпуклым дахам, там дзеці ахвотна сядзелі, каб глядзець на вуліцу... На сярэдзіне падворка велізарная ліпа, пад ёй пан Лапінскі зрабіў лавачку, утануў пазней летам у “конскай яме”, і я прыбегла з той трагічнай весткай дадому. Бегла ў час буры і фіялетава адкрываўшагася неба. Лапінскія былі з Роўна.*

*Уваход з падворка быў больш-менш пасярэдзіне, направа досыць вялікая кухня, але тая кухня паўстала пасля таго як нас размеркавалі і ўтварылі інтэрнат для вучняў прафесійнай школы, так зв. металёўкі.*

*Налева тры пакоі ў амфіладзе - тры сям’і - разам 11 чалавек, лесвіца на гарышча, досыць абшырнае - было тэатральнай сцэнай для дзетвары. На гарышчы былі два жылыя памяшканні у вуглавых прыбудовах дома. Без ніякіх выгод, вада ў студні на падворку, але мы хадзілі па ваду далей да дома пані Цяпляк, мамы маёй каляжанкі Ірэнкі.*

*Мы жылі там да майго 14-га года жыцця,*

*ты, Евуню, у той час, ах, перапрашаю, яшчэ цябе не было на свеце, але твая сям'я выгадна пасялілася ў Пасеце.*

*Бацькам цяжка было прыняць рашэнне. Мама схвараваная, дзіця хілае, і мамуся ні ў якім выпадку не хацела ісці на вёску, на гаспадарку, куды накіроўвалі нясвіжцаў.*

*Яшчэ адна важная падзея - 27 чэрвеня 1947 года бацькі і хрышчоныя - маці хрышчоная Гелена Сабчак, надзвычай добрая і любімая, і бацька хрышчоны Рачкевіч - завялі мяне ў фару пад назвай Паднясення Св. Крыжа і ахрысцілі, як Пан Бог загадваў, бо была ахрышчана толькі вадой. Пры св. хрышчэнні атрымала імя Багуміла. Вельмі мне гэтае імя падабалася. І толькі ты адна прысылаеш мне віншаванні ў дзень св. Багуміла, патрона Кола. Я была прыбрана ў белае трусінае футарка, мела муфтачку - гэта быў прэзент ад хрышчонай".*

З ліста да Станіславы Вятр-Партыкі:

*"Мамуся зрабіла са шматкоў лялечку, мела вочы з блакітных гузікаў:*

*- О, якая яна падобная да цябе, - сказала я Галінцы Вайтовіч (бацька замардаваны ў Асташкаве), таксама сібірачцы. Жыла яна ў тым самым доме ўнізе, у адной кватэры з мамай, цёткай, дзедам Пятром, бабцяй Геленай і дзядзькам Булькам. Галінка расплакалася, траціла цярпенне з маёй пальшчызнай, была на два гады за мяне старэйшая і навучыла мяне чытаць і пісаць.*

*- Вучыся, - казала, - бо як пойдзеш у школу, мусіш умець чытаць і пісаць, каб ніхто не смяяўся з цябе, што кепска гаворыш па-польску..., так мяне вышкаліла, што калі я пайшла ў школу, за адзін год скончыла другі і трэці клас.*

*Мы выйшлі на падворак, зацenены вялікай квітнеючай ліпай..., грамадка дзяцей стаяла пад ліпай...*

*- О-о-о! Ідуць "хазяйкі" з-за Буга, - сказала Яська - пегаватая з акруглым тварам і светлымі валасамі дзяўчынка, трымаўшая ў руках талерку з узбітым бялком.*

*- Я пакажу табе "хазяйкі", - схапіла тую талерку і вываліла пену на галаву Яські, а тая разраўлася:*

*- Бабця-я-я, гэтая руская мяне б'е...*

*- Я табе дам "руская", - ляцела ўсё, талерка, пена, і Яська ляжала ў пяску на падворку... Прывязаная на ланцугу каза бабці Крыштофік пачала бляяць. Жыхары той камяніцы выбеглі з дома. толькі мая мама нават не адчыніла акна на першым паверсе. Я пастаянна білася з дзецьмі, якія выдумлялі на мяне пра рускіх і хазяеў.*

*Цераз акно на першым паверсе выскачыла Зоська Баровіч, бацька замардаваны ў Медным. Зоська мела цытру і не раз дазваляла мне на ёй граць (...)".*

Хоць час ужо сплыў, бо было лета 1947 года, Сібір далей выцягвала па нас свае кіпці. Мама выехала ў Сольц-Здрой у санаторый - цяперашні Шчаўна-Здрой, а мяне адвезла спачатку ў Атвоцк у супрацьтуберкулёзны правенторыюм для яўрэйскіх дзяцей, залатвіла нам гэта ўсё пані Мазалеўская. Атрымалі вопратку, коц - маю яго да сёння! Татка не даў бы рады ні карміць мяне, ні лячыць.

Таму, яшчэ добра не навучыўшыся па-польску, я пачала вучыць ідыш і да сёння спяваю некаторыя яўрэйскія песенькі, чым увяла раз у здзіўленне аднаго з ад'юнктаў, калі працавала ў Паморскай медычнай акадэміі - ён зразумеў словы песенькі.

Галінка Вайтовіч, мой недасяжны ідэал, узор усіх цнот, пакуль я пайшла ў школу, навучыла мяне чытаць і пісаць. Закончыла варшаўскую Політэхніку, на працягу ўсёй вучобы мы былі вельмі блізкія паміж сабой. Галінка памерла многа гадоў назад. Снілася мне доўгі час, пакуль я не даведалася, што яе ўжо няма на гэтым свеце. На адкрыцці мемарыяльнай дошкі ў Коле я пазнаёмілася з яе дзецьмі - сынам і дачкой.

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Васіль Драгавец***

# Запозненае прызнанне

## *Біяграфічны сповед*

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

### Блуканні па дрэве

Пераводзілі дух сяляне, як самі казалі, ці супакойвалі душу мо толькі ў размовах ды стрэчах паміж сабой. Гэта цікавая адметнасць часу. Зараз інакш, людзі несупынна бягуць і спяшаюцца; пры сустрэчах нават з блізкімі ці добра знаёмымі размова пачынаецца і канчаецца двума сказамі: "Ну, як справы? - Ды так, нічога, памаленьку... Трымаемся". І ўсё! Далей не ведаюць, пра што казаць.

Раней не так. Нягледзячы на чараду клопатаў, любілі людзі пагаварыць. Удзень то не вельмі, бо кожная хвіля дарагая, а надвячоркам дык і мужчыны пастаяць па-суседску, і жанчыны адна да другой падыдуць, прысядуць на лавачку каля плоту, каб словам перакінуцца. Лепшым часам для гаворак былі нядзельныя дні, а калі набягалі восень з зімою, рана змяркалася, то працяглыя доўгія вечарыны. Купкаваліся жанчыны і мужчыны хто як: і па радні, і па суседству, а то і без аніякага правіла - ідуць да таго, да каго сэрца падказвае...

Па няпісаным распарадку гамонка зачыналася з апошніх гаспадарскіх навін: карова ў хляве брыкаецца - вядро перакуліла з вадою; салома канчаецца -трэба ў "прадсядацеля прасіць, каб выпісаў"; певень акрываваўся - біўся з Любіным, суседскім... Але павольна навіны сыходзяць, гутарка прыціхае і непрыкметна паварочваецца ў другі бок, пра мінулае жыццё-быццё...

- А помніш, Зіна, як некалі бацькі душыліся на льне...

- Ой-ёй-ёй! Як наша маці страдала! Нейкія яшчэ з ільну дрэбы рабілі... Цяжка жылі... Не дай, Госпадзі!

- Цяпер во туфлі два разы адзела, запэцкала, не панаравіліся - вон іх на сметнік... Давай ужэ купляць новыя... От раней бацька выцягнуў бы пугаю за гэта...

- Гаспадар першы за стол садзіўся... Папробуй адно вазьміся першым за лыжку! Так па руццэ палучыш ад маткі...

Пра сваю генеалогію, пра карані роду свайго ведалі няшмат. З радні ўпаміналі тых, каго памяталі. Да сваёй гісторыі сяляне адносіліся гэтак жа, як і да самога жыцця: пражыў чалавек свае гады на свеце і памёр. Так і мінулае: было ды зляцела. Ніякіх запісаў, фотаздымкаў ці малюнкаў не было ў сялян. Калі што і вялося з даўніны, то толькі ў вусным пераказе. Ад дзядоў ды бабуль. Таму мае першыя блуканні па генеалагічным дрэве пачаліся з простага. Я пытаўся малым у бацькі: адкуль у нас такая фамілія? Слова "прозвішча" не ўжывалася, усе гаварылі "фамілія".




- Старыя людзі раней казалі, што фамілья наша пайшла са шведаў, ці што... Бо яна тут рэдкая, ні ў кога такой няма. Калі пачуеш дзе такую, то эта чалавек з нашага роду. Юзік Сцяпанчыкаў пад чаркай нек казаў мне: "Другавец! Ты са швэдаў... Ведаем, гаварылі раней, хто ты. Са шведаў ты!".

Трымценне "шведскага кораня" абуджала ў

маёй галаве роздум аб мінулым продкаў. Цікава ўсё-такі ведаць, адкуль карані цягнуцца, якая гісторыя роднай сям'і. Неабходнасць, а дакладней патрэба такога ведання ўзнікае з гадамі, калі невядома з якіх клетачак розуму спакваля, ды ўсё званчэй і званчэй гучаць позвы азірнуцца, агледзецца, пачуць галасы свайго роду. Становіцца абсалютна зразумелым, што без ведання гэтых каранёў немагчыма спазнаць сябе: хто ты, адкуль ты і на што здатны? Ці як у полі вецер, бязродны і непрытульны, ці самавіты, моцна перавязаны са сваёю зямлёю чалавек...

У некаторых дакументах, нават у метрыцы аб маім нараджэнні, выпісанай бацькам у Быхаўшчынскім сельсавеце, яго прозвішча ўжыта трохі інакш - ***Другавец***. Была і руская транскрыпцыя - ***Дроговец***. Мы з братам, Анатолем Мікалаевічам, і нашыя дзеці пастаянна прытрымліваемся і пішамся ўсюды ***Драгавец*** (***Драговец*** па-руску), ***Драгаўца, Драгаўцу.***

Што азначае гэты гучны і непаўторны перабор галосных і зычных гукаў - ***Другавец, Драгавец***... Які сакрэт схаваны пад гэтым шыфрам-сугуччам? *Дрыгва, дрыга, дрыгавіч, другавіч...*

Пра шведаў ішлі гаворкі ў нашым краі: што ў курганах пахаваны шведскія салдаты, што былі яны тут. Мо такое здарылася пасля Палтаўскай бітвы, дзе Пётр Першы разграміў Карла Дванаццатага і яго армію. Мо, адступаючы, а шляхі шведскай арміі пралягалі праз нясвіжскія і клецкія землі на Палтаву і назад, пасля Палтавы, застаўся тут які паранены салдат ды прыжыўся на вякі. Думалася, калі Палтаўская бітва адбылася ў 1713 годзе, то амаль трыста гадоў цягнуцца з мінулага ў дзень сённяшні моцныя генеалагічныя галіны, захавалася непаўторнае прозвішча. Яно сапраўды рэдкае, анідзе мне болей не страчалася.

Слухаючы бацькаў сповед пра нашыя, невядома адкуль узятыя шведскія карані, маці пацяшалася:

- Ой, хто тут што знаў! Швэды, швэды, смех адзін... Рэйдзяць усялякае... Рабіць няма чаго...

Бацька не пагаджаўся з ёю і гаварыў у адказ:

- Не, Зіна, людзі абы што выдумляць не стануць. Было, відаць, нешта...

- От, што пра гэто гаварыць! Гадуйце, хлопчыкі, дзяцей і не тлуміце сабе галаву...

- Не, Зіна, не кажы... Парода - дзела сур'ёзнаё...

Пародзе чалавечай бацька, а так, мабыць, думалі і тыя з нашага роду, што жылі за многа гадоў да нас, прыдаваў вялікую значнасць. "Парода ў іх такая - гарачыя, як кіпяток, і ўпартыя, што бараны..." - казаў ён бывала на каго-небудзь з вёскі. Ці яшчэ: "Глянь, адна парода: і стары некалі злодзей быў, і малады зараз...", "Не, парода сваё возьме, яе не пераб'еш..."

Нашым родам бацька ганарыўся, бо на сяле ведалі, што Другаўцовы ніколі не падмануць, не пакрыўдзяць, не палезуць першымі ў бойку, не будуць валяцца п'янымі на вуліцы, не маюць аніякіх хітрыкаў у адносінах з людзьмі і аніякай сквапнасці. Гэта род памяркоўны, адкрыты і прыветны да людзей.

Маці часта прыпамінала, як пасля вайны, калі бацька вярнуўся з фронту, яны, маладыя, пастрачаліся на вясковым гулянні, і ён правёў яе дадому. Упоначы зайшоў у хату, загаварыў, то матка, баба Волька, адразу пазнала яго па голасе. Потым выказалася:

- Эта ж, відаць, Васіля Андрэяваго сын. Я па разгавору пазнала - гаворыць падобно на Васіля... З ім ты дружы, калі будзе да цябе хадзіць... Яны харошыя людзі...

Адкуль, з якіх гістарычных вытокаў зваліся і выйшлі гэтыя "харошыя людзі"? Ці засталося што на зямлі ад іх, хоць якія карані і карэньчыкі? Пашукаем!

... Якая значная для грамадства ўстанова - дзяржаўны архіў! Нягледзячы на бясконцыя ліхаманкі, што траслі беларускую зямлю, усё-ткі ўдалося зберагчы шмат чаго з сведчанняў мінулага часу. Трэба да долу пакланіцца людзям, якія захавалі гэтыя скарбы ад пажараў, бомбаў, варожага захопу, утаптання ў гразь. Бо дзякуючы ім, невядомым і самаадданым, сталі здабыткам нашай сям'і ніколі раней нячутыя звесткі пра свае вытокі...

Аказалася, што прозвішча ***Другавец*** мае свой гістарычны афіцыйны пачатак. Упершыню ўпамінаецца ў архіўных матэрыялах 16 красавіка 1697 года пры састаўленні інвентарнай ведамасці памесцяў Рыбаўскай воласці Клецкай ардынацыі. Праводзілася інвентарызацыя ў сувязі з перадачай гэтай Рыбаўскай воласці ў арэнду наваградскаму падсудку Яну Вольскаму. Падсудкам называўся памочнік суддзі.

У ведамасці значыцца, што вёска Хадатавічы мае 24 валокі зямлі. Гэта ў пераводзе на сучасныя паняцці трохі больш чым 590 гектараў. Пералічваліся таксама прозвішчы жыхароў. Пад нумарам два запісаны ***Ян Другавец***, мае чвэрць прыёмнай валокі; пад нумарам восем таксама ***Ян Другавец***, але з прыпіскай *"маскаль"*, мае аднаго сына, аднаго вала, аднаго каня, чвэрць прыёмнай валокі; і, нарэшце, пад нумарам дзесяць ***Яська Другавец***, відаць, іх бацька, бо ён значна багацейшы: меў двух валоў, аднаго каня, яшчэ дваровага вала, палову цяглай *(адраблялася паншчынай)* валокі і чвэрць прыём-




***Вялікая княгіня літоўская Бона Сфорца. 1518-1548 гг.***

най *(сплачвалася грашыма)* валокі.

Вёска на гэты момант належала Радзівілам. Часы ўладання каралевы Боны мінуліся разам з перадзелам Вялікага Княства Літоўскага. Мінуўся і той самы "залаты век" у гісторыі Літоўскай дзяржавы, што спарадзіла сваімі разумнымі рэформамі і асветніцкай дзейнасцю гэтая нястомная і таленавітая каралеўна. Мо дзякуючы яе здабыткам, перажылі продкі больш чым дзесяцігадовую інтэрвенцыю нашага краю (1654-1667 гг.) маскоўскім царом Аляксеем Міхайлавічам (Цішайшым). У час гэтай навалы Клецкая ардынацыя князя Міхала Караля Радзівіла падверглася спусташальнаму нападу маскоўскага войска пад камандаваннем ваяводы Трубяцкога. Клецк пасля мужнай абароны быў захоплены значна пераўзыходзячымі сіламі маскавітаў, спалены дашчэнту, жыхары перабіты, каштоўная маёмасць вывезена. Не магла гэткая бяда абыйсці хадатаўскіх людзей, а з імі Другаўцоў і іх гаспадаркі. Але выжылі! На той час вёска "перапісалася" ад аднаго радзівілаўскага маёнтка Малева, да якога была прылучана з 1605 года (*зараз Малева - сяло на паўдарозе да Нясвіжа*), да другога маёнтка Рыбаўшчына Клецкага павета.

Дзе быў той маёнтак - невядома. Зацерліся яго адмеціны ў гісторыі. Бацька ўпамінаў Грыбаўшчыну, недалёкую вёску на клецкіх землях. Відаць, у даўніне яна і была той самай Рыбаўшчынай. Бо ў архіўных выпісках, калі гаворка ідзе пра больш познія часы (напрыклад, рэестр выплаты дзякла, дані і чыншу сялянамі вёскі Хадатавічы за 1797 год) гаворыцца ўжо аб Грыбаўскай воласці Клецкай ардынацыі Радзівілаў. І ў далейшым у дакументах пастаянна згадваецца такая назва.

Вядома, што на гістарычным абсягу мяняліся назвы, сугуччы, вымаўленне тых ці іншых мясцін. Але вёсачка наша Хадатавічы, якой была ў даўніне, такой і захавалася ў сваёй назве. Паміж сабою яшчэ казалі Хаттавічы.

"Садкуль ты, дзядзька? -Так з Хаттавіч, вунь што каля лесу даматканаўскага..."

Я пакуль не знайшоў часу, каб разабрацца ў тапаніміцы гэтага здатнага слоўца. Зараз у плыні майго споведу, мо, першасным па важкасці выступае тое, што яшчэ да шведскага надыходу ў літоўскія землі падчас Паўночнай вайны мелася ў Літве вёска Хадатавічы і сярод яе жыхароў былі людзі пад прозвішчам Другавец. Азначае гэта, калі праводзіць прамую аналогію, што яны, Другаўцы, былі тутэйшымі людзьмі задоўга да шведаў, і калі і маюць да іх, да Палтавы, ці да параненых шведскіх салдат Карла Дванаццатага, якое дачыненне, то па іншай злучцы.

Значыцца, трэба шукаць іншыя звязкі. Варта звярнуць увагу на слова "маскаль", якім пазначаны ў архіўнай выпісцы Ян Другавец, восьмы нумар. Такое вызначэнне дае падставу меркаваць, што мог існаваць яшчэ адзін выток радавой гісторыі. То быў канец сямнаццатага стагоддзя. Перад тым землямі Клецкай ардынацыі кіраваў энергічны і гаспадарлівы Міхал Караль Радзівіл. Пры ім актыўна заахвочвалася перасяленне ў ардынацыю майстроў, рамеснікаў, цесляроў, працавітых людзей з іншых земляў, із маскоўскіх таксама. Такая ж практыка мелася і ў часы ўладання каралевы Боны Сфорцы. Яна праславілася разумнымі рэформамі землекарыстання, добра ставілася да запрашэння іншаземцаў у свае землі. Мог і такім чынам аказацца хтонебудзь з умелых ды спраўных "маскалёў" сярод жыхароў вёскі. Мо быў Іван, а стаў Ян. Нельга выключаць і тое, што сярод гэтых прышлых людзей былі якія-небудзь шведскія варагі, што даплылі, дайшлі, спатрэбіліся на той час у літоўскіх землях.

Але гэта зноў-такі не больш чым здагадкі. Бо як ні круці, як ні выстройвай сюжэт, а не абыходзіцца без супярэчанняў. Чаму маскалём у інвентарнай ведамасці запісаны толькі Ян Другавец пад нумарам восьмым, а Ян Другавец пад нумарам другім не мае такога вызначэння? Таксама, як і Яська Другавец - аніякі не маскаль. Такі ж, як іншыя



*Гэтыя сосны перад Нясвіжам памятаюць самога Радзівіла. 2016 г.*

сяляне. Мо слова "маскаль" мела не такі сэнс, як зараз. Вядома, што так называлі рускіх салдат у нашых мясцінах утыя часы. Мо які рускі вайсковец застаўся паранены пры спраўнай якой кабеце...

А вось яшчэ адна спадзяванка ў маіх генеалагічных доследах. Мой даўнішні сябра, дасціпны і цікаўны чалавек Аляксандр Яраш, ужо колькі гадоў як масквіч, даслаў па электроннай пошце спасылку на дазнаныя ім гістарычныя факты аб суіснаванні на Усходзе ў XI-XII стагоддзях некалькіх багамільскіх цэркваў, якія дзеляцца па сваім змесце на цэрквы драгавіцкага (грэкамоўнага) і балгарскага (славянамоўнага) уплыву. Славянскае племя дрыгавічы, ад якога, па думцы даследчыкаў, пайшла назва Драгавіцкай царквы, аказваецца, мясцілася ва ўсходняй Македоніі, на захад ад грэчаскіх Салонік. А прыйшлі туды дрыгавічы з усходу, з цяперашніх беларускіх зямель, часткай аддзяліўшыся ад свайго асноўнага гурту і скіраваўшыся далей на поўдзень. І самі дрыгавічы, і Драгавіцкая царква, па версіі даследчыка А.М. Трубачова, маюць адзіны тапанімічны корань, вядомы толькі ўсходнеславянскім мовам і ўтвораны ад беларускай назвы балота - "дрыгва". Слова гэтае не засведчана на той час у лексіцы ні заходніх, ні паўднёвых славян. Ад яго і назва племені, і пайшоўшыя далей вызначэнні. Дрыгва-дрыгавічы, драгавіцкая, драгавец... Выходзіць, ад дрыгавічоў цягнуцца шматлікія пражылкі ў тапаніміцы многіх слоў на паўднёва-славянскіх землях.

Не магу не пагадзіцца ў нечым з такімі высновамі. Бо не аднойчы падчас сваіх вандровак звяртаў увагу на такое падабенства. У Заходніх Карпатах, напрыклад, маюцца прозвішчы Драхавец, Драгавец; у Балгарыі (раён Плоўдзіва) існуе, праўда, толькі ў зруйнаваннях, старажытны горадцвердзь (град) Драговец, заснаваны яшчэ падчас Рымскага ўладання; у паўднёва-заходняй Чэхіі сустракаюцца тапанімічна блізкія назвы, напрыклад, у Карлавых Варах ёсць раён пад назвай Драховіца, вуліца Драговецкая і т.д.

Ды, як аказалася, і на нашых хадатаўскіх могілках згледзелі мы з братам пры больш шчыльным аглядзе радавой мясціны пад лістотай і ігліцай яшчэ адну магілу. Па нашых меркаваннях то, магчыма, маці прадзеда нашага Андрэя Андрэевіча-Марыя Фёдараўна Драгавецкая з Лабажэвічаў.

Такім чынам, калі прытрымлівацца версіі аб паходжанні нашага прозвішча ад слоў "дрыгва", "дрыгавічы", то гэта будзе толькі яшчэ адзін доказ яго гістарычнай прыналежнасці да нашай зямлі і да вытокаў нашай нацыянальнай этнічнасці. Дарэчы, сам я больш схіляюся якраз да такога тлумачэння.

Ды што гадаць?! Дарэмная справа. Праўду маюць толькі дакументы. Калі што знойдзецца ў архівах, то і стануць больш зразумелымі вытокі. Адно бясспрэчна: карані нашага роду па бацькавай (гэтак жа, як і па матчынай) руцэ маюць дакументальна пацверджаную генеалогію з часоў Вялі-



*Над возерам у Радзівілаўскім парку. 2013 г.*

кага Княства Літоўскага. Бо калі напрыканцы сямнаццатага стагоддзя сяляне вёскі Хадатавічы, Другаўцы, мелі сваю зямлю і гаспадарку ў літоўскай дзяржаве, то азначаць гэта можа толькі адно-што людзі яны былі тутэйшыя, невыпадковыя і прызнаныя законам.

Пачынаючы з 16 красавіка 1697 года, у фондах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі маюцца сведчанні далейшага лёсу Другаўцоў. Пройдземся па прыступках гэтай фамільнай лесвіцы, што ўецца і бяжыць праз гады ды стагоддзі.

Ад Яські і Яна Другаўцоў наступны ўпамінак здаўся ў архівах толькі ў 1797 годзе. Лічы сто гадоў мінулася! Сярод падуладных князю Радзівілу людзей аказаліся ***Амель*** і ***Сцяпан Другаўцы***. Княская канцылярыя засведчыла іх як спраўных і працавітых. Яны плацілі свайму ўладару падаткі. Сцяпан за адну валоку зямлі аддаваў з двара дзякло, гэта значыць ураджай зерня: дзве асьміны жыта і дзве асьміны аўса (асьміна - 28,7 кг). Таксама дань - чвэрць гусака, адну курыцу, пяць яек, адзін маток пражы; плаціў і чынш (грашовы падатак) - 8 злотых 12 грошаў.

Сцяпан памёр у 1803 годзе, маючы 68 гадоў. Ад яго застаўся сын Ігнат. Ігнат, відаць, таксама быў талковы гаспадар. Згодна архіўнай ведамасці сялянскай жывёлы па Грыбаўскай воласці ад 5 ліпеня 1812 года, ён меў аднаго рабочага каня і аднаго маладога, чатырох валоў: аднаго на двары, двух у расійскім абозе і аднаго ялавічнага - мабыць, старога, дзеля перавозак. Была яшчэ карова з цялём, бык, сямёра старых і восем маладых авечак, дзве свінні. Прыстойная гаспадарка, што трэба! Па сённяшніх мерках, дык Ігната спаўна можна залічыць у сярэдні клас: на двары амаль што "Хонда" ды "Мазда"... Але, відаць, нясоладка яму даводзілася. Валоў у абоз запатрабавалі... Падобна, што не абышла ваенная навала - прашугавалі праз яго гаспадарскі двор і французы, і рускія. Мо з гэтай турботы Ігнат памёр рана, у 42 гады, у 1814 годзе. Ад яго пайшлі дзеці: Раман, Томаш і дачка Фядора. Раман ажаніўся з Алесяй праз два гады пасля смерці бацькі, калі яму споўніўся дваццаць адзін. Томаш, які быў маладзейшы за брата на чатыры гады, узяў у жонкі Лявосю.

Архіўная інвентарная ведамасць фальварка Грыбаўшчына за 1835-1840 гады сведчыць, што яны мелі ў Хадатавічах цяглы пляц пад восьмым нумарам. Цяглы - значыцца абкладзены цяглом (павіннасцю, паншчынай, па-сучаснаму падаткамі. якія адрабляліся рознымі работамі) перад уласнікам альбо дзяржавай. Можна меркаваць, што пляц застаўся ад бацькі Ігната. На пляцы мелася наступная маёмасць: хата добрая, гумно і хлеў старыя. У сямействе трое мужчын і чацвёра жанчын. Работнікаў - толькі чацвёра. Яшчэ была скаціна: адзін конь рабочы, два валы ўласных, адна карова, адзін бык, пяць авечак, адна свіння. Зямлі мелася: аседлай - палова валокі, прыёмнай - таксама палова валокі. Выконвалі павіннасці тры дні ў нядзелю, яшчэ гвалты (відаць, абавязковыя павіннасці, "па прымусу", з рабочай жывёлай): ворыва - шэсць дзён, пешыя - трыццаць два дні; дзякла здавалі дзве асьміны жыта і дзве асьміны аўса, плацілі за медычны камітэт 22 з паловай капейкі, а таксама чынш - адзін рубель 26 капеек срэбрам.



***Нясвіжскі замак на малюнку Напалеона Орды. Прыкладна 1860-1870 г.***

Пералічваюцца пражываючыя на пляцы людзі. ***Раман Ігнатаў Другавец*** - 45 гадоў, жонка ***Алена*** - 42 гады (то, відаць, перайначылі беларускае Алеся ў рускі варыянт Алена), сын ***Янка*** - 17, дачка ***Антоля*** - 4, брат ***Томаш*** - 42, яго жонка ***Лявося*** - 40.

Землі ардынацыі (суверэннага ўласніцкага землеўладання) у гэты час знаходзіліся пад Расійскай імперыяй і былі закладзены Радзівіламі каштэляну (высокі чын, у былыя часы так звалі наглядальніка замка, пазней - кіраўніка справамі ваяводства, намесніка ваяводы) Абуховічу, ад імя якога імі ўладала яго спадчынніца (пераемніца) Соф’я Міхайлава, нараджоная Абуховіч, а ў замустве - графіня Чапская. На гэты час у сяле пражывалі сяляне па прозвішчах Пільневіч, Кіпець, Палуянчык, дзясятнік (накшталт брыгадзіра па-сучаснаму), Каўшэль, Сідар, Гадун, Лабажэвіч, Надзен, Тарабура, Ласоўскі і інш. Войтам (старастам) быў Сцяпан Мікалаевіч Агеевіч. Мелася ў Хадатавічах карчма (заезны дом, дзе можна закусіць, выпіць, застацца на начлег), што сведчыць аб вандруючых праз вёску людзях. Карчма, як пішацца ў архіўнай даведцы, была драўляная, старая, патрабавала перабробкі. Страха саламяная, крытая драніцай. З памяшканняў у карчме мелася станцыя з каморай, у якой печ "крестовая" гліняная, вокнаў чатыры з дробным шклом, падлогі няма. Паблізу маюцца гумно і хлеў, таксама драўляныя, старыя. Арандатар - ***Лейба Аўсеевіч***.

Па пераліку маёмасці відаць, што Раман і Томаш жылі бядней за бацьку: дзве сям'і ў адной хаце, дый жывёлы мелі не ў дастатку. Галоўнае ж - зямля. Яе таксама няшмат, а братам, то першая справа селяніна, раздзяліцца трэба паміж сабою, свае гаспадаркі займець. На гэтым усё пераплятаецца і круціцца ў сялянскім побыце. Тут важнейшая задума гаспадара, напруга яго рук і сэрца.

Справіліся з тым Раман і Томаш. У інвентарнай ведамасці фальварка (панская гаспадарка з неабходнымі пабудовамі; трымалася на паншчыне, дармовай сялянскай працы падчас прыгоннага права) Грыбаўшчына за 1841 год значыцца, што Раман Ігнатаў Другавец мае пляц нумар шэсць, новую хату, аднаго каня, двух валоў уласных, шэсць авечак. Зямлі - паўвалокі аседлай, паўвалокі прыёмнай. Сын Янка займеў жонку Зосю, а дачка Антоля значыцца ў ведамасці як калека. Гэта нядобрая для сям'і сітуацыя. Бачна, што не ўсё складвалася ў жыцці Рамана. І памёр ён рана - у 55 гадоў, у 1845

годзе. Мо, таму прычынай стала непамерная стараннасць ды праца на прыдбанне сваёйгаспадаркі.

"Спрындзішся на гэтуй зямлі, пакуль на ногі ўстанеш", - казалі некалі старыя на вёсцы.

Брат, Томаш Ігнатаў Другавец, застаўся на восьмым пляцы. Хата старая, гумно добрае, хлеў стары. Зямлі столькі ж, як і ў брата, адна валока. Адзін конь, тры авечкі. Небагата, але і не бедна. Адно кепска: як з адным канём цэлую валоку абрабіць? Ды што зробіш - трэба жыць. Тым больш, што сын расце ў Томаша - Базыль, чатыры гады.

Далей бягуць гады. Па рэвізскай казцы за 1858 год (так называліся на той час перапісы) сялян вёскі Хадатавічы Слуцкага павета (назва адміністрацыйна-тэрытарыяльнай акругі, накшталт раёна па-сучаснаму), прыналежных да памесця Грыбаўшчына Клецкай ардынацыі памешчыка, генерал-ад'ютанта Яго Імператарскай Вялікасці, князя Льва Людвігавіча Радзівіла, пад сёмым нумарам значыцца ***Янка Раманаў Другавец,*** 41 год; яго жонка ***Зося Іванава*** - 42, сыны: ***Андрэй*** - 14. ***Антось*** - 12; дачка ***Аўдоцця*** - 4 гады. У гэтым спісе і Т***омаш ІгнатаўДругавец*** - 58 год, жонка ***Лявося Дземянова*** - 58, сын ***Базыль*** - 20.

Маецца ў архіве Устаўная грамата (дакумент аб узаемаадносінах памешчыка і сялян на яго ўласніцкіх землях) памесця Грыбаўшчына Слуцкага павета князя Л.Л. Радзівіла ад 1862 года. Да граматы прыкладзены пайменны спіс сялян, у тым ліку і вёскі Хадатавічы. Цікавы ён тым, што пералічваецца зямельная ўласнасць сялянскіх гаспадарак. Сярод іншых - ***Янка Другавец***, нумар тры: зямлі дваровай першага разраду 600 сажаняў (адзін сажань прыблізна 4,55м. кв., значыцца, каля 27 сотак), ворыўнай - 8 дзесяцін 1800 сажаняў (каля 9 гектараў), сенакоснай - адна дзесяціна. Усяго Юдзесяцін. Дзесяціна складае 1,09 гектара. Такім чынам, у Янкі было трохі больш, чым дзесяць гектараў. Гэта не бедны, але і не багаты гаспадар. Серадняк, назвалі б яго бальшавікі і выслалі б, куды Макар цялят не ганяў...

Пералічваюцца ў грамаце павіннасці Янкавай сям'і. Іх было шмат. Нават цяжка разабрацца, не ведаючы добра іх прызначэння. Прыгоны (праца на ўладара зямлі, памешчыка ці пана) мужчынскія - аж 162 дні ў год, згоны жаночыя і мужчынскія - па 10 у год, летнія здзельныя з вупражжу мужчынскія - 88, пешыя - 5, жаночыя - 6, здзельныя зімнія мужчынскія з вупражжу - 57, пешыя - 4, жаночыя - 3 дні. Плацілі грашовую павіннасць 48 з паловай капеек, а таксама пастаянны аброк - 24 рублі і 9 з паловай капеек у год.

Выплаты павінны быць зроблены да дня Святога Марціна (вялікае свята па календары лацінскай царквы, урачыста адзначаецца і зараз 11 лістапада ў краінах Еўропы, накшталт сучасных нашых Дажынак). Каб справіцца з такімі павіннасцямі і падаткамі ды яшчэ сябе пратрымаць, не разагнешся ні на хвіліну. Дзівіцца трэба, як яны спраўляліся?! Мо толькі за кошт таго, што людзей было ў хаце шмат. Таму на дзяцей не скупіліся, нараджалі паболей, каб лішнія рукі займець.

Маецца ў спісе сялян ***Томаш Ігнатаў Другавец*** пад пятым нумарам. Зямлі ў яго столькі ж, як і ў Янкі, павіннасці таксама аднолькавыя.

Знайшоўся ў архіўных папках яшчэ адзін прыкметны дакумент: пратакол паверачнай камісіі Слуцкага павета ад 31 жніўня 1864 года аб зверцы размеру грашовых павіннасцяў сялян вёсак Якшыцы і Хадатавічы. Відаць, не вытрывалі бедалагі, рашылі скардзіцца на непасільныя аблогі свайго ўладара, князя Льва Людвігавіча Радзівіла. Была камісія з павета, якая пасля строгіх выверак падтрымала сялян і пераацаніла ў іх карысць штогадовы выкупны плацёж за дзесяціну зямлі.

*"Сяляне засталіся ацэнкаю камісіі і дзеяннямі яе задаволеныя... Паверaны ад памешчыка аб'явіў незадаволенасць нізкай ацэнкай..."*

Пратакол падпісалі паверaны ад памешчыка Карл Бржастоўскі, а за сялян Якшыцкага і Хадатаўскага сельскіх таварыстваў іх упаўнаважаныя - Іосіф Андрэеў Ленкавец і ***Іван Раманаў Другавец***. За іх распісаўся па іх асабістай просьбе клецкі валасны пісар В. Бржазоўскі, бо яны самі былі непісьменнымі. Так значыцца ў архіўнай выпісцы.

Гэтая гісторыя мела свой працяг. Праз два гады пасля паверкі сяляне рашыліся выкупіць у памешчыка зямлю: дваровую, ворыўную і сенакосную (пасля адмены прыгонніцтва ў 1861 г. сялянам было дазволена выкупляць зямлю ў памешчыкаў). Рабілася гэта так: каля 25 працэнтаў кошту патрэбна было сялянам сплаціць памешчыку адразу; астатнюю суму яму сплочвала дзяржава, якой пасля на працягу 49 гадоў сяляне павінны былі плаціць з разліку ад 4 да 5 працэнтаў гадавых. Гэтая працэдура вельмі нагадвае шырока вядомую сёння форму лізінгу ў крэдытаванні. Сярод сялян-гаспадароў, што дамагліся выкупу, былі ***Іван (Янка) Раманаў Другавец*** і ***Фама (Томаш) Ігнатаў Друговец***, яго дзядзька.

Тут варта звярнуць увагу на некаторыя акалічнасці. Янка Другавец (Іван - гэта ўжо расійскі варыянт) быў абраны сялянамі-гаспадарамі з Хадатавічаў сваім упаўнаважаным на перамовы з паверачнай камісіяй і падпісанне пратаколу. Такое магло быць даверана толькі разумнаму і надзейнаму чалавеку. Хто чаго значыць на зямлі, вясковыя людзі добра ведаюць. З пакаленняў аб кожным ідзе свая слава. Калі даверылі, то паважалі ўсім сялом. Ды тое яшчэ не ўсё. На сяле свая градацыя. Ёсць

гультаі, пяніцы, небаракі, бяднейшыя сяляне - батракі. Іх нават не ўносілі ў спісы. А ёсць гаспадары. Як бы вышэйшы знак якасці. Бо, калі гаспадар, то, значыцца, змог дамагчыся зямлі, маёмасці, займець жывёліну, да толку весці справу. На такіх зямля стаяла, і дзяржава трымалася. І Янка, і Томаш былі ў спісе сялян-гаспадароў.

Цікава, што сяляне дамагліся сваёй мэты. Спачатку іх падтрымала паверачная камісія і знізіла кошт зямлі, а таксама памеры падаткаў на яе, а потым, у 1866 годзе, яны рашыліся на выкуп і сталі самастойнымі гаспадарамі. Атрымліваецца, што не так ужо і кепска адносілася да сялян тагачасная расійская ўлада.

Прычына тут, мабыць, іншая. Жыццё сялян не было памазана мёдам (а ці было яно ўвогуле калі памазана тым мёдам?!). Адзін спіс павіннасцяў, якімі абложаны сем'і Янкі і Томаша, сведчыць, што свету Божага яны не бачылі за гэтымі адробкамі ды падаткамі. Але была рэформа ў сувязі з адменай прыгонніцкага права ў Расіі, уводзілася практыка выкупу зямлі ў памешчыкаў. Гэта адно, а другое, што ў 1863-1864 гадах успыхнула вядомае паўстанне на беларускіх землях на чале з 26-гадовым Кастусём Каліноўскім. Паўстанне разграмілі, Каліноўскага павесілі на віленскай плошчы. Ды ўсё ж, відаць, былі зроблены нейкія высновы з гэтых падзей. Рашылі мякчэй абыходзіцца з людзьмі, дазволілі змяншэнне падаткаў, актыўней заахвочвалі сялян на выкупы зямлі.

Вернемся да нашай генеалагічнай ніткі. Пасля 1866 года Янка Раманаў Другавец не сустракаецца на старонках архіўных дакументаў. Мірскі (судовы) прыгавор сялян-уласнікаў вёскі Хадатавічы аб выбранні ўпаўнаважаных для атрымання ў Менскім губернатарстве граматы на надзельную зямлю 10 студзеня 1904 года падпісаў ***Андрэй Другавец***. Па ўсім відаць, што гэта сын Янкі. Сталы, 60-гадовы чалавек, гаспадар. На жаль, пра яго больш нічога невядома. Падрабязных спісаў, накшталт рэвізскай казкі, у тыя часы не вялося. Аднак падзеі гэтыя не такія ўжо даўнія, і ёсць даволі дакладныя падставы, каб прасачыць далейшую лінію.

На вясковых хадатаўскіх могілках добра захавалася магіла майго прадзеда Андрэя Андрэевіча Драгаўца. На гранітнай магільнай пліце значыцца: жыў 60 гадоў, памёр 16 траўня 1929 года. Выходзіць, нарадзіўся ў 1869-м. Маюцца падставы меркаваць, што ён і быў сынам таго самага Андрэя, які падпісаў мірскі прыгавор сялян. Ад яго, Андрэя Андрэевіча, пайшлі сыны Васіль (мой дзед) і Сяргей, дочкі: Анця, Ганна, Стэпка і Волька.

Так развівалася гісторыя сям'і да нашага часу па бацькавай руцэ. Не магу сцвярджаць, што маё даследванне мае абсалютную дакладнасць. Вядома ж, не. Бо Другаўцовых у Хадатавічах было даволі. Знаходжу звесткі ў архіўных даведках, і гэта не даўніна, а перадваенны час, 30-40-я гады, пра ***Соф'ю Васільеўну Другавец, Мікалая Якаўлевіча***






***Надзейка, малодшая дачка, ля магілы нашага прадзеда Андрэя Андрэевіча Драгаўца. 2006 г.***



***Спрадвеку мы тут, на роднай зямельцы***

і ***Міхаіла Якаўлевіча Другаўца***, пра ***Антаніну Андрэеўну Друговец, Адама Антонавіча*** і ***Марыю Адамаўну Другавец***. Некаторых памятаю, ведаю, што даводзіліся раднёю, а сказаць якой - не магу. Ніхто не вёў сямейных альбомаў ці запісаў, а што гаварылася пра радню, пра тое, хто каму як даводзіцца, то быллём парасло...

Па матчынай лініі таксама знайшліся цікавыя гістарычныя звесткі. Маці наша, ***Зінаіда Антонаўна***, мела ў дзявоцтве прозвішча ***Шарапа***. Яна нарадзілася ў суседняй вёсцы Малаеды 9 студзеня 1928 года. Бацька яе, ***Антон Паўлавін Шарапа***, і маці, ***Вольга Трафімаўна Пасацкая***, былі простымі сялянамі, жылі на сваім хутары ў прыгожым месцы, мелі невялічкі кавалак зямлі, з якога карміліся аж да 1953 года, пакуль не пагналі іх пад прымусам у калгас.

Першыя афіцыйныя ўпаміны пра папярэднікаў роду **Пасацкіх** зыходзяць да 1811 года. Па перапісе сялян вёскі Аношкі Наваградскага павета Менскай губерні, прыналежнай да памесця Наруцавічы памешчыка Міхаіла Осіпава сына Абуховіча, маюцца ***Лявон Сямёнаў Пасатцкі***, яго сын ***Марцін***. Пасля ў розныя перыяды ўпамінаюцца ***Мацвей Лявонаў Пасацкі, Франц, Лукаш, Мікалай, Марцін, Фадзей, Базыль, Стась, Фама, Ігнат.*** Жаночыя імёны ў родзе Пасацкіх таксама цікавыя і каларытныя: ***Марцэся, Тарэса, Юстына, Разаля, Караліна, Дарота, Віктося, Антоля***. Паказальна, што з пераходам пад расійскую юрысдыкцыю яны паступова мяняюцца. З ліцоўскіх становяцца больш рускімі: ***Іван, Сцяпан, Максім, Васіль, Варвара, Волька, Аляксандра, Ганула.***

У часы расійскага ўладання вёска Малаеды і суседнія з ёю Грыцы, Аношкі, Каменка, Казлы, Сангалы, Кміты належалі да маёнтка Наруцавічы Наваградскага павета графа Ігнація Карлавіча Чапскага. Граф Чапскі ажаніўся з Соф'яй Абуховіч і атрымаў у пасаг мясцовыя землі. Адметна, што сяляне гэтых вёсак былі бяднейшымі за радзівілаўскіх. Мелі меней зямлі, дый раскідана яна па акрузе рознымі кавалкамі, перавіга вузкімі палоскамі. Акрамя звыклых павіннасцяў, адпраўлялі сыноў у рэкруты (у салдаты, на вайсковую службу). З тысячы душ пяцёра рэкрутаў - такі быў загад Яго Імператарскай Вялікасці. Франц Пасацкі з Аношак аддаў у рэкруты сына Мікалая, 24 гады, росту два аршыны (аршын - 71,1 см), чатыры з дзвюмя восьмымі вяршка (вяршок - прыкладна 4,4см). Хлопец быў па сённяшніх мерках малаваты ростам, каля 160-ці з хвосцікам сантыметраў...

Падводзячы вынікі гэтага экскурсу ў гісторыю сямейнай генеалогіі, можна засведчыць, што на зямлі беларускай пачынальнікі нашага роду па бацькоўскай і па мацярынскай лініях з'яўляюцца карэннымі жыхарамі. Яны спазналі ўсе гістарычныя пертрусы, выпаўшыя на долю роднага краю з часоў Вялікага Княства Літоўскага, перажылі напады і разбурэнні, выжылі, выстаялі, былі гаспадарамі, захавалі сваю непаўторную мову, заўжды людзьмі зваліся.

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Віктар Дземеш***

# КАБ І СЛОЎЦАМ НЕ ЗГРАШЫЦЬ
## альбо маё бачанне Сымона Буднага

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Частка ІІІ**

**Каб быць падалей ад грахоў**

Асобе часу каламутнага
У ім не знесці галавы,
Як да героя, я да Буднага
Адношуся. А вы? А вы?

Калі шалела інквізіцыя,
Іезуітаў кааліцыя,
І Тарквемада* - атаман
Па ўсёй Еўропе лютаваў,
Якая б вашая пазіцыя
Была б тады, як дратаваў
Чорт думкі, Бога даганяючы,
Святому шкодзячы ва ўсім,
То падаючы, то ўзрастаючы,
Драпежыў свет і шчасце ў ім?

Мая? Дык я б напэўна з рожнамі
Пайшоў бы на яго з калом;
Бывае, што сцягой астрожнаю
Ваюю часта я са злом.
То заганяю ў кут, то збочваю
З яго ашчэраных шляхоў,
А потым зноўку паварочваю,
Іду на "Вы" і раскурочваю,
Пастамі подлага аточываю,
Каб быць падалей ад грахоў.

**Гэтакім і трэба быць**

Сын натуры смелае,
Спрыту прастаты,
Родзіч Праўды белае -
Супраць цемнаты.

Рызыка страчалася
У любым баку,
Толькі ўсё канчалася
Добра  на вяку.

Гляньце! Не туманныя
І ў якой красе
Погляды гуманныя
У Сымона ўсе!

Раз хацеў прасветленым
Бачыць свой народ,
Значыць быў імпэтным ён,
Не пустых парод.

Думкі ў мроях спелячы,
Жыў, каб люд любіць...
Значыць, быў ён велічным,
Гэтакім і трэба быць.

**Забудзеш і пра званні, і пра грошы**

Я не суджу людзей, як той Флабэр,
што ўзяў ды з'ехаў раптам у памесце,
Каб іх не бачыць - хоць ты сэр, хоць пэр,
Хоць гер, хоць цар ці мястачковы "мэр",
Хоць раб з галер,
Хоць мудрацоў нашэсце.

А Будны прывячаў быў свет і быў вышэй
І за кагось, і нават за Флабэра,
Характар меў мацней, жыццё цяжэй,
Таму і вёў сябе нашмат цішэй,
Ды і гула ж Сярэднявечча эра.

Тады не кожны ў ложку мог заснуць
І не прачнуцца ўжо сівым да веку,
Не гэткі выраз твару, позірк чуць
Мог лёс не ў той кірунак павярнуць
І прынясці пагібель чалавеку.

Канешне, і нявінныя ляглі,
Але Сымоне выстаяў дайшоўшы
Аж да Нясвіжа, як святой зямлі,
Дзе знойдзеш сваю долю ты, калі
Забудзеш і пра званні, і пра грошы.

**Супраць цемнаты**

Я пра векапомныя,
Пра Сымона дні,
Што свяцілі промнямі,
Раскажу радні

І сваёй і вашае,
Дзе ні дом - то твор,
Дзе капустай квашанай
Пахне кожны двор;

* Томас дэ Тарквемада, іспанец, Вялікі інквізітар, самы жорсткі кат усіх часоў і народаў у барацьбе з ерассю.

Знайце: не туманныя,
А - аж ззяе рунь -
Погляды гуманныя
У Сымона - вунь!

Рызыка страчалася
У любым баку,
Але не ўсё канчалася
Славай на вяку.

Сын натуры смелае,
Боскай прастаты,
Бацька праўды цэлае -
Супраць цемнаты!

З пелькі пракаветнае
Мілы дабрадзей,
Да святла прыветнага
Прылучаў людзей.

Пастырам спагадлівым
Быў - яго пара:
Біблія - здагадлівы -
Лепей буквара!

Раз хацеў прасветленым
Бачыць свой народ,
Значыць, быў імпэтным ён,
Не з пустых парод.

Думкі ў марах спелячы,
Жыў, каб люд любіць:
Значыць быў ён велічным,
Гэтакім і трэба быць!

**На небе памірыліся**

З вакном на браму Слуцкую
Дом на вуглу стаіць,
Святую тайну суткамі
Ў самім сабе таіць.

Што ў ім было, не ведаем:
Час - цынік, нігіліст,
Навук жывых магістр,
Суворы кальвініст.
Загнаны перасследамі -
Золь зімамі і летамі -
Вярстае першаліст...

Друкарня тут стваралася,
Зара тут разгаралася,
Тут дух замольваў плоць;
Святло на сілу бралася,
Тут грэўся сам Гасподзь...

Каталікі ж пакутнаму
Цалялі, каб пад дых.
Цяпер жа помнік Буднаму -
З касцёлам упрытык!

Іронія - хоць плоская:
Глядзі, запамінай.
Парада людцам Боская:
Святлу не замінай!

Ў адным катле варыліся,
За першынство сварыліся,
Дабру не пакарыліся
На гордай паласе,
Цяпер вось памірыліся,
Хутчэй жа што змарыліся
На небе веры ўсе.

**Ён ведаў**

*Мне помнік паставяць на вёсцы,*
*І ўведаюць аб пагалосцы*
*І ворагі ўсе, і сябры;*
*Стаяць мне хутчэй на гары...*
***Мікалай Рубцоў.***

Да яго ідучы скрозь плошчу,
Прыпыняюся, чуць крочу
І шапчу: “Імпэт свой збаў...”
Я Сымону ўсё ж зайздрошчу:
Эх, каб я вось так стаяў!

Можа дзесь таксама стану,
Мо на ўзгорачку якім,
Калі лёс будзе такім,
Што радком душу дастану,
Пусцяць слёзкі прастакі.

Вечарам у крэсле з сумам,
Дзён разблытваючы ніць,
Каб у сне ўсё гэта сніць,
Ці ён марыў, ці ён думаў,
Што ў метале празвініць,

Упадобіўшыся бонзе,
У шыкоўнай, вабнай бронзе,
Што ад сонца аж пяе,
Ён паўстаў у сціплай позе,
І на спёцы, на марозе
Кнігу нам чытаць дае...

Церпячы ад козняў бедаў,
Ледзве не спазнаўшы крах,
Я упэўнены - ён ведаў:
Застанецца што ў вяках.

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Уладзіслаў Станіслаў Рэймант***

# 1794 год

*“Нясвіжскія каеты” бяруць на сябе смеласць пачаць друк на беларускай мове гістарычнай трылогіі Уладзіслава Станіслава Рэйманта «1794 год» (1913-18) пра нацыянальна-вызвольнае паўстанне пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі. Гэты твор па-беларуску не друкаваўся ніколі. У 1994 годзе менскае выдавецтва “Беларусь” выдала першы том трылогіі “Апошні сойм Рэчы Паспалітай” на рускай мове. Пераклад Я. Трапоўскага з польскага выдання 1929 года. Другі том “Nil desperandum” (“Не адчайвацца”) і трэці том “Insurekcia” (“Паўстанне”) па звестках, якія ёсць у нас, не перакладаліся.*

*Першы том будзе перакладацца з польскага выдання 1955 года (Wydawnictwo literackie. Krakow) з выкарыстаннем згаданага перакладу на рускую мову 1994 года.*

*Пераклад пачынае Станіслаў Суднік.*

# Апошні сойм Рэчы Паспалітай*

Хіліўся да ночы гарачы, дзіўна душны і ціхі вечар, калі з Батанічнага саду на Гарадніцы[1] ўзвілася ракета, пёрыстай стралой пранізваючы цемру.

Па гэтым знаку ўсе дрэвы і кусты пачалі расцвітаць і свяціцца markdown рознакаляровымі агеньчыкамі. Над каланадай палацыка, размешчанага на ўзвышэнні, зазіхацелі ініцыялы Сіверса[2] ў аздобе дубовых вянкоў, перавязаных стужкамі ў яго гербавых колерах, а ў высачэзных вокнах замільгаталі чырвоным полымем алебастравыя урны, апавітыя плюшчом.

Раптам расчыніліся шырокія падвойныя дзверы, хваля святла лінула на тэрасу, поўную ўдзячна выгнутых статуй багінь, амураў ды мармуровых вазаў, і цвёрдым моцным крокам выйшла дванаццаць паюкоў[3] у чырвоных, шчыльна аблягаўшых цела "чахчэрах"[4] і куртках, багата абабітых залатым пазументам; яны неслі запаленыя паходні і размясціліся на апошняй шырокай прыступцы лесвіцы.

Праз хвіліну з'явіўся пан Пуласкі[5], атачаны шматлюднай, шыкарна прыбранай, вясёлай сацыетай[6]. Ліўрэйные лакеі спешна выносілі за імі крэслы і лавы, але ўсе сабраліся каля балюстрады, абвешанай гірляндамі кветак, пільна ўзіраючыся ў

* Апошні сойм Рэчы Паспалітай быў скліканы пад націскам акупацыйных урадаў 17 чэрвеня 1793 года ў Гародні з праграмай ратыфікацыі трактатаў II падзелу і ўхвалення новай канстытуцыі. Як выбар паслоў на сойм, так і ход паседжанняў праходзілі пад рэжысурай тагачаснага расейскага амбасадара Якава Сіверса.

Значная большасць гарадзенскіх паслоў была паслушным начыннем у руках Расеі, а часткова і Прусіі. Асобную сепаратыўную групоўку стваралі літоўскія магнаты - Касакоўскія. Яны імкнуліся да атрымання дыктатарскай улады на Літве пры дапамозе захавання феадальных форм існавання і як найбольшага аддалення Літвы ад Кароны, высоўвалі планы уніі з Расеяй і пад яе скіпетрам.

Нешматлікую патрыятычную апазіцыю стварала група мазавецкіх паслоў.

Нягледзячы на яе супраціў, пад прэсінгам расейскіх штыкоў і пагрозаў з боку Прусіі, сойм падпісаў другі падзел, а таксама праект саюзнага трактата з Расеяй, аддаючы ў залежнасць ад Расеі астатнюю, вольную частку Польшчы. Сойм прыняў таксама праект новай канстытуцыі, якая ў сваёй галоўнай сутнасці вяртала формы кіравання, што мелі месца перад майскай канстытуцыяй, аднак у шэрагу канкрэтных артыкулаў захоўвала пэўныя здабыткі Чатырохгадовага сойму. Сойм закончыў свае паседжанні 25 лістапада 1793 года.

[1] Гарадніца - прадмесце Гародні.

[2] Сіверс Якаў (1731 - 1808) - расейскі генерал і дыпламат, са снежня 1792 г. амбасадар у Польшчы. У снежні 1793 г. адкліканы з гэтай пасады ў выніку крызісу рэпрэзентаванай ім палітыкі саюзу Польшчы з Расеяй і правядзення новага вострага палітычнага курсу, мэтай якога быў канчатковы падзел Польшчы.

[3] Паюк (з персід.) - лакей, прыбраны па-турэцку.

[4] Чарчэры (з турэц.) - порткі.

[5] Пуласкі Антоні (1750 - 1815) - генерал, намеснік кароннага маршалка Таргавіцкай канфедэрацыі, платны прыхільнік царскага ўраду.

[6] Сацыета (з лац.) - грамада, кампанія.

пустую дарогу, якая бегла з боку горада.

Прыціхлі нават шэпт і смех, і толькі пан Пуласкі мітусіўся няспынна, папраўляў пояс, адкідваў белыя адмашныя рукавы, аддаваў нейкія загады службе і музыкам, размешчаным у цяні каланады, і ўсё больш нецярпліва бегаў вачыма па дароге і па ілюмінаваных кустах, штохвілінна пакрыкваючы да згорбленага дзядка, які хадзіў за ім, як цень:

- Мосць Бароўскі, хоць бы не здарылася там чаго-небудзь ліхога.

Бароўскі нізка кланяўся, падмятаючы падлогу фалдамі кунтуша, разводзіў бездапаможна рукі і маўчаў, не адыходзячы ад яго ні на крок.

Прыяцелі пачалі кансаляваць[1] яго і жартаўліва супакойваць:

- Можа быць, адпачывае яшчэ пасля падвячорка ў пані кастэляншы[2].

- Або прыйшлося ехаць да яго вялікасці караля.

- Даю слова гонару, яго затрымалі, пэўна, пільныя эстафеты.

- Не crimen[3] яшчэ такое спазненне!

Некалькі ж саноўнікаў генеральнасці[4], якія стаялі ўбаку, пасмейваліся сабе паціху над заклапочаннасцю Пуласкага:

- Наглядна яго афрантуе[5].

- Карона ў яго з галавы не зваліцца, калі і пачакае.

- І так яму будзе занадта гонару.

- Выглядае, як бы амбасадар выпрабоўвае маршалкоўскае цярпенне.

- Як мне падаецца, наша генеральнасць прывучана і да большых прывацый[6],- заўважыў з мілай усмешкай малады чалавек з завостраным, снібы брытва, тварам, апрануты ў попельны хвастаты фрак, срабрыстую камізэльку і вузкія кюлоты[7].

Саноўнікі як бы не дачулі, і толькі адзін, з моцна выпуклым жыватом і адвіслым падвойным падбародкам, паспрабаваў пажартаваць:

- Горш за ўсё, што смажаніна высахне на падэшву.

- Але шампанскае лепш ахалодзіцца.

- Патрапіў ты ў самую кропку, мосць Война, бо я ўжо ледзь дыхаю ад спякоты і наперад абяцаю, што не спужаюся нават тузіна пузатых бутэлек.

- Пуза вашмосці вытрымае, але ці вытрымаюць запасы?

- Не турбуйся, вашмосць, за запасы. Напіткаў як вады. Сам бачыў, як пад'язджалі да эканоміі шміргельтавыя[8] вазы, нагружаныя даверху. На культурны фэст званілі бутэлечкі!

Война адкінуў назад злёгку завітыя валасы, раздзеленыя спераду праборам і спадаўшыя чорнымі кудламі на сапфіравы каўнер фрака, і, падпёршы падбародак залатой булавешкай кія, кінуў нядбайна:

- Прыпамінаю, суседнія potencje[9] нясуць ekspensa[10]. Не будзе недахопу ні ў чым і нікому.

- Плаціць, хто павінен, п'е - каму ахвота,- адказаў таўстун і, панізіўшы голас, шапнуў канфідэнцыйна, - Бакамп[11] стаіць за два крокі!

Война, не змяняючы жартаўлівага тону, выгукнуў:

- Па мне - хай толькі льецца бургундскае, а пра астатняе ніякага клопату!

- А для мяне - вянгерскае,- уставіў нейкі пан з чырвоным тварам, які плаваў у велізарным гальштуку, нібы ў белай місе.

- А па мне няма нічога лепш за ангельскае піва, але ў бутэльках! - смачна прыцмокнулі нечыя адвіслыя, падобныя на пячонку губы, адвіслы жывот, дугападобныя ногі, пясочны фрак і белыя панчохі.

- Judica me, Domine[12], калі я калі-небудзь зграшыў пераборлівасцю,- бахваліўся таўстун. - Усе могуць засведчыць, што я заўсёды на месцы пры ўсякай найцяжэйшай патрэбе і з любым непрыяцелем ваюю да апошняй кроплі...

---

[1] Кансаляваць (з лац.) - суцяшаць.

[2] Кашталянша - Марыянна Ажароўская, жонка гетмана Пятра Ажароўскага, войніцкага кашталяна, заўзятага прыхільніка прарасейскай палітыкі.

[3] Crimen (лац.) - злачынства.

[4] Генеральнасць - мова пра генеральнасць (галоўную ўладу) Таргавіцкай канфедэрацыі, заснаванай 14 траўня 1792 г. рэакцыйнай магнатэрыяй для пагаднення з царом супраць Канстытуцыі 3 траўня. Канфедэрацыя распусціла Гарадзенскі сойм 15 верасня 1793 г.

[5] Афрантаваць (з франц.) - зневажаць, абражаць.

[6] Прывацыя (з лац.) - прыкрасць.

[7] Кюлоты (з франц.) - порткі да калень.

[8] Шміргельтавы (з намец.) - грузавы, таварны.

[9] Potencje (з лац.) - сіла, магутнасць.

[10] Ekspens (з лац.) - кошты, выдаткі.

[11] Бакамп-Лясапольскі Кароль - міжнародны авантурыст, шамбелян Станіслава Аўгуста, расійскі агент і шпіён, павешаны людам Варшавы падчас паўстання 1794 года.

[12] Judica me, Domine (лац.) - Судзі мяне, Пане.

- Усім вядомы перамогі вашмосці пад Куфлевам.

Таўстун толькі рассмяяўся і, абвёўшы вакол хітрымі вачыма, працягваў далей з кароткахвіліннай цырымоннасцю:

- Не перабірай у напітках і не пытай, хто за іх плаціць. Хто заўсёды прытрымліваецца такога прынцыпу і хто мае няўтольную смагу, той можа шмат здзейсніць у жыцці, - прапаведаваў ён, што хвілю пырскаючы са смеху.

- Падгорскі[1] дарма не ўдае з сябе блазна,- шапнуў хтосьці ўбаку.

- Мусіць быць тут нейкая задняя думка.

- Франт, на чатыры нагі падкаваны. Прыхвасцень Бухгольцаў[2].

- А я з таго, што вяшчае пра сябе егамосць Падгорскі, раблю тую выснову, што прускі кароль павінен мець шчодрую руку, каб гасіць гэтакую няўтольную смагу..., - дзёрзка ўцяўў Война і пайшоў у бок дам.

- Ну пачакай, вашмосць,- гукнуўў яму наўздагон Падгорскі нейкім прыдушаным голасам, бо пачуў яго заўвагу. - Гэтаму свістуну больш люба ліслівіць падвікам[3], чым з намі весці сур'ёзную дыскусію. Залатое гэта, аднак, сэрца! - запэўніў з націскам.

- Затое язык, як у яшчаркі.

- І занадта ўжо шмат сабе дазваляе. Няма ў Гародні чалавека, каго б ён не закрануў за жывое. Нічога не шануе.

- Пра якія матэрыі разважаеце вашмосці? - спытаў Пуласкі, прыпыніўшыся.

Але раптам падняўся шум, і нехта крыкнуў на ўвесь голас:

- Мосці пане маршалку, ужо чуваць экіпажы!

Сапраўды, пачуўся тупат капытоў і глухі ляскат колаў, і неўзабаве з-пад навіслых галін дрэў замігацелі паходні конных ляўфераў[4], якія гналі, што сілы, а за імі высунулася на дарогу шыкоўная пазалочаная карэта, запрэжаная шасцёркай белых коней з пафарбаванымі на чырвона грывамі і хвастамі, акружаная хмарай імчаўшых наўскач казакоў у пурпуровых, развіваўшыхся халатахх і высокіх чорных шапках.

Загрымела крыклівa фанфара, і карэта, апісаўшы вялікае паўкола, прыпынілася пад тэрасай. Лакеі апусцілі падножку, а пан Пуласкі, спусціўшыся на апошнюю прыступку тэрасы, чалабітна вітаў вылазіўшага з карэты Сіверса і ўрачыста павёў яго. Ішлі, акружаныя колам з паходняў, скрозь натоўп, пакорна схіліўшы галовы ў трывожным маўчанні. За імі цяжка валокся з пахмурным тварам біскуп Касакоўскі[5] з паняй Ажароўскай.

Пасля працяглага цырыманіялу прадстаўлення гасцей пані кастэлянша загукала:

- Пане маршалку, а дзе ж той абяцаны сюрпрыз?

- Праз хвілю, і слова стане целам.

- Мы чакаем яшчэ графіню Камелі[6] і рэшту таварыства.

- Але тым часам павысыхаем ад цікаўнасці!

- А такія цуды распавядаюць пра прыгатаваныя надзвычайнасці.

- Вельмі цяжка будзе нас сёння здзівіць,- заўважыў з усмешкай Сіверс, падаючы Пуласкаму табакерку.

- Сапраўды, мы перажылі дзень, варты захаплення.

- Гэтая актава[7] імянін яснавяльможнага амбасадара застанецца памятнай у Польшчы.

- Назаўжды, скажы, вашмосць.

- Кронікі перакажуць яе памяці будучых пакаленняў.

- Шкада, што не ўвекавечыць яе Вянгерскі[8]! - кінуў кпліва Война, але яго заглушыў хор рабалепных галасоў.

Словы, п'яныя ад захаплення, фразы, бліскучыя, нібы вясёлка, мядовы шэпт і жабрацкія, погляды ліліся з усіх бакоў на сівую, у вытанчаных буклях, галаву амбасадара, які падтакваў усім, усміхаючыся ўвесь час вялай, як бы прылепленай да вузкіх вуснаў усмешкай паблажліваай дабрадушнасці. Хвілямі з любасцю датыкаўся выпешчанымі пальцамі да шырокай блакітнай стужкі ордэна св. Андрэя, які атрымаў у апошнія дні за правядзенне трактату аб падзеле[9], машынальна папраў-

---

[1] Падгорскі Адам - валынскі пасол на Гарадзенскі сойм, прускі агент.

[2] Бухгольц Людвік - прускі пасол у Варшаве ў 1776 - 1789 і ў 1792 - 1794 гадах.

[3] Падвіка (старапольс.) - жанчына.

[4] Ляўфер (з нямец.) - слуга, які апераджае світу пана.

[5] Касакоўскі Юзаф 91738 - 1794) - інфлянцкі біскуп, таргавічанін, чалавек, пазбаўлены ўсякіх прынцыпаў у барацьбе за пасады і грошы, за аказанне палітычных паслуг атрымліваў пастаянную пенсію ад царскага ўраду. Падчас варшаўскага паўстання загінуў на шыбеніцы па выраку Найвышэйшага крымінальнага суда.

[6] Графіня Камелі Марыянна - жонка каралеўскага шамбеляна.

[7] Актава (з лац.) - урачысты восьмы дзень пасля свята.

[8] Вянгерскі Тамаш Каятан (1755 - 1787) - выдатны паэт эпохі Асветніцтва; яго творы з вострай сатырычнай зацятасцю бескампрамісна атакавалі маральнае разлажэнне магнатэрыі і духавенства.

[9] За правядзенне трактату аб падзеле - расейскі трактат аб Другім падзеле Рэчы Паспалітай, падпісаны соймавай дэлегацыяй 24 ліпеня.

ляў дыяментную зорку, ужываў тытунь і водзячы соннымі вачыма па тварах, звяртаўся час ад часу з якой-небудзь сухой заўвагай да Касакоўскага.

Біскуп адказваў вымучанай усмешкай, аднак паглядаў што раз змрачней і нярвова тузаў свой манталет[1], падшыты пурпурам; аж урэшце кісла звярнуўся да маршалка:

- Значыць, мы чакаем толькі графіню Камелі?

- І егамосця пасла прускага.

- Ксёндз біскуп недалюблівае нашай абаяльнай Эўрыдзікі[2], - шапнуў Сіверс, зачэплены яго легкаважным тонам.

Касакоўскі пачаў як прыдворны і з такім пафасам усхваляць голас і прыгажосць графіні, што ўражаны амбасадар узяў яго па-сяброўску пад руку і адвёў у бок, не зважаючы на шумную кавалькаду экіпажаў, якая вынырнула нарэшце з гушчару кустоў і імчалася па дарозе ў крывавым тумане паходняў, пад звон бомаў, галоп коней, крыкаў і рэзкіх стрэлаў бізунамі.

Нібы разбуджаная бура ўляцелі да пад'езда экіпажы - карыёлкі[3], віскі[4], карэты ды доўгія пацешныя вісавісы[5], і пеністая завіруха развяселеных пань і паноў рынулася на сходы і рассыпалася па тэрасе.

Адразу ўсе прыняліся нешта распавядаць, перакрыкваючы адно аднаго і выбухаючы рогатам. Графіня Камелі разам са слыннай прыгажуняй, князёўнай Чацвяртынскай, баранэсай Гейкінг і шамбяляншай Рудзкой атачылі пані Ажароўскую, распавядаючы пра нейкую нечувана камічную прыгоду.

- ...а потым разбіў гітару аб галаву лакея! - усклікала са звыш смешнай напышлівасцю графіня.- А мы на злосць гэтаму дзікуну спявалі, не перапыняючыся ні на хвілю. Я думала, што ён ад лютасці прымецца і нас біць. І, калі б не пані шамбелянша, хто ведае, што б там было. Ён ужо скрыгатаў зубамі, - выкрыквала графіня, падкрэсліваючы кожнае слова ўсмешкамі і гарачай жэстыкуляцыяй.

- Графіня, твой голас - гэта скарб чалавецтва. Трэба яго берагчы, - паўшчуваў яе па-бацькоўску Сіверс, накідваючы пурпурную шаль на яе аголеныя грудзі. - А хто ж быў гэты дзікі чалавек?

- Князь Цыцыянаў[6], наш шляхетны рыцар і абаронца, - адрэкамендавала баранэса, робячы іранічны рэверанс перад нізкім рабым панам нявызначанага ўзросту, з раскосымі вачамі.

- Які да таго ж зусім не ўмее кіраваць, - смяялася князёўна.

- Зусім няслушанае суспіце[7],- шапнула шамбелянша.

- Што меў рабіць, калі коні палохаліся звону гітары і кожную хвіліну гатовыя былі панесці. Мы маглі пазабівацца. А дамы на ўсе мае просьбы адказвалі толькі смехам, - апраўдваўся князь, моцна разгневаны

- І вам хацелася нас пабіць! Прызнайцеся, - напірала графіня, зазіраючы яму ў каламутныя, як бы вараныя вочы.

- Я б лепш паню праглынуў! - адгыркнуўся князь, акідваючы прагным, юрлівым поглядам яе бюст, ледзь прыпарошаны пурпурам.

- І мяне таксама? - дапытвалася настырна баранэса.

- Князь не Ірад і не харчуецца нявінніцамі, - абараняў князя, усміхаючыся, Сіверс і раптам ён рэзка павярнуўся, шапнуў штосьці графіні і адышоў з ёю да бакавога ўваходу, як быццам наўмысна пазбягаючы Бухгольца, які прабіваўся як раз да яго пад непрыязнымі поглядамі. Егамосць прускі пасол спыніўся, аглядаючыся даволі разгублена вакол, але тут побач з ім апынуўся Падгорскі, маршалак, яшчэ некалькі канфідэнтаў, якія з вялікай урачыстасцю звялі яго са сходаў, бо музыка грала ўжо паланэз, і таварыства высыпалася ў парк.

Лес крываваых, раздзіманых ветрам паходняў асвятляў ім дарогу.

Война ішоў адзін, скоса назіраючы за нейкім маладзёнам, які з некаторых пор неадступна блытаўся каля яго. Раптам абодва спыніліся, зірнулі адзін аднаму на блізкай адлегласці ў твар, і Война выклікнуў з іранічнай чуласцю:

- Няўжо, сапраўды, вочы мае зноў бачаць егамосця паручніка Севера Зарэмбу?

- Война! Казя Война! - ускрыкнуў у адказ здзіўлены юнак, кідаючыся ў распасцёртыя абдымкі. - Смерць я хутчэй мог бы чакаць тут сустрэць!

- Пашкадуй, мядзведзь, хоць бы маю куафюру!

- Такая сустрэча! Я насілу веру ўласным вачам.

- Праверыў на маіх рэбрах! - смяяўся Война, расціраючы свае бакі.

- Каб я мог цябе сустрэць у Гародні - мне не прыходзіла і ў галаву!

- Чалавеча, а дзе яшчэ я мог бы быць?

---

1 Манталет (з італ.) - кароткі плашч.

2 Эўрыдзіка - у грэцкай міфалогіі німфа, жонка Арфея, слаўная сваёй прыгажосцю.

3 Карыёлка (з франц.) - лёгкі двухколавы экіпаж.

4 Віскі (з франц.) - лёгкі экіпаж на высокіх колах.

5 Вісавіс (з франц.) - лёгкі экіпаж, які мае два сядзенні, адно насупраць другога.

6 Князь Цыцыянаў Павел (1754 - 1808) - расейскі генерал, камандзір грэнадзерскага палка ў Гародні.

7 Суспіцыя (з лац.) - падазрэнне, абвінавачванне.

- Я ўяўляў, што ты бавішся ў Варшаве ці на вёсцы.

Война меланхалічна засвістаў.

- Я яшчэ ўвесну прайграў Мёнчынскаму апошнюю жывую душу з Затораў. Усё д’яблы ўзялі cum assistentia militari[1], як пісаў мне мой мецэнат. А ў Варшаве мне таксама не было чаго тырчаць. Там ужо смярдзіць трупізнай, і засталіся адны старыя квахтухі ад пабожнасці пры прымасе, стогнучыя крэдыторы Тэпера[3] ды гарадская шушамець. Пустэльня, кажу табе! Дукат там такая ж рэдкасць, як дзявочая нявіннасць у Гародні. Можна знайсці яго ў Ігельстрома[4], але і той пасля выбараў[5] не так ужо шчодры. Уяві сабе, у апошні час у Ігельстрома мне ўжо не хацелі больш адпускаць у крэдыт ні адной бутэлькі. *O tempora, o mores!* [6] - як наракае наш добры Стась, калі Сіверс адмаўляе яму ў авансе. А таму я пакінуў няўдзячны горад і вось забаўляюся ў гэтым гарадзенскім раі.

- Мне казалі, што ты стаў кансультантам генеральнасці.

- Я не люблю ні аб’едкаў, ні трымацца за панскую клямку. А пры тым - голас яго загучаў смуткам - ці мог бы я здзекавацца над роднай маці? Таму жыву па-даўняму і як заўсёды, люблю жанчын, віно і золата. Вось і цяпер абяцаюся добра паесці на славу апекуна і, калі ўдасца, выйграць у "фараона" [7] трохі дукатаў.

- Дык гэта імпрэза ў гонар Сіверса?

- Ты пытаешся, як бы вярнуўся з антыподаў[8].

- Я прыехаў толькі сёння раніцай, цэлы дзень спаў, а на змярканнір мяне забраў з сабой стары таварыш, прывёз сюды, сам кудысьці падзеўся, зараз я сустрэў цябе і больш нічога не ведаю.

- Ну, калі так, забі сабе ў памяць сёння актава імянін Сіверса. У яго гонар, а таксама для выказвання ўдзячнасці за шчаслівае правядзенне, як гучна казалі, "альянснага" трактату, мы будзем весяліцца да світання. Запомні добра гэты чацвер 1 жніўня 1793 года.

- А хто ж так заўзята траціцца на гэтыя святы?

- Пуласкі, віца-маршалак Таргавіцы і валынскі пасол, але не надарвецца шляхціц, не застанецца ў накладзе, усе выдаткі яму вернуцца, з немалым лішкам, з амбасадарскай шкатулкі. Саноўнікі генеральнасці заўсёды вельмі шчодрыя, але за чужы кошт...

- Я з задавальненнем палюбуюся на дзеячаў канфедэрацыі.

- Нажаль, самога *Trifolium*[9], найсвяцейшай тройцы ты ўжо не ўбачыш. Падобна на тое, што з дома, які павінен заваліцца, першымі ўцякаюць птушкі. Можа быць, таму Шчасны-Патоцкі[10] ў Гамбургу цешыцца з дорага аплачанай Вітавай[11], Браніцкі[12] ў Пецярбургу абівае антышамбры[13] Зубава[14], а Ржавускі[15] закапаўся ў вёсцы - вучыць карчмароў, як лепш спойваць мужыкоў, і піша навуковыя

[1] Cum assistentia militari - для падтрымкі войска.

[2] Прымас - Міхал Ежы Панятоўскі (1736 - 1794), брат караля, у перыяд Чатырохгадовага сойму займаў рэакцыйную пазіцыю, спачатку прыхільніка прарасейскай палітыкі, ад кастрычніка 1793 года стаў зацятым прыхільнікам Прусіі. У час паўстання прадаў прускаму каралю планы абароны Варшавы, выкрыты, атруціўся са страху перад адказнасцю.

[3] Тэпер Пётр - варшаўскі банкір і купец; збанкрутаваў у 1793 годзе.

[4] Ігельстром Ота (пам. 1817) - генерал, са снежня 1792 г. галоўнакамандуючы расейскіх войскаў у Польшчы, у снежні 1793 г. прызначаны надзвычайным паслом, адпраўлены ў адстаўку пасля варшаўскага паўстання 1794 г.

[5] ... пасля выбараў ... - пасля выбараў на Гарадзенскі сойм.

[6] O tempora, o mores! (лац.) - О, часы, о норавы! (Цытата з прамовы Цыцарона.)

[7] Фараон (з грэц.) - азартная гульня ў карты.

[8] ... з антыподаў ... (з грэц.) - з другога паўшар’я.

[9] Trifolium (лац.) - канюшына; так называлі Шчаснага Патоцкага, Ксаверыя Браніцкага і Севярына Ржавускага, правадыроў Таргавіцкай канфедэрацыі.

[10] Шчасны Патоцкі (1752 - 1805) - ваявода рускі, генерал кароннай артылерыі, генеральны маршалак Таргавіцкай канфедэрацыі, на фоне 2-га раздзелу Польшчы, са страху перад адказнасцю выехаў у Пецярбург, а потым на захад. У 1794 годзе ў час Касцюшкаўскага паўстання Найвышэйшы крымінальны суд прыгаварыў яго завочна да пакарання смерцю.

[11] Вітава - Зоф’я Клявоне, слынная прыгажосцю, па паходжанні грачанка, жонка маёра дэ Вітэ, потым Шчаснага Патоцкага, які адкупіў яе ў Вітэ за паўтара мільёны польскіх злотых.

[12] Браніцкі Францішак Ксаверы (к. 1720 - 1819) - гетман вялікі каронны, адзін з першых па рэгаліях і маёмасці сярод польскіх магнатаў, безаглядны прыхільнік старога парадку. Уцёк ад адказнасці за другі падзел Рэчы Паспалітай у Пецярбург. Падчас Касцюшкаўскага паўстання прыгавораны завочна да пакарання смерцю.

[13] Антышамбр (з франц.) - пярэдняя.

[14] Зубаў - Платон Зубаў (1767 - 1822), расейскі генерал і дыпламат, фаварыт Кацярыны ІІ, які ў той час кіраваў польскімі справамі.

[15] Ржавускі Севярын (1743 - 1801) - гетман польны каронны, правадыр і ідэолаг рэакцыйнага магнацкага лагера. Пасля 2-га раздзелу Польшчы ў 1793 г. адышоў ад палітычнага жыцця. Падчас Касцюшкаўска паўстання завочна прыгавораны да пакарання смерцю.

статуты для сваіх эканомаў пра тое, як дзерці шкуру з прыгонных. Часам ён з'яўляецца ў Гародню, асабліва калі яму пагражае вайсковая экзекуцыя, наскардзіцца прусакам і каралю, панаракае на заняпад вольнасці і, уласкавіўшы Сіверса, знікае. Але драбнаты таргавіцкай не бракуе, нагледзішся, кішаць, як пчолы, над мёдам амбасадарскім. Сёння гэта самая шматлюдная фракцыя.

- Ёсць яшчэ ў Рэчы Паспалітай і сумленныя! - выклікнуў Зарэмба з такім жарам, што Война ўважліва азірнуўся і шапнуў яму на вуха:

- Глядзі, каб чаго лішне шчырага не сказаў на людзях. Тут сцены маюць вушы. Асабліва асоба апекуна і альянткі недатыкальныя. Кожнае слова данясуць. Мабыць, я адзін яшчэ маю privilegium[1] гаварыць, што мне падабаецца, таму што мяне ведаюць як кастэра[2] і п'яніцу. А так нямала ўжо неасцярожных згінула потым кудысьці бясследна...

- Ты гаворыш неверагоднае. А дзе ж воля? Дзе кардынальныя правы[3]?

- Пакуль што ў закладзе ў Сіверса. Ідзём хутчэй, а то зоймуць усе лепшыя месцы.

Дагналі таварыства, якое сабралася над Гараднічанкай[4] і захаплялася нечаканым відовішчам.

Над дзіка парэзаным і зарослым хмызняком ярам, па дне якога булькатала рачулка, узвышаўся ўвянчаны купалам турэцкі шацёр у жоўтыя і зялёныя палосы, падбіты карамзінавай кітайкай, і так шыкоўна абстаўлены, што вялікі стол угінаўся пад цяжарам срэбра, парцаляну, крышталю і агнёў у алебастравых урнах. А побач з ім, на пагорыстым беразе і ў штучна насаджаных ружовых баскетах[5] стаялі прысадзістыя кітайскія пагады з загнутымі дагары дахамі з зялёнай саломы, абапёртых на пазалочаных, апавітых гірляндамі з кветак цмоках. Кожная пагада была прыгатавана толькі на дзесяць персон і зіхацела, нібы раскрыты сэпат[6] ад срэбра, кандэлябраў з пазалочанай бронзы і марцыпанавага парцаляну філіграннай аўгсбургской работы[7], якія аздаблялі сталы.

- Сапраўды, аспект[8] незвычайны! - пахваліў сам Сіверс, а за ім і іншыя наперагонкі славілі ўдачную ідэю маршалка.

Пуласкі, вельмі абрадаваны ўсеагульнай ухвалой, раз-пораз адкідваў назад белыя разразныя рукавы свайго кунтуша і шырокім жэстам запрашаў да сталоў, асабіста рассаджваючы дам і найважнейшых гасцей.

Першым у шатры пасадзіў ён Сіверса, вакол яго занялі месцы амбасадары суседніх дзяржаў, значныя дамы, біскупы, міністры Рэчы Паспалітай і найбольш важныя паслы сойма. Астатнія госці занялі пагады, складаючы кампаніі адпаведна сімпатыям, сувязям і прыяцельскім адносінам.

Война павёў Зарэмбу ў знаёмую кампанію і сеў побач з ім, каб свабодна пагавэндзіць. Але не схаваў яго ад пільных жаночых поглядаў і задзірлівых усмешак.

- Прадказваю табе вялікі поспех у жанчын,- шапнуў ён, са шчырым захапленнем любуючыся яго адважнай мужчынскай прыгажосцю.

- Я дбаю пра тое, як пра леташні снег.

Пачырванеў, аднак.

- Значыць, не забыта яшчэ прыгажуня Іза?

Север звёў балесна бровы, нібы штосьці яго ўцяла пад рабро.

- Прыгожая шамбелянша, - працягваў Война, - сядзіць у шатры паміж англійскім паслом і Машынскім[9]. Ты не заўважыў?

- Не цікавіўся, - адказаў Север скрозь зубы.

- Гэта мой “друг сардэчны”, мосці пані падкаморша, дабрадзейка! - прадставіў яго Война шыкоўнай даме, якая сядзела побач.

Карлік-негрыцёнак, падобны на чорную малпу, стаяў за яе крэслам, трымаючы ў руках шаль і розныя туалетныя аксэсуары.

Падкаморша што хвіля абмахвалася веерам, аглядаючы ў той жа час Севера з увагай і немалым досведам. Пані была асоба ўжо трохі ў гадах, але яшчэ вельмі прыгожая, буйна расцвіўшая і так грунтоўна аголеная, што Зарэмба не ведаў, куды падзець вочы.

- Удава, некалькі тысяч душ у цэзарскім кардоне, усё жыццё ў амурах і шчодрая для сваіх

---

[1] Privilegium (лац.) - прывілей.

[2] Кастэра - ігрок.

[3] Кардынальныя правы - зацверджаны соймам 1768 г., утрымлівалі галоўныя прынцыпы палітычна-грамадскага ладу феадальнай Польшчы, у т.л. вольныя выбары і liberum veto. Кардынальныя правы былі гарантаваны Кацярынай ІІ, зацікаўленай у анархіі дзяржаўнага ладу Польшчы.

[4] Гараднічанка - прыток Нёмана.

[5] Баскет (з франц.) - гаёк.

[6] Сэпат (з тур.) - куфар, акутая скрыня.

[7] Аўсбургская работа - паходзіць з Аўсбурга, сталіцы Баварыі, дзе былі моцна развітыя мастацкія промыслы.

[8] Аспект (з лац.) - від.

[9] Машынскі Фрыдарык (1787 - 1817) - віцакамендант Корпусу кадэтаў, маршалак вялікі каронны, таргавічанін, член Нястомнай рады (орган найвышэйшай выканаўчай рады, установлены на падзельным сойме ў 1773 г.), зацяты прыхільнік прарасейскай палітыкі.

amis[1],- прасвячаў яго шэптам Война, бавячыся яго збянтэжанасцю.

- Патрымай мне, вашмосць!

Голас мела нізкі, вельмі прыемны, па-французску гаварыла з бярдзічаўскім акцэнтам.

Зарэмба з трапятаннем узяў у рукі веер, увесь з карунак, працятых золатам. Праз хвілю кінула яму белыя пальчаткі, размаляваныя мініяцюрамі на вельмі фрывольныя міфалагічныя тэмы, і, узяўшы ад негрыцёнка бальзамінку[2], выразаную ў агаце[3], срэбнае люстэрачка і абсыпаную каштоўнымі камянямі пудраніцу, напудрыла твар, надушылася і прамовіла ціха:

- Я вас не сустракала ні на якіх асамблеях[4].

- Я толькі сёння прыехаў, - адказаў Север, здзіўлены яе туалетным рытуалам і бесцырымоннасцю.

Пані падкаморша ўсміхнулася, бліснуўшы асляпляльнымі радамі зубоў, і спытала, пільна ўзіраючыся ў яго моцна падведзенымі вачамі:

- Вашмосць з-пад якой харугвы?

Зарэмба здзівіўся яе пранікліваcці, аднак пamarудзіў з адказам.

- Я пазнаю салдата ва ўсякім уборы і ніколі не памылюся. А ў якім вы чыне? - не адставала падкаморша.

Зарэмба імкнуўся адкараскацца ад яе кароткімі жартамі, калі Война зноў зашаптаў:

- Папярэджваю цябе, што гэтая гэтак апетытная і вялізная тэрыторыя, якая дае такія салокія інтраты[5] ўжо *cum boris, lasis et graniciebus*[6] у часовай арэндзе.

Пырснуў на заканчэнне вясёлым смехам.

Пані падкаморша звяла сабаліныя бровы, падазрона наставіла вушы, абцяжараныя велізарнымі дыяментамі, але на шчасце падняўся вялікі шум, бо з'явіўся егамосць Бароўскі, а за ім, уся ў белым, кагорта кухарчыкаў з велізарнымі срэбнымі паўмісамі, пузатымі вазамі, рондалямі і падносамі, якія дыміліся духмянымі парамі; іншыя, у зялёных паляўнічых куртках, неслі віны ў бутэльках, гарлачах, старажытных збанах, аброслых імохам графінах, пазначаных на сургучы чорнымі крыжыкамі; трэція, у пунсовых фраках, белых панчохах і ўтапіраваных[7] парыках, неслі пазалочаныя куфэркі з лікёрамі, наліўкамі, смачнымі антыпастамі[8] на перакуску; а ў канцы з’явіліся велізарныя паюкі, якія сталі за крэсламі паслухмяным шэрагам, з ручнікамі напагатове. Егамосць Бароўскі, як дасведчаны ў сваёй справе, даў нямы знак, і баль пачаўся.

Музыка прыцішанымі хвалямі наплывала аднекуль здалёк разам з водарам сена і вянуўшых кветак.

Вечар быў вельмі цёмны і гарачы, як быццам ішло да буры, неба навісла цяжкай, алавянай плітой, на захадзе ўспыхвалі кароткія, бялявыя бліскавіцы, аднекуль ад Ласосны[9], даносіўся спеў пеўняў, і час ад часу глухія, далёкія грымоты скалыналі паветра, сяды-тады ўзрываўся сухі, гарачы вецер і разгойдваў дрэвы, аж трашчалі галіны, і прыгасалі агні ілюмінацыі.

А на фоне гэтай цёмнай, неспакойнай ночы шацёр з купалам узвышаўся, зіхацячы агнямі, нібы храм, у якім як быццам здзяйсняліся нейкія таямнічыя містэрыі. Запаленыя урны і крышталі рассейвалі вакол вясёлкавы пыл, у смузе якога людзі і прадметы набывалі прывідныя абрысы. Усё здавалася неапісальна цудоўным сном. Погляды зіхацелі бліскавічнымі мігценнямі, а твары і аголеныя плечы жанчын былі нібы вытачаны з перламутру, апырснутага бірузой; фарбы ўбораў прыціхлі, зліваючыся ў цёмныя хвалі лалаў, смарагдаў і золата, прыпарушаныя дзе-нідзе серабрыстай пенай карунак. Нават беласць абрусаў адлівала вясёлкай мыльных бурбалак, а парцалянавыя статуэткі, расстаўленыя пасярод стала танцавальным карагодам муз, здавалася таемна рухаюцца ў гэтым чароўным асвятленні.

Сіверс, седзячы ў фатэлі, вызалачаным як трон, здаваўся грозным боствам, да якога паўзлі ўсе ліслівыя погляды, хіліліся ўсе галовы і плылі ўсе ўздыханні. Нават само маўчанне, здавалася, набрынялым трывожнай павагай і неспакоем.

У шатры панавала глыбокая, паважная стрыманасць. Гаварылі трохі, шэптам, узважваючы кожнае слова, кожны погляд, кожны рух. Нават звон парцаляну і срэбра імкнуліся заглушыць, прыслуга ж ішла нясмела, на цыпачках, нібы цяні. Усе нудзіліся з вялікай урачыстасцю і важнасцю.

Таму пад намётам панавала непамерна суро-

[1] Amis (франц.) - прыяцель.

[2] Бальзамінка (з грэц.) - флакон для парфумы.

[3] Агат (з грэц.) - паўкаштолўны камень, празрысты, з бела-зялёнымі пералівамі колераў.

[4] Асамблея (з франц.) - сяброскі збор, забава.

[5] Інтрата (з італ.) - выгада, прыбытак.

[6] *Cum boris, lasis et graniciebus* (лац.) - макаранічы абарот, які ўжываўся ў даўняй судовай мове і абазначаў куплю маёнтка ў абазначаных межан зямлі без выключэння лясоў.

[7] Утапіраваны (з ням.) - начэсаны грэбенем.

[8] Антыпаст (з італ.) - закуска, прысмакі.

[9] Ласосна - прадмесце Гародні.

вая стрыманасць. Размаўлялі няшмат і шэптам, узважваючы пры гэтым кожнае слова і кожны рух.

Нават стук фаянсу і срэбра быў сцішаны, а служба перасовалася баязліва, на пальцах, нібы ледзь бачныя цені.

Нудзіліся таксама ўрачыста і з вялікай годнасцю.

А вось у альтанках панаваў зусім іншы дух.

Спачатку і там сцішалі галасы, аглядаючыся на высокіх персон пад намётам, але калі пранеслі ўжо некалькі страў і празвінелі першыя келіхі, уся стрыманасць знікла, і настроі пачалі зрывацца з павадкоў. Шляхта ела, піла, даючы волю прыроднай весялосці.

Досціпы стралялі, нібы ракеты, кружыліся з вуснаў да вуснаў, разам з куфлямі, як віно, узбуджаючы ўсеагульная весялосць. Пасыпаліся пікантныя анекдоты пра ксяндзоў. Знайшоўся нават аддрукаваны на блакітным лісточку паперы вельмі непрыстойныя вершык на Бухгольца, абляцеў усе сталы і, выклікаўшы выбухі бурнага рогату, знік некуды бясследна. Забаўляліся што раз весялей. Прыслуга нястомна сачыла за келіхамі, віно лілося ракой, румяніліся твары, акрыляліся фантазіі, сэрцы перапаўняліся цяплом, раслі жаданні. Вочы ў жанчын блішчалі, як зоркі, вільготныя ж іх усмешкі і аголеныя плечы не аднаму ўжо туманілі галаву. За раскрытымі веерамі завязваліся сцішаныя дыялогі, вырываліся палымяныя ўздыхі і хвалявалі грудзі.

Але калі забава станавілася занадта шумнай, і лішне горача стралялі выбухі смеху, то тут, то там з'яўляўся згорблены сілуэт егамосці Бароўскага, і настрой неяк дзіўна сам прытухаў; прыціхалі адразу размовы, твары хмурнелі, вееры нямогла апускаліся, трывожныя позіркі ляцелі да намёта.

- Забаўляемся, быццам хаўтуры спраўляем, - заўважыў нехта ціха.

- Дзе занадта шмат духавенства, там вельмі нуднае набажэнства.

- Ну і няхай сабе нудзяцца, але чаму мы мусім спяваць “Горкія жалі”?

- Казаў Бароўскі, што амбасадару сёння моцна нядужыцца...

- І конь бы стаміўся, калі б яго так цэлы дзень ушаноўвалі.

- Адна толькі пані Ажароўская нястомная...

- Адпасцілася пасля Штакельберга[1], зараз трэба паклапаціцца пра пераемніка! - вырваўся нечы дзёрзкі голас.

Яму адказаў дружны смех, і гутаркі на гэту тэму пацяклі такія з'едлівыя, да таго перасыпаныя таварыскім зласлівым дэлятарствам[2], што Зарэмба з гаркатой заўважыў:

- У Польшчы лепш быць з людзьмі ў вайне, чым у сяброўстве.

- Гэты ты дакладна патрапіў! - пацвердзіў Война. - Не мог у нас нарадзіцца Кастар, таму што Полюкс[3] прадаў бы яго за першы ўдалы жарт. Але ж так прыемна смяяцца над бліжнімі! - засмяяўся ён цынічна. - Паглядзі, як важна вунь той над намі пануе! - дадаў ён, паказваючы вачамі на сівую галаву Сіверса, бачную над усімі скрозь шырока раскрытыя крылы намёта.

- З такімі для нас правентамі[4], як ад ботаў Карла XII шведам[5].

- А што так сама ён нас успрымае, то мы і б'ём перад ім паклоны. Падумай толькі: ніколі і нікому Рэч Паспалітая не аказвала такіх ушанаванняў. Нават сойм залімітавалі[6] да суботы, каб не замінаць авантажам[7]. Вось таму мы і ўлагоджваем яго з ўсёй сілы. Увесь імянінны тыдзень мы носім яго на руках, абсыпаем кветкамі, усхваляем, нібы праўдзівага збаўцу. А ўжо сённяшні дзень праводзім у найвялікшай працы! Ведаеш, раніцай біскуп Скаршэўскі[8] адслужыў у яго гонар імшу. Пацешна, ці не праўда?

- І як гэта пярун не ляснуў яго ля алтара! - буркнуў Зарэмба.

- А, шкада! Відовішча было б даволі эфектнае. А днём нунцый[1] даў абед на шэсцьдзесят персон. Не бракла там ні шампанскага, ні тостаў. Пілі

---

[1] Штакельберг Ота Магнус (1736 - 1800) - у 1772 - 1790 гадах расейскі амбасадар у Варшаве.

[2] Дэлятарства (з лац.) - абвінавачванне.

3 Кастар і Полюкс - грэцкай міфалогіі блізняты, якіх звяхвала непарыўная любоў.

[4] Правент (з лац.) - даход, прыбытак.

[5] ... як боты Карла XII ... - алюзія да ўладарання Карла XII (1697 - 1718), якое скончылася ўпадкам магутнасці Швецыі.

[6] Залімітаваць (з лац.) - адкласці.

[7] Авантаж (з франц.) - тут: урачыстасць, рэпрэзентацыя.

[8] Скаршэўск Войцех (1742 - 1827) - біскуп хэлмскі, а потым люблінскі, праціўнік Канстытуцыі 3 траўня, атрымаў ад Таргавіцкай канфедэрацыі годнасць вялікага кароннага падканцлера, належаў да соймавай дэлегацыі, якая падпісала ІІ раздзел Рэчы Паспалітай; адданы царскі прыхілінік. Падчас Касцюшкаўскага паўстання быў прыгавораны як здраднік да пакарання смерцю; дзякуючы заступніцтву папскага нунцыя прыгавор зменены на пажыццёвае зняволенне. Пасля паразы паўстання вярнуўся на пасаду люблінскага біскупа, аў 1824 г. дачакаўся годнасці прымаса.

[1] Нунцый - Фердынанд Марыя Салюза-Салюзі быў нунцыем у Польшчы ад 1784 да 1794 г., праваднік палітыкі Ватыкана, цесна супрацоўнічаў з расейскай амбасадай.

мы за яго здароўе, за здароўе яго дочак, яго ўнукаў, а, можа, нават і за яго лакеяў. Чаго не зробіць паляк, калі яму захочацца! Потым паехалі на падвячорак з неспадзеўкамі; уладкавала яго пані Ажароўская. Сюрпрызы былі найвышэйшага гатунку і спектакль непараўнальны. Ігралі "le pro-verbe" [1]. Выступалі найпрыгажэйшыя панны, з бездакорнай французскай. У антракце спявала боская Камелі, а брат яе граў на гітары. Потым салодкая, цнатлівая Юля Патоцкая, як звыкла, у атачэнні сваімі дзецьмі, адтанцавала шалёны казачок. Божа, якія там былі прысяданні і падбрыкванні! Мы ўпалі ў шал захаплення, плакалі ад шчасця, і шампанскае лілося фантанамі. А напрыканцы адбылося як бы ўслаўленне высокапастаўленага юбіляра. Нумар быў нікуды не варты, вершы кульгавыя, французская мова ганебная і сэнсу ні на грош, але паколькі ўзнімаў да нябёсаў вялікага мужа, пасланага нам провідам, то мы знайшлі яе захапляльнай і не шкадавалі бурных апладысментаў аўтару. А вымучыў з сябе гэты шэдэўр, нямала папацеўшы над ім, не хто іншы, як былы курляндскі пасол, барон фон Гейкінг, а цудоўная ж баранэса ...

Ён замоўк, бо зайграла раптам музыка, раздаліся грымучыя віваты і ўсе паўставалі з-за сталоў.

- Што здарылася?

- Пуласкі падняў тост у гонар егамосці караля.

- Няхай пойдзе яму на здароўе! - шапнуў Война, стукаючыся з найбліжэйшымі.

- Дык вось, цудоўная баранэса,- працягваў ён,- сыграла напрыканцы цудоўную "Marquerie" [3]. Можаш уявіць сабе, як мы яе ўспрымалі!

- А чаму гэтулькі гонару?

- Спытай у тых, - Война паказаў на намёт.- Я ведаю толькі, што забаўляўся па-каралеўску, і выключна спрыяла мне Фартуна.

У Зарэмбы на вуснах былі нейкія з'едлівыя словы, але ён гвалтоўна павярнуўся, пачуўшы дакорлівы голас падкаморшы:

- Вашмосць, не дае мне рэспонсу[4]...

- Бо не дачувае,- выбавіў яго паспешна Война. - У яго падтупілася чуласць да салодкіх слоўцаў, - пыркснуў ён смехам на заканчэнне.

- Васпан - непачцівы насмешнік! - сыкнула падкаморша, пранізаўшы Войну позіркам.

- Што вы, пані падкаморша, дабрадзейка.

- Цішэй там! Мосці панове, просім цішыні! Пуласкі бярэ слова! - падняліся адусюль воклічы, і праз хвіліну запанавала чаканае маўчанне, поўнае толькі булькатання разліванага шампанскага.

Усе павярнулі вочы на Пуласкага, які стаяў насупраць Сіверса і падымаючы келіх гукаў гучным, урачыстым голасам:

- ...жыве найяснейшая імператарская яе мосць Усея Расеі і наша найміласцівейшая саюзніца!

- Жыве! - загучаў намёт крыкамі і звонам келіхаў.

- Жыве! Брава! Жыве! - паўтарыла сотня зычных горлаўк з-за ўсіх сталоў, і раптам гухнула звонкая фанфара; працягла завылі медныя трубы, а на ўзгорка рыкнулі гарматы і білі раз за разам, аж трэслася зямля і крывавыя бліскі выкідваліся ў цемру.

- Пі ж! Гэта не жарты! Глядзяць! - зашаптаў Война, ледзь не сілком прымушаючы Севера ўстаць. - Трохі горкае, але праглынуць можна...

- Ніколі! Ніколі! - мармытаў прыгнечана Север. Ён быў бледны, сэрца яго білася, нібы ашалелая птушка, пот выступіў на лбе, вочы дзіка загарэліся, і такі гнеў яго ахапіў, што келіх скакаў у яго ў руцэ, распырскваючы віно ва ўсе бакі.

- Запляміш мне вашмосць жупону[5]! - засцерагла падкаморша, адсоўваючыся ад яго.

Тост за імператрыцу выпілі адным духам, прагна падстаўляючы келіхі пад новыя бруі віна, бо музыка раптам змоўкла, крыкі заціхлі, а пан Пуласкі трохі схіліўшыся над сталом і ўтаропіўшыся круглымі крумкачовымі вачамі ў амбасадара, закрычаў, сяк бы ўторачы незмаўкаўшым гарматам:

- Мосці панове! Вып'ем за здароўе нашага юбіляра і сябра! Жыве яснавяльможны надзвычайны і паўнамоцны пасол найяснейшай імператрыцы яе мосці Усея Расеі, Якуба дэ Сіверса!

Прыгожым жэстам адкінуў ён белыя рукавы і пад гучныя крыкі "Віват" накіраваўся да яго з келіхам у руцэ.

Сіверс падняўся не без цяжкасці і, узяўшы кубак з рук Анквіча[5], пачаў стукацца з усімі, дзякуючы ў шчырых выразах за добрую памяць і зычлівасць.

---

[1] "Le proverbe" (франц. прыказка) - папулярны ў XVIII ст. кароткі сцэнічны твор, змест якога ўтваралі нейкія прыказкі.

[2] "Marquerie" - дакладна так у лістах Сіверса, адкуль узяў гэтую дэталь Рэймант. Можа друкарская памылка, замест *marquise* (маркграфіня) або *margueureuse* (гафцярка дарагой бялізны).

[3] Рэспонс (з лац.) - адказ.

[4] Жупон (франц.) - спадніца.

[5] Анквіч Юзаф (к. 1750 - 1794) - удзельнік працы Чатырохгадовага сойма, пазней для кар'еры стаў адным з найпалымянейшых прыхільнікаў Расіі. Усеагульна зненавіджаны загінуў на шыбеніцы 9 траўня 1794 года.

Паўстала таўкатня вакол раззалочанага фатэля.

- Мусім ісці з усімі,- шапнуў Война, цягнучы прыяцеля за сабой.

- Таўкатня, нібы перад алтаром.

- Усемагутнай Фартуне - гонар і пашана. Гэта адзінае боства!

Але калі яны ўвайшлі ў кола святла, якое падала ад агнёў з шатра, Зарэмба здрыгануўся раптам, спыніўся на імгненне і адразу як бы рынуўся з галавой у бездань нейкіх вачэй, ззяўшых у глыбіні намёта.

- Іза!

- Север!

Шугануў крык двух поглядаў, якія вырваліся з самага дна ўзаемнай нуды, і, штурханыя непераадольнай сілай узаемнай цягі, абодва памкнуліся адзін да аднаго скрозь натоўп, што збіўся вакол Сіверса. Былі ўжо блізка адно да другога, што раз бліжэй...

- Мы спазняемся, гэта прымуць за непавагу, - кінуў Война, беручы яго з сілай пад руку.

Адразу рассеялася вясёлка募 чараў, і рэчаіснасць азірнула яму ў вочы сваім калючым, бязлітасным тварам. Зразумеў і, адразу авалодаўшы сабой, ганарліва падняў галаву, холадна і грэбліва пакланіўся Ізе, стукнуўся сваім келіхам аб келіх Сіверса і, не азірнуўшыся нават на тыя вочы, прыгаслыя ад здзіўлення, выйшаў з намёта. Ішоў, крокам забітага ў шарэнзе, аўтаматычна трымаючы недапіты келіх у руцэ і не ведаючы, куды ён накіроўваецца.

Апынуўся пад нейкім дрэвам, якое заступіла яму дарогу, і там толькі канчаткова апрытомнеў, трэснуў келіх аб зямлю, прыткнуўся плячамі да ствала і паспрабаваў узяць ашалелыя пачуцці і думкі ў жалезную аброць волі.

............................................................

Праз нейкічас вярнуўся да сацыеты, але пад намётам і ў пагадах мроілася толькі прыслуга, якая дапівала рэшткі, а ўсе сабраліся на пагорку за палацам, дзе пані Ажароўская ўласнаручна запальвала феерверк.

Адразу вырваліся расплеценыя косы чырвоных агнёў, падняліся ўгору і павольна апалі расістым дажджом гаснуўшых у паветры іскраў. Пасыпаліся воклічы захаплення і крыкі: "Брава!", сам Сіверс запляскаў. Яшчэ праз хвіліну моцная грымота затрэсла паветра, і ў прастору ўскінуліся велізарныя віхры зялёных агнёў, з улоння якіх, нібы з нетраў расступіўшайся зямлі, усплылі залацісталалавыя ініцыялы Сіверса; падымаліся павольна, велічна плылі ўверх, усё вышэй і вышэй, зіхацячы ўсё ярчэй і ярчэй, пакуль нарэшце не павіслі на доўгае імгненне ў чорнай бездані неба і так высока, як бы над усёй Рэччу Паспалітай...

Неўзабаве сарваўся ўслед за імі ўраган маланак, і пачалі біць угару са свістам і трэскам і свістам тысячы пламяністых розгаў і султанаў, атачаючы ініцыялы клубістым роем агнёў, дымоў і грымотаў.

Усе вусны анямелі ад здзіўлення, усе вочы завіслі, як бы змучыўшыся, на чадзейных ініцыялах, распятых на цемры. Раптам сярод усеагульнай цішыні раздаўся нечы магутны голас і хмурна выгукнуў:

- *Mane! Tekel! Fares!*[1]

Яму адказаў агульны смех і выбух шалёнай весялосці. Грымнулі бурныя авацыі і "віваты" ў гонар Сіверса, усе таўкліся каля, засынаючы захопленымі воклічамі. Найболей гарачыя нават хацелі падняць яго на руках, толькі гэтаму перашкодзіў Пуласкі, баючыся якой-небудзь прыгоды. Неўзабаве, аднак, з'явіліся гайдукі з велізарнымі графінамі, забранчалі зноў келіхі, пілі пад новыя тосты, з ўсё больш і больш бурнымі "віватамі". Ізноў загрымелі магутныя трубы фанфар, затрашчалі залпы карабінаў, прамовілі грымотным, важкім голасам гарматы, і зрабіўся з таго як бы гармідар грознай бітвы і лютых забойстваў.

Калі ж загаслі ініцыялы, увесь парк і ўзгоркі вакол бурна забулькаталі і, сапраўды жаролы вулканаў, сталі выкідваць грамы і снапы асляпляльных маланак. Штохвілінна ўзляталі ўвысь агністыя змеі, пырскалі фантаны, якія нагадвалі прыгажосцю каралавыя дрэвы, расцвіталі нечакана мудрагелістыя букеты, ззяўшыя тысячамі разнастайных кветак, успыхвалі зоркі, што круціліся з галавакружнай шпаркасцю, сыпаліся каскады смарагдаў, ліліся залатым ліўнем дажджы іскраў і пунсовыя грады лалаў. Тысячы агнёў узляталі адразу з шумным лопатам, нібы чароды рознакаляровых птушак.

*(Працяг у наступным нумары.)*

[2] Mane! Tekel! Fares! (халд.) - Палічана! Зважана! Распарушана! Паводле біблейскай легенды, прарочыя словы, напісаныя некалі рукой на сцяне падчас апошняга банкета вавілонскага караля Бальтазара; пераносна - прадказанне пагібелі.

# Нясвіжскія маляванкі



**Маляванка “Сіняя ваза”.**
**Аўтар Юзаф Мысліцкі. Алейныя фарбы, шкло. Знойдзена ў в. Сейлавічы. 60-я гг. XX ст. Маёмасць, інфармацыя: грамадская ініцыятыва “Фонд народных маляванак” (Нясвіж)**

# Нясвіжскія маляванкі



Маляванка “Вяночак”.
Аўтар невядомы (не засведчаны). Алейныя фарбы, шкло. Знойдзена ў в. Карцэвічы. 60-я гг. ХХ ст.
Маёмасць, інфармацыя: грамадская ініцыятыва “Фонд народных маляванак” (Нясвіж)